# pARTisan

## & Kultura Enter

Выпуск 16 2011

КУЛЬТУРА ЛЮБЛІНУ

SZTUKA WSPÓŁCZESNA LUBLINA

enter kultura. miesięcznik wymiany idei

ISSN 1689-7439

Jakiś czas temu Klinau opowiedział mi projekcie wydawniczym „Partizana" pt. „Niewidzialne rewolucje". To seria albumów, prezentujących dokonania współczesnych artystów białoruskich, którzy z różnych względów nigdy nie mieli możliwości zaprezentować się szerszej publiczności, a tym samym owa „szersza publiczność" nie miała okazji dowiedzieć się o tym, jaka w Białorusi sztuka współczesna jest, jak fluktuuje, podejmuję próbę samookreślania się i jak mierzy w przyszłość.

Wpadliśmy wtedy na pomysł z rodzaju tych, które są tak bardzo oczywiste, że nigdy, albo z trudnością się na nie wpada. Żeby poznać i skonfrontować polskich i białoruskich artystów, polską i białoruską sztukę współczesną, środowisko Lublina i Mińska. Z góry odrzuciliśmy próby całościowych komparatystyk w tej kwestii, potrzebnych skądinąd antologii, a skupiliśmy się na tym, co w naszym przekonaniu przyniesie efekt trwalszy – na poznaniu ludzi, zaprezentowaniu ich dokonań. Wzbudzeniu wzajemnego zainteresowania sobą.

Siłą rzeczy, aby takie spotkanie dało oczekiwane skutki, musi mieć ten bezpośredni wymiar, pewną intymność, której nie osiągnie się na najlepiej zorganizowanym wiecu. Dlatego w tym numerze prezentujemy artystów i sztukę współczesną Lublina. W kolejnym zaprezentuje się pod tym kątem Mińsk. W trzecim numerze powiemy o najnowszych tendencjach w sztuce współczesnej w Białorusi i w Polsce. Spotkamy się w trzech numerach specjalnych „Partizana / Kultury Enter".

Paweł Laufer, Artur Klinau

# pARTisan

## АЛЬМАНАХ СУЧАСНАЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Заснаваны ў 2002 годзе




Мінск І.П.Логвінаў 2011

**Заснавальнік Артур Клінаў**

**Рэдакцыйная рада:**
Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка,
Ігар Бабкоў, Лявон Вольскі,
Сяргей Дубавец, Валянціна Кісялёва,
Сяргей Харэўскі, Вольга Шпарага

**Ідэя праекту:** Артур Клінаў, Павэл Лаўфэр
**Галоўны рэдактар:** Артур Клінаў
**Рэдактар нумару:** Павэл Лаўфэр
**Рэдактары:** Вальдэмар Татарчук, Магдалена Лінкоўска, Лія Кісялева
**Сэкрэтар нумару:** Катажына Плебанчык
**Пераклад на беларускую:** Сьвятлана Курс
**Дызайн і вёрстка:** Маск & Feddenka Ryazanov's Fake Vintage Studio

**Адрас:**
вул. Чарвякова 18-63
220068 Мінск, Беларусь
**e-mail:** arturklinov@yahoo.de



**На вокладцы:** Уладзімеж Бароўскі», «IV Сынкрэтычны паказ", « Ахвяраваньне Печы », Пулавы, 1966. Фота: Э. Касакоўскі

АЛЬМАНАХ СУЧАСНАЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

# pARTisan

ISSN 1689-7439
enter kultura
miesięcznik wymiany idei





Lubelskie Towarzystwo
Zachęty Sztuk Pięknych






Пэўны час таму мы абмяркоўвалі выдавецкі праект альманаху «pARTisan» пад назваю «Нябачныя рэвалюцыі». Гэта сэрыя альбомаў пра здабыткі сучасных беларускіх мастакоў, якія з розных прычынаў ня мелі магчымасьці паказацца шырокай публіцы. А таму яна, «шырокая публіка», ня мела нагоды даведацца пра гэтае сучаснае мастацтва Беларусі, пра ягоныя флюктуацыі, спробы самавызначэньня й прыцэл у будучыню.

Тады ў нас нарадзілася ідэя з катэгорыі вельмі відавочных, якія, аднак, амаль ніколі не прыходзяць у галаву, — ідэя спазнаць і сутыкнуць польскіх і беларускіх творцаў, польскае й беларускае сучаснае мастацтва, асяродкі Любліну й Менску. Мы адразу ж адкінулі спробы суцэльнага параўнаньня, прыдатнага хутчэй пры складаньні анталёгіі, і засяродзіліся на тым, што, на нашую думку, прынясе больш трывалы эфэкт — на знаёмстве зь людзьмі, прэзэнтацыі іхных дасягненьняў. На ўзбуджэньні ўзаемнай зацікаўленасьці.

Натуральна, каб такое спатканьне дало жаданыя вынікі, патрабуюцца непасрэднасьць, пэўная інтымнасьць, якіх не дасягнеш на мітынгу, нават найлепш арганізаваным.

У гэтым нумары мы прэзэнтуем мастакоў і сучаснае мастацтва Любліну. У наступным з гэткага самага гледзішча будзе прадстаўлены Менск. У трэцім нумары мы распавядзем пра найноўшыя тэндэнцыі ў сучасным мастацтве Беларусі й Польшчы.

Сустрэнемся ў трох спэцыяльных выпусках «pARTisan / Kultury Enter».

Павел Лаўфэр, Артур Клінаў




**Уладзімеж Бароўскі**, «Фюбікі царб", галерэя «Пад Монай Лізай", 1969. Фота: М. Дыямэнт
**Włodzimierz Borowski,** „Fubki tarb", Galeria Pod Moną Lisą, 1969. Fot. M. Diament

Стварэньне люблінскай групы «Замак» аказалася значным ня толькі зь мясцовай, але і з агульнапольскай пэрспэктывы. Можна сказаць, што гэта, безумоўна, найлепш падрыхтаваная «мастацкая рэвалюцыя» ў польскім асяродзьдзі, зьвязаным з сучасным мастацтвам апошняга паўстагодзьдзя.

# Група «Замак»: незавершаная рэвалюцыя



Пётар Маеўскі

Ужо ў 1961 годзе Ежы Людвіньскі, адзін з найвыбітнейшых тэарэтыкаў і аніматараў сучаснага мастацтва ў Польшчы, пісаў пра мастацкую рэвалюцыю, якую зьдзейсьніла група «Замак» у люблінскім асяродзьдзі. У сваю чаргу, з пэрспэктывы часу Анка Пташкоўска, вядомая мастацтвазнаўца, сьцьвердзіла, што бяз групы «Замак» не было б легендарнай пляцоўкі польскага ньюавангарду 60–70-х гадоў — варшаўскай галерэі «Foksal». Па сутнасьці, распачынаючы сваю дзейнасьць у 1957 годзе, група «Замак» вызначыла паваротны момант у люблінскім мастацкім жыцьці, пракладаючы шлях для наватарскага й экспэрымэнтальнага мастацтва — своеасаблівы кірунак для альтэрнатыўнай культуры, якая з тых часоў разьвівалася ў Любліне амаль бесьперапынна аж па сёньняшні дзень. Утварэньне люблінскай групы «Замак» аказалася значным ня толькі зь мясцовай, але і з агульнапольскай пэрспэктывы. Можна сказаць, што гэта, безумоўна, найлепш падрыхтаваная «мастацкая рэвалюцыя» ў польскім асяродзьдзі, зьвязаным з сучасным мастацтвам апошняга паўстагодзьдзя, — але ці была яна завершаная?



**Чальцы групы «Замак».** Архіў тэатру NN
**Czlonkowie Grupy Zamek.** Foto ze zbiorow Tetaru NN

Нягледзячы на тое, што гісторыя гэтай мастацкай фармацыі належыць да абшару, які можна назваць «археалёгіяй новага часу» ў Польшчы, аднак важна адпаведнае прачытаньне ейнага значэньня з пэрспэктывы сучаснасьці. Дзейнасьць групы належала да важных мастацкіх зьяваў у Польшчы й разам з тым перагукалася з памкненьнямі позьняга мадэрнізму напярэдадні ньюавангарднага пераломy ў сусьветным мастацтве.

Трэба памятаць, што сёньня адбываецца сапраўды пераломная рэінтэрпрэтацыя мастацтва ў Польшчы пасьля 1945 году. Гэта шматгадовая гісторыя мастацтва, у нейкім сэнсе пісаная «наноў», найперш у зьвязку з палітычнымі зьменамі й свабодай слова, а ў апошнія гады — у сувязі з дасьледніцкім ажыўленьнем у польскіх музэйных установах, якія займаюцца мастацтвам новага часу й сучаснасьці. Працэс гэты ўсё яшчэ ў пачатковай стадыі, але ўжо прыносіць канкрэтны плён у выглядзе шматлікіх публікацыяў, навуковых сэсій, рэтраспэктыўных і праблемных выставаў, а таксама фармаваньня на новых прынцыпах калекцыяў мастацтва новага часу й сучаснасьці ў шматлікіх асяродках Польшчы, у тым ліку ў Любліне.

Сымптаматычна й тое, што Люблінскае таварыства заахвочваньня мастацтваў, заснаванае ў 2005 годзе, распачало стварэньне рэгіянальнай калекцыі сучаснага мастацтва ў Любліне з набыцьця карціны «Вока прарока» Ўладзімежа Бароўскага — аднаго з найважнейшых чальцоў групы «Замак». Гэтая карціна, намаляваная ў 1957 годзе, стала своеасаблівым «геральдычным знакам» люблінскай калекцыі, які акрэсьлівае далейшыя шляхі стварэньня збораў.

Важнай агульнапольскай падзеяй была й 50-я гадавіна ўтварэньня групы «Замак». У 2007 годзе ў Каталіцкім унівэрсытэце Любліну ў акадэмічным коле адбылася дыскусія «Група «Замак». У 50-ю гадавіну ўтварэньня» з удзелам чальцоў групы, іхных прыхільнікаў і сьведкаў мінулых падзей. Вынікам сталіся ёмістыя выданьні, у якіх былі сабраныя паасобныя публікаваныя раней матэрыялы й новыя дасьледаваньні творчасьці чальцоў групы[1]. Гэтая своеасаблівая «інвэнтарызацыя» таго, што ўжо вядома, і таго, што ўсё яшчэ чакае высьвятленьня, спарадзіла вострую патрэбу далейшай дасьледчыцкай працы, дала шэраг адказаў, але і паставіла новыя пытальнікі ў гісторыі польскага мастацтва часоў «адлігі».

Для польскага мастацтва новага часу пэрыяд «адлігі» быў ключавым. Без разуменьня таго, што сталася тады, немагчыма дакладна ацаніць такія фэномэны, як стварэньне групы «Замак» у Любліне. Нагадаем, што Польшча — бадай, адзіная краіна ў былым савецкім блёку, якая досыць хутка адкінула сацрэалізм як абавязковую культурна-мастацкую дактрыну. Гэтая дактрына панавала ў польскай культурнай палітыцы ўсяго некалькі гадоў (1949–55). У сярэдзіне 1950-х са шматлікіх прычынаў яна сталася «чужародным целам», якое не дапасоўвалася да польскай культуры, укаранёнай у заходняй мастацкай традыцыі. Пэрыяд, які ўмоўна называецца «адлігай», быў канчатковым зваротам у бок Захаду, першай, але не апошняй спробай вызваліць польскую культуру з кайданоў геапалітычна абумоўленай ідэалягічнай залежнасьці, сфармаванай пасьля Другой сусьветнай вайны ў гэтай частцы Эўропы. Праўда, «адліга», як вядома, прынесла ня поўную свабоду, а толькі частковую (Вітальд Гамбровіч з горкай іроніяй назваў гэта свабодай на 48%), аднак сацыялістычны рэалізм быў адкінуты, і вяртаньня да яго ў Польшчы ўжо не было.

Калі я й прыводжу гэтыя добра вядомыя факты, то толькі дзеля таго, каб нагадаць, якім быў фон таго надзвычайнага памкненьня да навачаснага мастацтва ў Польшчы ў другой палове 1950-х. Мастацтва, якое тады зьявілася, было супрацьлегласьцю рэалізму — гэта было мастацтва абстрактнае. У сусьветным мастацтве ў той час дамінавалі розныя формы лірычнай абстракцыі, аднак паволі прабівала шлях нэададаістычнае мастацтва прадмету. Магчымасьць выезду на Захад, асабліва ў Парыж, а таксама публікацыі тэкстаў пра найноўшае мастацтва дазволілі паступова ўсьвядоміць стан актуальнага арту ў сьвеце. Вобразна кажучы, пэрыяд «адлігі» ў Польшчы трохі нагадваў дзеяньне сазлучаных сасудаў. Закрытыя дагэтуль шляхі былі прабітыя, і актуальнае мастацтва з усяе моцы ўзьняло тагачаснае польскае мастацкае жыцьцё, за некалькі гадоў выраўняўшы штучна зьніжаны ўзровень.

Характэрнай зьявай тых часоў было, сярод іншага, аб'яднаньне маладых мастакоў у групы ў найважнейшых цэнтрах краіны, ад Кракаву да Варшавы, праз Познань, Уроцлаў і Лодзь, па Катавіцы й Люблін. Аднак люблінская група «Замак» была спэцыфічным утварэньнем. Зь іншымі групамі яе лучыла дынаміка дзейнасьці на карысьць мастацтва новага часу. Аднак іншым быў пункт выхаду — унівэрсытэцкі асяродак, зь якім была зьвязаная частка гэтай групы, прыхільнікі, студэнты гісторыі мастацтва ў Каталіцкім унівэрсытэце Любліну. Яшчэ ў пэрыяд сталінізму ўнівэрсытэт быў адным зь нешматлікіх у Польшчы анклаваў свабоды, дзе можна было весьці вольныя дыскусіі, выказваць супрацьлеглыя погляды, у тым ліку й у дачыненьні да тагачаснага мастацтва. У цяжкія часы сталінізму там вучыліся таленавітыя маладыя людзі, якія з ідэалягічных прычынаў не маглі займацца ў дзяржаўных мастацкіх вучэльнях. Менавіта ў тым коле стварыліся асновы ідэйна-мастацкай актыўнасьці будучых чальцоў групы, а таксама зьвязаных зь ёю крытыкаў, што ў значнай меры вызначыла іх бескампрамісныя й радыкальныя настроі.

Запал зацікаўленых мастацтвам студэнтаў быў варты нэафітаў. У вучэльні яны слухалі даклады маладога эрудыта й знаўцы сучаснага мастацтва Яцка Вазьнякоўскага, які прыяжджаў з Кракаву. Ён здолеў распаліць у іхных сэрцах сапраўдны энтузіязм да найноўшага мастацтва. Аднак вельмі хутка будучыя чальцы групы распачалі інтэнсіўную самаадукацыю. Яны здабывалі амаль недаступныя шырокай публіцы замежныя часопісы, прысьвечаныя сучаснаму мастацтву, даставалі рэпрадукцыі й усялякія зьвесткі, якія пачыналі нясьмела зьяўляцца і ў польскай прэсе. Неўзабаве яны навязалі асабістыя кантакты з мастакамі зь іншых асяродкаў, асабліва з Галерэі «Крывое Кола» ў Варшаве й з асяродку мастакоў вакол Тадэвуша Кантара ў Кракаве. Незьлічоныя дыскусіі на тэму гістарычнага авангарду, экспрэсіянізму, кубізму, канструктывізму, сюррэалізму стварылі першы каркас праграмных прынцыпаў.

Першы выступ групы пад назвай «Замак» адбыўся ў 1957 годзе ў Галерэі «Крывое Кола» ў Варшаве й у пэўным сэнсе завершыў некалькі гадоў фармаваньня ейнага пэрсанальнага складу. Група першапачаткова налічвала 11 чальцоў, сярод якіх вылучаліся ўжо згаданы Ўладзімеж Бароўскі, а таксама Тытус Дзедушыцкі й Ян Земскі. Варта памятаць, што да групы мастакоў тады належалі таксама Ежы Дуракевіч, РышардКівэрскі, Міраслаў Камендэрскі, Кшыштаф Кужанткоўскі, Станіслаў Міхальчук, Люцыян Осіяс, Юзэф Тарлоўскі й Пшэмыслаў Зваліньскі. Вялізную ролю адыграў Ежы Людвіньскі, які быў крытыкам і тэарэтыкам групы. Яе суправаджалі й іншыя крытыкі: Анка Пташкоўска, Веслаў Бароўскі, Уршуля Чартарыска й Марыюш Тхорэк. Такім чынам, група ўяўляла сабой кангламэрат мастакоў і крытыкаў. Перш чым іх дарогі разыйшліся, яны стварылі ідэйна-мастацкую супольнасьць.

Выстава ў Галерэі «Крывое Кола» была для групы знакам прызнаньня. Галерэя ў часы «адлігі» была найважнейшым месцам прэзэнтацыі сучаснага польскага мастацтва. Люблінскія мастакі здабылі падтрымку карыфэя польскага авангарду — Генрыка Стажэўскага. Выстава шырока камэнтавалася ў агульнапольскай мастацкай крытыцы. Без сумневу, гэтая падзея акрыліла мастакоў зь Любліну. Праз год яны зноў зьявіліся ў Галерэі «Крывое Кола», і гэтая выстава выклікала ў Польшчы своеасаблівую сэнсацыю. Чаму? Многія крытыкі заўважылі падабенства іхных пошукаў з эўрапейскім мастацкім авангардам пад маркаю ***informel***, асабліва г. зв. «гішпанскай школай». Выразнае захапленьне ў мастацтве

[1] Grupa «Zamek». Historia — krytyka — sztuka, pod. red. M. Kitowskiej-Łysiak, M. Lachowskiego, P. Majewskiego, TN KUL, Lublin 2007; Grupa «Zamek». Konteksty — wspomnienia — archiwalia, pod red. M. Kitowskiej-Łysiak, M. Lachowskiego, P. Majewskiego, TN KUL, Lublin 2009.

рэчывамі й матэрыяй замест адкінутай ілюзіі, арыгінальныя дасягненьні, асабліва Бароўскага, Дзедушыцкага й Земскага, высунулі групу на пазыцыі адважных экспэрымэнтатараў, якія шукаюць аўтэнтычную й арыгінальную форму выяўленьня, зрабілі зь іх кангеніяльных сусьветных мастакоў канца 1950-х.

Без сумневу, найвялікшай мастацкай зьявай быў Уладзімеж Бароўскі. Ягоны даробак сёньня найлепш вывучаны й урэшце — пасьля шматгадовай маргіналізацыі — ацэнены. Дзякуючы рэтраспэктыўным выставам, арганізаваным у 1990-х у Цэнтры сучаснага мастацтва ў Варшаве, а апошнім часам і міжнароднай канфэрэнцыі, што прайшла ў сталічным Музэі сучаснага мастацтва, стала больш відавочнай выключная роля Бароўскага, які ў Польшчы бескампрамісна вызначаў шляхі для ньюавангарднай тоеснасьці мастака, адпрэчваў усе умоўнасьці, што скоўваюць творчае ўяўленьне. Група «Замак» была для Бароўскага толькі пунктам выхаду, а канцавой кропкай зьяўляецца ягоная першапраходніцкая пазыцыя ў абшары польскага канцэптуалізму 1970-х. Сёньня падкрэсьліваюць ягонае непрымірымае стаўленьне да «раскладу сіл» у тагачасным мастацкім сьвеце, аўтэнтычнае наватарства многіх яго пачынаньняў, такіх як славутыя антыхэпэнінгі, якія ён называў «Сынкрэтычнымі паказамі», а таксама — што асабліва інтрыгуе — пазыцыю бунтаўніка, які насьміхаецца з ідэалёгіі сацыялістычнай дзяржавы. У канцы 1950-х, калі Група «Замак» акрэсьліла сваю мастацкую тоеснасьць, Бароўскі стварыў першыя «Артоны» (1958). Гэта былі асамбляжныя канструкцыі, выкананыя з выкарыстаньнем вобаду роварнага кола (у гонар Дзюшампа), абсталяваныя лямпачкамі, якія пульсавалі ў нерэгулярным рытме, — каварны жэст, які паўтараў мастацкія працэдуры з выкарыстаньнем гатовага прадмету, і адначасна аб'екты, якія апярэджвалі кінэтычныя нэададаістычныя прасторавыя формы Жана Тэнглі, які распрацаваў пастулят «паэтычнага рэцыклінгу рэчаіснасьці» Nouveaux Réalistes, сфармуляваны ў 1960 годзе.

У той час, як Бароўскі ствараў «Артоны», Ян Земскі выконваў «Формулы» — прастакутныя «карціны», у якіх мастацкая ілюзія была замененая мастацкай матэрыяй. Назва гэтых твораў узялася са спалучэньня словаў «мур» і «фармаваньне». Земскі менавіта й пераймаўся тым, каб паўтарыць у карціне матэрыяльную структуру фізычнага сьвету, дасьледаваць і адчуць ейную кансыстэнцыю, разабрацца, быццам альхімік, у ейнай будове, зьвязаць яе з правільнай будовай сусьвету, вызначанага пітагоравай геамэтрыяй. Земскі пасьлядоўна ствараў своеасаблівыя «прадметы мастацтва», сплятаючы фізычную, пасіўную матэрыю з парадкам кампазыцыі, што прывяло аўтара ў сярэдзіне 1960-х да мастацтва, якое гаварыла на чыстай «мове геамэтрыі». Урэшце Земскі спыніўся ў коле нэаканструктывізму, які ў той час узяў слова ў Польшчы.

Ужо гэтыя два прыклады выразна сьведчаць, што мастакі групы «Замак» прадстаўлялі ў мастацтве тэрыторыю, якую можна апісаць катэгорыяй «прадметнасьці», што з усёй моцы мела акрэсьліць шляхі мастацкіх пошукаў у 1960-х. У тым дзесяцігодзьдзі ў сусьветным мастацтве вызначыліся ньюавангардныя тэндэнцыі, у істотнай ступені й рознымі постацямі зьвязаныя з адкрытым праектам гістарычнага авангарду, які прадстаўляў «гатовы прадмет». У гэтым кірунку пайшлі й экспэрымэнты Тытуса Дзедушыцкага, які найперш на плашчыні карціны спалучаў элемэнты мастацкай ілюзіі й каляжныя структуры, што стваралі міжсобку сапраўдныя прасторавыя стасункі. А потым будаваў прасторавыя рэльефы з выкарыстаньнем сынтэтычнага шкла, драўляных элемэнтаў і мэталу, якія назваў «Іншымі вобразамі». Гэтая цікавая творчасьць у наш час найменш вывучаная — між іншым, і таму, што Дзедушыцкі з канца 1959 году пастаянна знаходзіўся ў Парыжы.

У эміграцыі Дзедушыцкі зьвязаўся зь міжнародным мастацкім рухам вакол часопісу «Phases», які займаўся шырокім абшарам сучаснага мастацтва, што разьвівалася паміж палюсамі сюррэалізму й абстракцыі. Шмат разоў ён браў удзел у калектыўных выставах, якія ладзіў нястомны аніматар гэтага руху Эдуар Жагуар у Парыжы і па-за ім. Гэтыя кантакты дапамаглі арганізаваць сэнсацыйную выставу групы «Замак» у Парыжы ў 1960-м. У ёй узялі ўдзел Бароўскі, Дзедушыцкі й Земскі. Відавочна, дзякуючы гэтай экспазыцыі група «Замак» трапіла ў слоўнік абстрактнага мастацтва La Peinture Abstraite (Лязана, 1967), падрыхтаваны Жанам Клярэнсам Лямбэрам. Нягледзячы на тое, што былі заплянаваныя чарговыя замежныя выставы (пра якія пісаў у лістах Дзедушыцкі), яны не адбыліся з прычыны цяжкасьцяў у кантактах паміж мастакамі ў краіне і за «жалезнай заслонай». Выстава аказалася апошнім паказам твораў кола мастакоў пад назваю «Замак».

Шматкроць згаданы Ежы Людвіньскі ня раз суправаджаў групу «Замак» як крытык і тэарэтык ейнай мастацкай праграмы. Яшчэ адною праявай дынамікі дзейнасьці гэтага асяродку было зараджэньне мастацкай крытыкі выразна радыкальнага характару. З ініцыятывы Людвіньскага ў Любліне выдаваўся часопіс «Структуры». Адзінаццаць нумароў часопісу зьявіліся ў 1956–1961 гадах. Постаць Людвіньскага не перастае захапляць. Як і Бароўскі, пры жыцьці ацэнены толькі ў вузкім коле польскага ньюавангарду, цяпер ён лічыцца зоркай артофу 1960–1970-х. Ягоны тэарэтычны даробак шырока вядомы як з аб'ёмных збораў тэкстаў (зьявіліся дзьве анталёгіі ў краіне й адна за мяжой[2]), так і дзякуючы выставам, якія прэзэнтуюць ягонуюарыгінальную,частавізіянэрскуюканцэпцыюсучаснага мастацтва. Яго канцэпцыі сёньня зьяўляюцца крыніцай ідэяў для маладых і амбітных куратараў у шматлікіх асяродках, што займаюцца выставамі ў Польшчы. Для групы «Замак» ён быў ключавой постацьцю, ягоныя праніклівыя й палымяныя тэксты скрупулёзна высьвятлялі інтэнцыі Бароўскага й Земскага. Рэдагуючы «Структуры», Людвіньскі тым самым праводзіў шырокую дыскусію на тэму формаў сучаснага мастацтва ў Польшчы. На старонках часопісу зьяўляліся тэксты найбольш уплывовых тагачасных польскіх крытыкаў. Апрача таго, у часопісе рэгулярна публікаваліся маладыя крытыкі зь Любліну. Побач з самім Людвіньскім у «Структуры» пісалі згаданая ўжо Анка Пташкоўска, Веслаў Бароўскі й Марыюш Тхорэк. Менавіта гэтая тройка крытыкаў стварыла ў 1966 годзе ў Варшаве галерэю «Foksal» у супрацы з Генрыкам Стажэўскім, а потым і Тадэвушам Кантарам. На старонках «Структураў» публікавалася й Уршуля Чартарыска — пазьней выбітны фотакрытык. Хаця часопіс і не праіснаваў доўга, у той час ён быў адной зь нешматлікіх трыбун для дыскусіі аб актуальным мастацтве ў Польшчы.

Такім чынам, калі мы ставім пытаньне пра рэвалюцыйнасьць дзейнасьці групы, то, здаецца, факты гавораць самі за сябе. Але апрача фактаў, якія зьяўляюцца бясспрэчнымі, ёсьць і іх інтэрпрэтацыя. Рэвалюцыя была сном, які не да канца ажыцьцявіўся. Марай групы было далучэньне да міжнароднага працэсу актуальнага мастацтва. Здаецца, што гэты пастулят тады выкананы ня быў, але ў нейкім сэнсе ён рэалізуецца сёньня, калі пра Бароўскага ці Людвіньскага пачынаюць гучна гаварыць і за мяжой. Бязь іх, безумоўна, гісторыя мастацтва ў Польшчы выглядала б інакш.

**Пётар Маеўскі** — *ад'юнкт факультэту гісторыі мастацтваў у Інстытуце мастацтваў на мастацкім аддзяленьні Ўнівэрсытэту Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. Віцэ-прэзыдэнт Люблінскага Таварыства заахвочваньня мастацтва.*

[2] Jerzy Ludwiński, Epoka błękitu, pisma wybrane, wyd. Otwarta Pracownia, Kraków 2005; Jerzy Ludwiński, Notes from Future of Art, pod red. M. Ziółkowskiej, wyd. Van Abbe Museum, Holandia 2008; Jerzy Ludwiński, Sztuka w epoce postartystycznej i inne teksty, wyd. ASP w Poznani i BWA we Wrocławiu, Poznań 2010.





**1. Славамір Мажэц,** «Трыптых», 2009
**2. Славамір Мажэц,** з цыклю «Названыя карціны», 2010
**3. Славамір Мажэц,** з цыклю «Вакол іконы», 2010

**1. Sławomir Marzec,** „Tryptyk”, 2009.
**2. Sławomir Marzec,** z cyklu „Obrazy tytułowane”, 2010
**3. Sławomir Marzec,** z cyklu „Wokół ikony”, 2010

# Sławomir Marzec



**Powstanie lubelskiej grupy „Zamek” okazało się znaczące nie tylko w perspektywie lokalnej, ale i ogólnopolskiej. Można powiedzieć, że była to zdecydowanie najlepiej przygotowana „rewolucja artystyczna” w polskim środowisku związanym ze sztuką współczesną ostatniego półwiecza.**

# *Grupa „Zamek” – niedokończona rewolucja*

*Piotr Majewski*

Już w 1961 roku Jerzy Ludwiński, jeden z najwybitniejszych teoretyków i animatorów sztuki współczesnej w Polsce, pisał o rewolucji artystycznej, której dokonała grupa „Zamek” w środowisku lubelskim. Z kolei z perspektywy czasu Anka Ptaszkowska, znana krytyczka sztuki, stwierdziła, że bez grupy „Zamek” nie byłoby legendarnego miejsca polskiej neoawangardy lat 60. i 70. – warszawskiej galerii Foksal. W istocie, rozpoczynając swą działalność w 1957 roku, grupa „Zamek” wyznaczyła moment zwrotny w lubelskim życiu artystycznym, wytyczając ścieżkę dla sztuki o charakterze nowatorskim i eksperymentalnym – swoisty kierunek dla kultury alternatywnej, rozwijanej odtąd w Lublinie niemal w sposób ciągły, aż po dzień dzisiejszy. Powstanie grupy „Zamek” okazało się jednak znaczące nie tylko w perspektywie lokalnej, ale i ogólnopolskiej. Można powiedzieć, że była to zdecydowanie najlepiej przygotowana „rewolucja artystyczna” w polskim środowisku związanym ze sztuką współczesną w okresie ostatniego półwiecza, ale czy została dokończona?

Pomimo, że historia tej formacji artystycznej należy do obszaru, który można nazwać „archeologią nowoczesności” w Polsce, to wydaje się konieczne właściwe odczytanie jej znaczenia z perspektywy współczesności. Działalność grupy przynależała do ważnych zjawisk artystycznych w Polsce, a zarazem korespondowała z dążeniami w sztuce światowej dojrzałego modernizmu w przededniu neoawangardowego przełomu.

Trzeba pamiętać, że dzisiaj dokonuje się prawdziwie przełomowa reinterpretacja sztuki w Polsce po 1945 roku. Od wielu już lat jest ona niejako pisana „od nowa” najpierw w związku z przemianami politycznymi i pełną wolnością słowa, a w ostatnich latach – w związku z badawczym ożywieniem w Polsce instytucji muzealnych zajmujących się sztuką nowoczesną i współczesną. Proces ten jest chyba wciąż w stadium początkowym, lecz już przynosi konkretne owoce w postaci licznych publikacji, sesji naukowych, retrospektywnych i problemowych wystaw, a także gromadzenia w nowym duchu kolekcji sztuki nowoczesnej i współczesnej w wielu ośrodkach w Polsce, w tym także w Lublinie.

Symptomatyczne jest, że inicjując swą działalność Lubelskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych – organizacja powołana (w 2005 roku) do stworzenia regionalnej kolekcji sztuki współczesnej w Lublinie – rozpoczęła proces budowania tejże kolekcji od zakupu obrazu „Oko proroka” Włodzimierza Borowskiego – jednego z najważniejszych członków grupy „Zamek”. Obraz ten, namalowany w 1957 roku, stał się swoistym „znakiem heraldycznym” lubelskiej kolekcji, wyznaczającym dalsze tropy tworzenia zbiorów.

Ważnym wydarzeniem ogólnopolskim była też 50. rocznica założenia grupy „Zamek”. W 2007 roku w Katolickim Uniwersytecie Lubelskim w kręgu akademików odbył się panel dyskusyjny („Grupa Zamek. W 50. rocznicę powstania”) z udziałem żyjących członków grupy, jej sympatyków i świadków minionych wydarzeń. Owocem są obszerne publikacje książkowe, zbierające rozproszone, publikowane wcześniej, materiały i nowe opracowania twórczości jej członków[1]. Ta swoista „inwentaryzacja” tego, co już wiadomo i tego, co wciąż czeka na wyjaśnienie, zrodziła palącą potrzebę dalszej pracy badawczej, przyniosła szereg odpowiedzi, ale też postawiła nowe znaki zapytania w historii polskiej sztuki nowoczesnej czasów „odwilży”.

Dla polskiej sztuki nowoczesnej okres tzw. „odwilży” był kluczowy. Bez zrozumienia, co wówczas się stało nie sposób właściwie ocenić takich fenomenów, jak właśnie pojawienie się grupy „Zamek” w Lublinie. Przypomnijmy, że Polska, jako jedyny chyba kraj w byłym bloku sowieckim dość szybko odrzuciła realizm socjalistyczny, jako obowiązującą doktrynę artystyczno-kulturalną. Doktryna ta panowała w polskiej polityce kulturalnej zaledwie kilka lat (1949-55). W połowie lat 50., z wielu powodów, okazała się „ciałem obcym”, nieprzystającym do kultury polskiej, zakorzenionej w kręgu okcydentalnej tradycji artystycznej. Okres nazywany umownie „odwilżą” był generalnym zwrotem w stronę Zachodu, pierwszą, lecz nie ostatnią próbą uwolnienia kultury polskiej od więzów geopolitycznie uwarunkowanej zależności ideologicznej, uformowanej po drugiej wojnie światowej w tej części Europy. Co prawda „odwilż”, jak wiadomo, nie przyniosła wolności pełnej, lecz tylko pewną jej postać (Witold Gombrowicz nazwał ją gorzko-ironicznie – wolnością na 48%), jednak realizm socjalistyczny został odrzucony i nie było już do niego w Polsce powrotu.

Jeśli przypominam te dobrze znane fakty, to po to, aby uprzytomnić, jakie było generalne tło niezwykłego impetu recepcji sztuki nowoczesnej w Polsce w drugiej połowie lat 50. Sztuka, która wówczas pojawiła się, była przeciwieństwem realizmu – była to sztuka abstrakcyjna. W malarstwie światowym dominowały w tym czasie różne formuły abstrakcji lirycznej, powoli przecierała też szlak neodadaistyczna sztuka przedmiotu. Możliwości podróżowania na Zachód, szczególnie do Paryża, oraz publikowania tekstów o sztuce aktualnej, przyniosły stopniowy wzrost świadomości o sztuce aktualnej na świecie. Obrazowo rzecz ujmując okres „odwilży” w Polsce przypominał trochę działanie naczyń połączonych. Zamknięte dotąd szlaki zostały przetarte i sztuka nowoczesna z całą siłą zasiliła wówczas polskie życie artystyczne, w ciągu kilku lat wyrównując nienaturalnie zaniżony poziom.

[1] Grupa „Zamek”. Historia – krytyka – sztuka, pod. red. M. Kitowskiej-Łysiak, M. Lachowskiego, P. Majewskiego, TN KUL, Lublin 2007; Grupa „Zamek”. Konteksty – wspomnienia – archiwalia, pod red. M. Kitowskiej-Łysiak, M. Lachowskiego, P. Majewskiego, TN KUL, Lublin 2009.

Charakterystycznym zjawiskiem tego okresu było m. in. integrowanie się młodych artystów w grupy w najważniejszych ośrodkach w kraju, od Krakowa i Warszawy, poprzez Poznań, Wrocław i Łódź, po Katowice i Lublin. Lubelska grupa „Zamek" była jednak tworem specyficznym. Z innymi grupami połączyła ją dynamika działania na rzecz sztuki nowoczesnej. Inny był jednak punkt wyjścia – środowisko uniwersyteckie, z którym była związana część jej członków, sympatyków, studentów historii sztuki w Katolickim Uniwersytecie Lubelskim. Jeszcze w okresie stalinizmu, uniwersytet ten był jedną z nielicznych w Polsce enklaw wolności, w których można było prowadzić swobodne dyskusje i ścierać poglądy, także na temat sztuki nowoczesnej. W trudnych czasach stalinizmu studiowali tam uzdolnieni artystycznie młodzi ludzie, którzy z powodów ideologicznych nie mogli podjąć kształcenia na państwowych uczelniach artystycznych. W tym właśnie kręgu zrodziły się postawy ideowo-artystycznej aktywności przyszłych członków grupy oraz związanych z nią krytyków, co w dużej mierze zadecydowało o ich bezkompromisowym i radykalnym nastawieniu.

Determinacja zainteresowanych sztuką aktualną studentów była godna neofitów. Na uczelni słuchali wykładów przyjeżdżającego z Krakowa młodego erudyty i znawcy sztuki współczesnej Jacka Woźniakowskiego, który potrafił rozpalić w ich umysłach prawdziwy entuzjazm dla sztuki najnowszej. Jednak szybko przyszli członkowie grupy podjęli intensywne samokształcenie. Na własną rękę zdobywali niemal niedostępne wówczas szerzej pisma zagraniczne poświęcone sztuce nowoczesnej, docierali do reprodukcji i wszelkich wiadomości, które nieśmiało zaczynały wówczas pojawiać się w prasie polskiej. Wkrótce też nawiązali osobiste kontakty z artystami z innych ośrodków, szczególnie z kręgu Galerii Krzywego Koła w Warszawie i ze środowiska artystów skupionych wokół Tadeusza Kantora w Krakowie. Niekończące się dyskusje na temat dziedzictwa historycznej awangardy, ekspresjonizmu, kubizmu, konstruktywizmu, surrealizmu, przyniosły pierwszy zrąb założeń programowych.

Pierwsze wystąpienie grupy pod nazwą „Zamek" odbyło się w 1957 roku w Galerii Krzywe Koło w Warszawie i niejako wieńczyło kilkuletni okres kształtowania się jej trzonu personalnego.  Grupa liczyła początkowo jedenastu członków, spośród których wyróżniali się wspomniany Włodzimierz Borowski, a także Tytus Dzieduszycki i Jan Ziemski. Warto pamiętać, że do grupy artystów należeli wówczas także Jerzy Durakiewicz, Ryszard Kiwerski, Mirosław Komendecki, Krzysztof Kurzątkowski, Stanisław Michalczuk, Lucjan Ocias, Józef Tarłowski i Przemysław Zwoliński.  Ogromną rolę odegrał Jerzy Ludwiński, który był krytykiem i teoretykiem grupy. Towarzyszyli jej też inni krytycy: Anka Ptaszkowska, Wiesław Borowski, Urszula Czartoryska i Mariusz Tchorek. Zatem grupa stanowiła początkowo artystyczno-towarzyski konglomerat artystów i krytyków. Zanim ich drogi rozeszły się, stworzyli wspólnotę ideowo-artystyczną.

Wystawa w Galerii Krzywe Koło była dla grupy nobilitująca. Galeria w okresie „odwilży" była najważniejszym miejscem prezentacji sztuki nowoczesnej w Polsce. Artyści lubelscy uzyskali wówczas poparcie nestora polskiej awangardy – Henryka Stażewskiego. Wystawa była też szeroko komentowana przez ogólnopolską krytykę artystyczną. Bez wątpienia wydarzenie to dodało skrzydeł artystom z Lublina. Rok później ponownie wystawiali w Galerii Krzywe Koło, a wystawa ta wzbudziła w Polsce swoistą sensację. Dlaczego? Wielu krytyków dostrzegło wówczas podobieństwa poszukiwań z europejską awangardą malarską spod znaku informel, a szczególnie tzw. „szkołą hiszpańską". Wyraźne zafascynowanie w malarstwie tworzywem i materią malarską wprowadzoną w miejsce odrzuconej iluzji, oryginalne pod tym względem osiągnięcia, zwłaszcza Borowskiego, Dzieduszyckiego i Ziemskiego, uplasowały grupę na pozycji odważnych eksperymentatorów, poszukujących autentycznej i oryginalnej formy wyrazu, kongenialnych artystom światowym końca lat 50.

Bez wątpienia największą osobowością artystyczną był Włodzimierz Borowski. Jego dorobek jest dziś coraz lepiej znany i wreszcie – po wieloletnim marginalizowaniu – doceniany. Za sprawą wystaw retrospektywnych organizowanych w latach 90. w Centrum Sztuki Współczesnej w Warszawie, a ostatnio dzięki międzynarodowej konferencji jemu poświęconej w stołecznym Muzeum Sztuki Nowoczesnej, wyraźniej widać wyjątkową drogę Borowskiego, który w Polsce bezkompromisowo wytyczał ścieżkę dla neoawangardowej tożsamości artysty, odrzucającego wszelkie konwencje krępujące wyobraźnię twórczą. Grupa „Zamek" była dla Borowskiego zaledwie punktem wyjścia, a punktem dojścia wydaje się jego prekursorska pozycja w obszarze polskiego konceptualizmu lat 70. Podkreśla się dziś jego niepokorny stosunek do „układu sił" w świecie artystycznym tamtego czasu, autentyczne nowatorstwo wielu przedsięwzięć, takich jak słynne antyhappeningi, które nazywał „Pokazami Synkretycznymi", a także – co jest szczególnie intrygujące – postawę buntownika drwiącego z ideologii socjalistycznego państwa. W końcu lat 50., gdy grupa „Zamek" określiła swoją artystyczną tożsamość, Borowski stworzył pierwsze „Artony" (1958). Były to konstrukcje asamblażowe wykonane z wykorzystaniem obręczy koła rowerowego (w hołdzie dla Duchampa), zaopatrzone w pulsujące nieregularnym rytmem lampki świetlne – przewrotny gest powtarzający procedury malarskie z wykorzystaniem przedmiotu gotowego, zarazem obiekty wyprzedzające kinetyczne neodadaistyczne formy przestrzenne Jeana Tinguely'ego, spełniającego postulat „poetyckiego recyclingu rzeczywistości" Nouveaux Réalistes, sformułowany w 1960 roku.

W okresie, gdy Borowski tworzył „Artony", Jan Ziemski wykonywał „Formury" – prostokątne „obrazy", w których iluzja malarska zastąpiona została malarską materią. Nazwa tych tworów brała się ze zbitki słów mur i formowanie. Ziemskiemu właśnie o to chodziło, aby powtórzyć w obrazie materialną strukturę świata fizycznego, przebadać i poczuć jej konsystencję, przyjrzeć się, niczym alchemik, jej budowie, powiązać jej strukturę z regularną budową wszechświata wyznaczoną przez pitagorejską geometrię. Ziemski konsekwentnie tworzył swoiste „przedmioty sztuki", splatając fizyczną, bezwładną materię z porządkiem kompozycji, co doprowadziło artystę w połowie lat 60. do sztuki przemawiającej czystym „językiem geometrii". Ziemski uplasował się ostatecznie w kręgu neokonstruktywizmu, który w owym czasie doszedł w Polsce do głosu.

Już te dwa przykłady wyraźnie świadczą, że artyści grupy „Zamek" eksplorowali w sztuce terytorium opisywane kategorią „przedmiotowości", która z całą siłą miała określać kształt artystycznych dociekań w nadchodzącej dekadzie lat 60., kiedy w sztuce światowej do głosu doszły tendencje neoawangardowe, w znacznym stopniu i pod różnymi postaciami nawiązujące właśnie do otwartego projektu awangardy historycznej, eksplorującej „przedmiot gotowy". W tym kierunku poszły też eksperymenty Tytusa Dzieduszyckiego, który najpierw na płaszczyźnie obrazu łączył elementy iluzji malarskiej z kolażowymi strukturami wprowadzającymi rzeczywiste stosunki przestrzenne, a niedługo potem budował przestrzenne reliefy z wykorzystaniem szkła syntetycznego, elementów drewnianych i metalu, które nazwał „Innymi obrazami". Ta ciekawie rozwijająca się twórczość jest najmniej jak dotąd poznana, między innymi dlatego, że Dzieduszycki od końca 1959 roku przebywał na stałe w Paryżu.

Dzieduszycki związał się na emigracji z międzynarodowym ruchem artystycznym skupionym wokół pisma „Phases", które zajmowało się szerokim obszarem sztuki współczesnej, rozwijającym się między biegunami surrealizmu i abstrakcji. Wielokrotnie brał udział w zbiorow-

ych wystawach organizowanych przez niestrudzonego animatora tego ruchu Edouarda Jaguera w Paryżu i poza nim. Kontakty te przyniosły sensacyjną wystawę grupy „Zamek" w Paryżu w 1960 roku. Wzięli w niej udział Borowski, Dzieduszycki i Ziemski. Chyba dzięki tej właśnie ekspozycji grupa „Zamek" trafiła do leksykonu sztuki abstrakcyjnej La Peinture Abstraite (Lozanna 1967), przygotowanego przez Jeana Clarence'a Lamberta. Mimo, że planowane były kolejne wystawy zagraniczne (o których donosił w listach Dzieduszycki), z powodu utrudnień w kontaktach pomiędzy środowiskami artystycznymi w kraju i za „żelazną kurtyną", niestety nie doszło do ich realizacji. Wystawa okazała się ostatnim wspólnym pokazem prac kręgu artystów pod nazwą „Zamek".

Wspomniany wielokrotnie Jerzy Ludwiński towarzyszył grupie „Zamek" jako krytyk i teoretyk jej artystycznego programu. Jeszcze jednym znamieniem dynamiki działalności tego środowiska była rodząca się równolegle krytyka artystyczna o wyraźnie radykalnym charakterze. Z inicjatywy Ludwińskiego w Lublinie wydawano pismo „Struktury". W sumie jedenaście numerów pisma ukazało się w latach 1959-1961. Postać Ludwińskiego nie przestaje fascynować. Podobnie jak Borowski, za życia doceniany jedynie w ścisłym kręgu polskiej neoawangardy, dzisiaj uznawany jest za gwiazdę artystycznego off-u lat 60. i 70. Jego dorobek teoretyczny jest szeroko upowszechniany poprzez obszerne antologie tekstów (ukazały się dwie antologie tekstów w kraju i jedna za granicą[2]), jak też poprzez wystawy prezentujące jego oryginalną, często wizjonerską wykładnię sztuki współczesnej. Jego koncepcje są dziś źródłem pomysłów dla młodych i ambitnych kuratorów w wielu instytucjach wystawienniczych działających w Polsce. Dla grupy „Zamek" był on postacią kluczową, jego wnikliwe i płomienne teksty skrupulatnie wyjaśniały intencje Borowskiego i Ziemskiego. Redagując „Struktury", Ludwiński prowadził zarazem szeroką dyskusję na temat kształtu sztuki nowoczesnej w Polsce. Na łamach pisma pojawiły się teksty najbardziej opiniotwórczych wówczas krytyków w Polsce. Ponadto stale publikowali młodzi krytycy z Lublina. Obok samego Ludwińskiego do „Struktur" pisali: wspomniana Anka Ptaszkowska, Wiesław Borowski i Mariusz Tchorek. To właśnie ta trójka krytyków założyła w roku 1966 w Warszawie galerię Foksal we współpracy z Henrykiem Stażewskim, a wkrótce także Tadeuszem Kantorem. Na łamach „Struktur" pisała też Urszula Czartoryska – późniejsza wybitna krytyczka fotografii. Chociaż pismo nie istniało długo, było w swoim czasie jedną z kilku nielicznych trybun dyskusji o sztuce aktualnej w Polsce.

Jeśli więc stawiamy pytanie o rewolucyjność działalności grupy, to wydaje się, że fakty mówią same za siebie. Ale oprócz faktów, które są niewątpliwe, istnieje także ich interpretacja. Rewolucja była snem, który nie do końca się urzeczywistnił. Marzeniem grupy było wejście w międzynarodowy obieg sztuki aktualnej. Wydaje się, że ten postulat wtedy spełniony nie został, lecz w jakimś sensie spełnia się dopiero dzisiaj, gdy o Ludwińskim czy Borowskim zaczyna się głośno mówić także za granicą. Bez nich z pewnością historia sztuki w Polsce wyglądałaby inaczej.

**Piotr Majewski** — *Adiunkt w Zakładzie Historii Sztuki w Instytucie Sztuk Pięknych na Wydziale Artystycznym UMCS. Wiceprezes Lubelskiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych.*

[2] Jerzy Ludwiński, Epoka błękitu, pisma wybrane, wyd. Otwarta Pracownia, Kraków 2005; Jerzy Ludwiński, Notes from Future of Art, pod red. M. Ziółkowskiej, wyd. Van Abbe Museum, Holandia 2008; Jerzy Ludwiński, Sztuka w epoce postartystycznej i inne teksty, wyd. ASP w Poznani i BWA we Wrocławiu, Poznań 2010.





**Ян Грыка**, «Часьцінкі, шкарлупінкі, арнамэнты», Бельская галерэя BWA, Бельска-Бяла, 2011
**Jan Gryka**, „Drobiny, skorupy, ornamenty", Bielska Galeria BWA, Bielsko-Biała, 2011







**Ян Грыка,** «Часьцінкі, шкарлупінкі, арнамэнты», Бельская галерэя BWA, Бельска-Бяла, 2011
**Jan Gryka,** „Drobiny, skorupy, ornamenty", Bielska Galeria BWA, Bielsko-Biała, 2011







# Jan Gryka



# Мікалай Смачыньскі : вытокі вобразаў

Марцін Лахоўскі



**Мікалай Смачыньскі,**«Раўналеглая акцыя», Старая галерэя BWA, Люблін, 1992. Фота: Анджэй Палякоўскі
**Mikołaj Smoczyński**,„Akcja równoległa", Galeria Stara BWA, Lublin 1992. Fot. Andrzej Polakowski

*Гэты мастак самавызначаўся як аўтсайдэр, ён ухіляўся ад моды, умоўнасьцяў, інсьпірацыяў. Ягонае мастацтва было выяўленьнем пошукаў сырой матэрыі, дакрананьня да пачатковых формаў існаваньня — праз зрок, дотык, фактуру, распазнаваньне прасторы, якой яшчэ не нададзена ўтылітарнае значэньне. Мікалай Смачыньскі быў мастаком усебаковым, выкарыстоўваў шырокую шкалу паэтыкі, сродкаў, мастацкіх формулаў. Аднак пры гэтым ягоная творчасьць мае цэльны, пасьлядоўны характар. Выкарыстоўваючы вялікафарматную фатаграфію, маштабныя інсталяцыі й аранжыроўкі, цяжкія, пакрытыя слаямі тынку карціны, ён ствараў сырую, шорсткую рэчаіснасьць — цёмную, змрочную, якая вызначала дыстанцыю ад спэктаклю сучаснай культуры. Адначасова спэктакаль адбываўся ў самых элемэнтарных аспэктах прадстаўленай ім рэчаіснасьці: паверхні, пыле, патрэсканай гліне, шорсткай плоскасьці выкарыстаных матэрыялаў.*

## Мастак цыклю

Смачыньскі (1955–2009) нарадзіўся ў Лодзі. Мастацкую адукацыю атрымаў у Вышэйшай дзяржаўнай акадэміі мастацтва ў Лодзі, потым у Інстытуце мастацкага выхаваньня (UMCS). У 1979 годзе атрымаў пасаду асыстэнта ў Інстытуце мастацкага выхаваньня, дзе з 2001 году вёў майстэрню малюнку. Свае працы паказваў як у нішавых, прыватных галерэях (Галерэя «Піўная 20/26» у Варшаве, «Патоцкая галерэя» ў Кракаве, «Усходняя галерэя» ў Лодзі), так і ў прэстыжных месцах («Старая галерэя» ў Любліне, Цэнтар сучаснага мастацтва «Ўяздоўскі замак»). Сутнасьцю паказаў было ўмяшаньне ў прастору й пераўтварэньне яе з дапамогай першасных, сырых матэрыялаў. Ягоная творчасьць закранала першасныя элемэнты экзыстэнцыі: цялеснасьць, часавасьць, прасторавасьць. Гэтыя зацікаўленьні набліжалі яго да праблематыкі, што паўстала ў коле мінімалізму, адначасова ён узбагачаў гэтыя повязі, ужываючы разнастайныя, часта прамысловыя, будаўнічыя матэрыялы, выкарыстоўваючы іхную фактуру, а таксама вартасьці сьветлаценяў.

Важную ролю ў ягонай творчасьці адыгрываў прынцып пераемнасьці, унутранай сувязі паміж паасобнымі цыклямі працаў, адно што візуальныя сродкі выкарыстоўваліся розныя. Пра адзін зь першых фатаграфічных цыкляў — «Secret Performance» — Смачыньскі пісаў: «[Праца] грунтавалася на маім досьведзе ў фатаграфіі пры стварэньні «Падвойнага аб'екту». «Double object» зьяўляецца й у пэўнай частцы здымкаў, якія належаць ужо да «Secret performance». Зрэшты, трэба адзначыць, што гэтай сэрыі не было б, каб раней не было «Падвойнага аб'екту» й калі б я не намагаўся яго дакумэнтаваць… Досьвед «double object» дасягнуў кульмінацыі тады, калі скульптура стала на падлозе. «Secret performance», які быў працягам ранейшага, паказаў сваю новую эфэктыўнасьць. Такім чынам, досьвед «Secret performance» зьмяніў ня толькі спосаб успрыняцьця самой скульптуры, але і спосаб прачытаньня прасторы… Менавіта таму аб'ект у пэўны момант перастаў быць патрэбны, а полем далейшага дзеяньня стала сама падлога… У 1987 годзе я вырашыў узарваць і падлогу». Гэтыя й іншыя выказваньні мастака сьведчаць пра ўнутраную лёгіку ягонай творчасьці, якая фармулюе пэўныя праблемы, што знаходзяць сваё вырашэньне ў іншых прасторы, сродках, шкале. Яны выяўляюць новыя мастацкія падыходы, якія паглыбляюць сувязь гледача са створанай мастаком сытуацыяй, што ўзьнікае з прычыны зьмены парамэтраў і значэньня дадзенай прасторы.

## Узрываньне падлогі

Мастак раней, ужо на пачатку 1980-х, адкінуў традыцыйныя мастацкія сродкі, то бок абстрактнае мастацтва. У адным са сваіх першых цыкляў, «Double object», ён выкарыстаў скручаныя палотны, замацаваныя блейтрамам (мастацкімі кроснамі) у сваёй майстэрні, перастрараючы ейную прастору рознымі варыянтамі разьмяшчэньня падвоенага аб'екту. Гэтую акцыю ён дакумэнтаваў пры дапамозе фотаздымкаў, рэгіструючы зьмены прасторы, зьменныя фізычныя парамэтры, якія вынікалі з гэтага разьмяшчэньня. Рэгістрацыя прасторы ўласнай майстэрні з дапамогай фотаапарату стала тэмай наступнага цыклю, развітага ў 1983–93 — «Secret Performance». Гэтая акцыя палягала на сыстэматычным фатаграфаваньні інтэр'еру люблінскай майстэрні мастака й паступовым прыбіраньні рэчаў, што ўрэшце прывяло да фатаграфаваньня пустой прасторы, падлога якой зьлівалася зь неакрэсьленай чарнатой фону. Фатаграфія, выкарыстаная як сродак дакумэнтаваньня ў папярэднім цыклі, у «Secret performance» набыла крэацыйны, аўтаномны характар. Доўгачасныя здымкі дазволілі мастаку зьмяніць характарыстыку інтэр'еру на квазыабстрактную сыстэму плоскасьцяў: чарнаты й шэрасьці. Цыкль ствараўся 10 гадоў і быў запісам зацемненай майстэрні мастака ў чорна-белай фотасэсіі, выкананай у розных фарматах. «Фрагмэнтарныя зьвесткі, якія дае фатаграфія, калі мы не трактуем іх як інструмэнты для дакумэнтаваньня, дазваляюць стварыць зусім іншыя, фікцыйныя прасторы для перажываньня й індывідуальнага ўспрыманьня. Аб'ект, які з гэтага часу станавіўся прадметам абсэрвацыі, ужо не існаваў як скульптура. Цяпер ён быў катэгорыяй Performanc'у, рэалізаванага сродкамі, якія закладаюць уласную традыцыю». Аднак цыкль уяўляе сабой своеасаблівы запіс гісторыі месца, зьмены асьвятленьня, паступовага заняпаду, трансфармацыі падлогі, распаўзаньня плямаў фарбы, разьлітай на пліткі. Урэшце рэалізацыю цыклю перарваў знос майстэрні на вуліцы Зана. Спэцыфічная, расьцягнутая ў часе нарацыя падлогі аказалася спробай адсачыць павольныя зьмены, заняпад архітэктанічнай структуры, усё менш чытэльнай, схаванай у паўзмроку. Фатаграфіі былі візуалізацыяй энтрапічнага працэсу ператварэньня вэртыкаляў у гарызантальную сыстэму геамэтрычнай сеткі, якая запаўняла плоскасьць кадру. Фотазапіс становіцца спробай знайсьці візуальны эквівалент, «дакумэнтаваньня» натуральнага працэсу зьменаў, якія прыводзяць да фазы зьліваньня матываў, элемэнтаў, аб'ектаў. Гарызантальная кампазыцыйная сыстэма цыклю набліжае ягоны візуальны аспэкт да фатаграфіі, якая пранікае ў закуткі памяці, паказвае штосьці, што ляжыць ніжэй за рэчаіснасьць, або, інакш кажучы, рэчаіснасьць, пазбаўленую суб'ектнай і аб'ектнай прысутнасьці, заснаванай на працэсе ператварэньня, дэфармацыі; рэчаіснасьць падсьвядомасьці, рэчаіснасьць несфармаванай тканкі сьвету — сырой, першаснай дэтранізацыі Жоржа Батая.

Калі апошнія фатаграфічныя эцюды падлогі, пераўтвораныя ў кадры, сягнулі межаў абстрактнага запісу, чарговыя творы мастака займелі характар дасьледаваньня й пераўтварэньня рэальных плошчаў. У 1987 годзе ва «Ўсходняй галерэі» ў Лодзі мастак распачаў працоўны працэс у рэальнай прасторы: зьдзёр з падлогі сынтэтычную плітку, зьмясьціў яе на сьцены галерэі, зрабіўшы своеасаблівую інвэрсію, зьмяніўшы пункты арыентацыі, узьняўшы звычайную рэч да рангу татальнай перабудовы інтэр'еру.

Рэалізуючы працу «The Hoisting» з плітак падлогі ў Сан-Дыега (1991), ён сфармаваў зь іх піраміду, якая ўзносіцца ўгару, выклікаючы асацыяцыі з манумэнтальным ладам архітэктуры.

## Трансавангард ваеннага становішча

У Заходняй Эўропе й у Злучаных Штатах рух трансавангарду зьявіўся амаль адначасова на пераломе 70-х і 80-х і досыць дынамічна распаўсюдзіўся па ўсім сьвеце, нават у такіх далёкіх краінах, як Кітай і Аўстралія. *Arte cifra, Figuration libre, Neue wilde, Nouveau fauves, New Wave, New Image Painting* — нацыянальныя падвіды гэтай зьявы мелі характэрныя агульныя рысы. Найважнейшымі былі рэактывацыя жывапісу й свабоднае выкарыстаньне арсэналу постмадэрніскіх сродкаў, такіх як цытата або пастыш. Фэрмэнт трансавангарду патрапіў і ў Польшчу.

Пакаленьне, якое дэбютавала пры ваенным становішчы, натуральным чынам прышчапіла трансавангардны імпульс на польскай глебе. У неспрыяльных умовах, што панавалі ў афіцыйных установах краіны, яно самастойна генэравала стыхійныя замяшчальныя структуры. Тады і ўтварыліся «Gruppa», «Luxus», «Koło Klipsa» («Кола Кліпса»), «О’ра», «Sternenhoch» («Высаказор’е»), «Neue Bieriemiennost» (нямецка-расейскі макаранічны выраз: «Новая цяжарнасьць»), «Totart», «Wspólnota Leeeżeć» («Суполка Ляжаааць»). Пэрыяд новай экспрэсіі суправаджаўся дэцэнтралізацыяй мастацкага жыцьця ў краіне, у рэгіёнах выявіліся асобы й асяродкі, якія лічыліся пэрыфэрыйнымі й не знаходзілі месца ў агульнапольскім мэйнстрыме. На гэтай хвалі выплыў і Люблін, галоўным чынам за кошт групы пад назвай «Riders of the Lost Black Volga» («Ездакі на заблукалай чорнай «Волзе»).

## Збудаваць уласны кантэкст

Гісторыя «Riders», у адрозьненьне ад гісторыі іншых згаданых групаў, не дачакалася грунтоўнага дасьледаваньня. Калектыў дзейнічаў у Любліне ў 1986–88 гадах, і ягоную аснову складалі Дарыюш Грычон, Зьбігнеў Мольскі, Малгажата Кляпадла й Анджэй Цяшыньскі, зь імі супрацоўнічалі Мікалай Бялуга, Міраслаў Грамада, Веслаў Ендрушчак.

Дарэк Грычон: *Група мела неўтаймоўную здольнасьць выжываньня. Лягчэй было стварыць шайку, якая б адбівала ўдары з усіх бакоў, чым дзейнічаць паасобку. У той час узьнікалі амаль прыватныя клікі, якія стваралі ціск, і гэты ціск засмоктваў многіх людзей, у выніку чаго паўставалі культурніцкія ці мастацкія рухі, нефармальныя й кароткачасовыя. Зьбіваньне ў блёкі, групоўкі здавалася моднай рэччу. Апрача групаў, былі таксама гарады, амаль як цяперашнія футбольныя клюбы — Познань, Уроцлаў, Варшава, Гданьск, Люблін, — якія мелі лякальны характар, але функцыянавалі як сазлучаныя сасуды, дзякуючы ўзаемнай карэспандэнцыі, свабоднаму інфармацыйнаму абмену.*

Мастакі пазнаёміліся падчас навучаньня. Яны вучыліся ў Інстытуце мастацкага выхаваньня (IWA) Унівэрсытэту імя Марыі Кюры-Складоўскай (UMCS) у Любліне. Тады якраз скончылася ваеннае становішча. Інстытут быў досыць своеасаблівым месцам, далёкім ад прэстыжу кракаўскай ці варшаўскай акадэміі. Існавала перакананьне, што, пакуль у IWA выкладаў Рышард Вінярскі[1], школа была на ўзроўні, а калі ён адыйшоў, усё зьмянілася. Найбольш актыўныя студэнты хацелі адпрэчыць надакучлівую гістарычнасьць і паказаць, што калі немагчыма працаваць у кантэксьце «сур’ёзнай мастацкай акадэміі», то трэба зьвіць уласнае гняздо й стварыць мясцовы кантэкст. Дарэк Грычон, Малгажата Кляпадла, Зьбігнеў Мольскі, Веслаў Ендрушчак і Анджэй Цяшыньскі пазнаёміліся на першым курсе навучаньня ў Інстытуце ў майстэрні Мечыслава Германа. Удзень яны займаліся ў майстэрні, а вечарамі й начамі ў інтэрнаце на Зана горача дыскутавалі пра мастацтва й ладзілі «дуэлі карцін», падчас якіх фармавалі свае погляды й дакраналіся да жывой матэрыі мастацтва.

Анджэй Цяшыньскі: *Люблін аказаўся для нас пажыўнай глебай. Вольны ад аўры акадэмізму, насычаны канцэптуалізмам і найноўшым мастацтвам (BWA[2]), адкрыты для сьвежай крыві («Белая галерэя») горад. Мы мелі блізкія кантакты з такімі мастакамі, як Мікалай Смачыньскі, Дарэк Ліпскі, з калектывам «Белай», натхняльныя сустрэчы са Збышкам Вазьняком. Было выбітнае кола старэйшых студэнтаў і выпускнікоў, сабраных вакол Майстэрні Візуальных Структураў, якую вёў Дабраслаў Багіньскі.*

Вырашальным пунктам аказалася аднаўленьне галерэі «Конт». Група студэнтаў занялася галерэяй дзесьці ў 1984 годзе.

Цяшыньскі: *Пакой у інтэрнаце станавіўся цесны для такога мастацка-мэнтальнага катла. Мы заўважылі збоку ад «трамваю», то бок вахцёрскай, досыць цікавае памяшканьне, запханае інтэрнацкім барахлом. У выніку спрэчкі з кіраўніцай інтэрнату мы атрымалі гэтае памяшканьне, якое, аказваецца, некалі звалася «Контам». Гэта была надзвычайна важная для нас падзея. Мы атрымалі месца для начной працы, а самае галоўнае — аказалася, што мы маем уласную галерэю, і не абы-якую. «Конт» ужо тады быў легендарны. Так пасьля нейкага пэрыяду нябыту «Конту» мы пачалі зноў арганізоўваць там выставы абсалютна нефармальнага характару.*

Грычон: *Галерэя «Конт» паўстала, бо дзесьці трэба было маляваць карціны; у школе для гэтага ўмоваў не было, у інтэрнаце, дзе жыла бальшыня студэнтаў, была адна майстэрня на 50 чалавек, у пакоях мы жылі па чацьвёра. Мы глядзелі ласым вокам на галерэю «Конт», якая тады была замкнутай кладоўкай, са сваёй гісторыяй і міталягічнай аўрай. Мы хацелі захапіць яе для майстэрні, прыватнага дому культуры, мы прагнулі ажывіць гэтае мёртвае месца. Гэтыя імкненьні тады трапілі на адпаведны грунт, бо была група людзей са старэйшых курсаў, якая ўзносіла панэгірыкі ў гонар старога «Конту». З прычыны нашай настойлівасьці старэйшыя студэнты, якія апекаваліся тым памяшканьнем, выкрасалі зь сябе іскру энэргіі й арганізавалі выступ Яна Грыкі й паказ слайдаў з Documenta 7, якія Добэк Багіньскі сабраў, быўшы ў Касэлі. Гэта быў 1983 ці 84 год. Мы пайшлі да іх і сказалі: «Вы зрабіце імпрэзу, а мы вам дапаможам, папрыбіраем». Ідэя прынялася, і мы з «прыбіральшчыкаў» хутка ўзьняліся да людзей, цалкам адказных за гэтае месца. Гэта было вольнае таварыства: Адам Каваляўскі, Марэк Адамчук, Анджэй Цяшыньскі й я, — нашая чацьвёрка стварала аснову. Да нас далучаліся пры розных нагодах Мірэк Грамада й Весек Ендрушчак. Праз год далучыўся Мольскі.*

## Люблінскія «новыя дзікія»

Фэрмэнт ***Neue Wilde*** трапіў і на люблінскую глебу. Адной з важных падзеяў, якія гэта зьвеставалі, была выстава «Grupp’у» «Толькі сёньня ўвечары, золатка», арганізаваная галерэяй «Лябірынт» у 1985 годзе. Маладыя адэпты мастацтва прынялі гэтую зьяву з энтузіязмам.

[1] Рышард Вінярскі вёў заняткі ў IWA UMCS у Любліне ў 1976–81 гадах.
[2] Бюро мастацкіх выставаў.

Цяшынькі: *Гэта быў час моцнага постканцэптуалізму. Нам бракавала мастацкай матэрыі. Збаўленьнем аказалася выстава «новых дзікіх» у люблінскім BWA. У нашых дзеяньнях пачало праступаць спалучэньне канцэптуальных чыньнікаў з матэрыяльнымі, выяўленчымі, скульптурнымі. У многіх выпадках падзелы пачалі сьціраццa. Важную ролю сталі адыгрываць псыхіка, інтравэрсія, экстравэрсія.*

Адначасова ўдзельнікі групы з уласьцівым ім скептыцызмам прымалі пашыраны ў Польшчы рух новай экспрэсіі, па-свойму яго інтэрпрэтуючы. У сярэдзіне 80-х новая экспрэсія мела ўжо досыць доўгую гісторыю ў сьвеце, была настолькі моцнай зьявай, што магчымасьці яе эксплюатацыі пачалі вычэрпвацца. Першыя «дзікія» ўжо сталі клясыкамі, іхныя карціны віселі ў музэях, банках і офісах yuppies. Перасьмешніцкай варыяцыяй на тэму кар'еры «ў стылі Neue wilde» была выстава «Мае wilde», арганізаваная Грычонам, Мольскім і Цяшынькім у «Конце» ў 1986 годзе. Гэта была й першая сумесная прэзэнтацыя тройкі мастакоў на аснове спантаннай, непасрэднай дзейнасьці ў галерэі.

Выставы ў «Конце» былі пачаткам сумеснай дзейнасьці людзей, якія неўзабаве мелі стварыць калектыў з таямнічай назвай «Riders of the Lost Black Volga». Грычон і Мольскі вялі бясконцы дыялёг, які быў вынікам іхнага мастацкага сталеньня. Яны шукалі вэрбалізацыі для формулы, што заключала б у сабе камбінацыю эфэмэрнай падзеі й розных элемэнтаў, якія ўплываюць на органы пачуцьцяў. Зь іхнай дыскусіі нарадзілася ідэя групы, створанай для адмысловых нагодаў. Яна паўставала толькі тады, калі мастакі патрабавалі фаервэрку, моцнага ўдару. Група мела некалькі прэзэнтацыяў, хутчэй у выглядзе непасрэднай падзеі, чым аб'екту. Не аднойчы яны суправаджаліся выставамі карцінаў ды інсталяцый. Ян Грыка падкрэсьлівае, што «Riders» не былі толькі мастакамі, іхныя выступы набывалі форму выбуху экспрэсіі ўсіх сродкаў адначасова.

Грычон: *Мы былі прыгнечаныя й расчараваныя — практычна ўсім; таму й нарадзілася назва-ідэя, якая адлюстроўвае адчай, іронію, бездапаможнасьць і ўвесь наш пратэставы падыход да сюррэальнасьці, якая нас атачала… Адчужанасьць і інтравэртычныя пакуты, самазьнішчэньне асобы ў сэнсе прыналежнасьці да чагосьці (статкавы характар). Шмат экзыстэнцыялізму ў вельмі экспрэсіўнай форме.*

## Пакаленьне «Чорнай «Волгі»

Назва «Riders of the Lost Black Volga» была кампіляцыяй дзьвюх гісторыяў, якія захаплялі маладых мастакоў у пэрыяд іхнага сталеньня: пра чорную «Волгу» й пра Індыяну Джонса. Кожная зь іх узьдзейнічала на ўяўленьне. Гэтая забаўная слоўная гульня мела падвойнае дно.

Фільм пра прыгоды нястомнага навукоўца «Raiders of the Lost Ark» («Пошукі згубленай аркі») зьявіўся ў 1981 годзе й хутка стаў культавым. Гарадзкая легенда, распаўсюджаная ў Польшчы ў 1960-х і 1970-х, апавядала пра чорны лімузін маркі «Волга», які кружляў па горадзе й выкрадаў дзяцей. Вакол гэтай пагалоскі назьбіралася мноства сюжэтаў і вэрсіяў, уключна з тэорыямі змовы. Гэтага кшталту urban legends спэцыфічна ўзьдзейнічаюць на масавую сьвядомасьць. Іх можна акрэсьліць як вірус розуму, што перадаецца ад чалавека чалавеку.

Словаспалучэньне «Riders of the Lost Black Volga» было перасьмешніцкім і пратэставым. Але мастакі, апрача алюзіі на фільм і гарадзкую легенду, спрабавалі раскрыць глыбейшы сэнс, які хаваўся ў шматзначнай гульні словаў. Назва была задуманая як простая й адначасова сэмантычна насычаная. Яна адлюстроўвала намеры чальцоў групы, якія спрабавалі запусьціць у мастацкае асяродзьдзе вірус, інфікаваць мёртвую тканку акадэмічнай сфэры.

Грычон: *Нашая група была праявай татальнасьці мастацкіх дзеяньняў, містэрыяй гарадзкога фальклёру, забаўляльным момантам індывідуальнай экспрэсіі ў кантэксьце шырокага разуменьня мастацкай актыўнасьці.*

Зьбігнеў Мольскі: *Што тычыцца назвы, то я памятаю, што менавіта зварот да «гарадзкой легенды» надаваў такую сілу гэтаму сымбалю (чорнай «Волзе») і выяўляў нашае болей ці меней сьвядомае імкненьне да адчуваньня «безназоўнага» і, як бы мы гэта акрэсьлілі сёньня, трансцэндэнцыі... Час, у які гэта адбывалася, таксама, здаецца, пакінуў на нас адбітак. Мы толькі што перажылі ваеннае становішча, і ўсё навокал эвалюцыянавала, зьмяняліся ідэалёгіі, погляды, стаўленьне да манапалістычнай рэлігіі краіны. Нас шакавала крывадушнасьць уладаў (мы былі хіба апошнімі мастакамі, якіх правярала афіцыйная цэнзура), а «кічаватасьць» афіцыйнага каталіцызму здавалася прынамсі падазронай. Мастацтва стала прасторай, у якой можна было абменьвацца досьведам сваёй духоўнай «язды» ў бясьпечным асяродку нефармальнай групы.*

Грычон: *Мы мелі на ўвазе «riders» як удзельнікаў «of a ride» — бадай, няма такога польскага слова, але гаворка ідзе пра «язду» ў пасіўным сэнсе, як на атракцыёнах, на карусэлі, то бок пра пасажыра, які пасіўна аддаецца працэсу язды. Часта гэта перакладаецца як «вершнік», але тое толькі адно са значэньняў, бо «вершнік» («jeździec») у польскай — хутчэй форма актыўная. А мы мелі на ўвазе менавіта пасіўнасьць: «Мы пакаленьне, якое пасіўна ўдзельнічае ў паездках Чорнай «Волгі» (ангельская мова ў гэтым выпадку больш тонкая). Натуральна, кантэкст фільму даваў нам дадатковы, шырэйшы культурны, міталягічны ці рэлігійны абшар.*

У гэты момант варта прыгадаць пра славутую прамову Біла Хікса «Гэта толькі язда» («It's just a ride»). Мастакі, натуральна, не маглі яго ведаць у той час, але тое, пра што казаў Хікс, набліжанае да іхнага спосабу мысьленьня й уражлівасьці ў дачыненьні да навакольнага нонсэнсу. Прамова пачынаецца са словаў: «The world is like a ride at an amusement park, and when you choose to go on it, you think it's real, because that's how powerful our minds are»[3]. Язда на атракцыёнах у Хікса — гэта мэтафара разгубленасьці, заблытанасьці ў махіне ўлады, якая эфэктыўна засланяе іншыя пункты гледжаньня. Мы знаходзімся ва ўладзе ілюзіі, «дазваляем дэманам будаваць макет жыцьця» й пазбываемся людзей, якія адкрываюць нам на гэта вочы. Амэрыканскі комік скончыў маналёг аптымістычнай заявай, зь якой вынікала, што мы заўжды можам зьмяніць оптыку. Выглядае на тое, што мастакі з кола «Riders» не жывіліся ілюзіямі й у сваіх падыходах былі больш цынічныя. Трэба памятаць пра ўмовы, у якіх ім давялося тварыць, і пра клімат позьніх 1980-х у Польшчы.

Панятак «ride» у кантэксьце дзеяньняў «Riders of the Lost Black Volga» — зьмястоўна багаты, яго можна інтэрпрэтаваць самымі рознымі спосабамі. Чальцы групы пачуваліся прадстаўнікамі пакаленьня, «якое бярэ пасіўны ўдзел у працэдуры Чорнай «Волгі»,

але адначасова сам факт быцьця мастаком надаваў ім вышэйшы статус і большую ступень далучанасьці.

Мольскі: *Назва й дзейнасьць групы «Riders of the Lost Black Volga» ў маім разуменьні мелі выяўляць наш прарыў з замкнёнага кола нямогласьці, падвешанасьці, што было неабходна для выжываньня ў «паўпадпольлі». Аднак мы ні ў якім разе не адчувалі сябе пасіўнымі, выкрадзенымі «махінай», а хутчэй сьвядомымі «ездакамі», што з ироніяй глядзелі на рэшту наіўных, з важнымі мінамі пасажыраў, а можа, і на саміх сябе.*

## Разам — асобна

Суіснаваньне ў грамадзе было істотным элемэнтам дзейнасьці маладых творцаў. Рышард Возьняк, чалец «Grupp'у», падсумаваў фэномэн дзейнасьці калектыву наступнымі словамі: «Мы пераймаліся не мастацтвам, а спантанным пераадольваньнем, канвульсіўным адпрэчваньнем адзінкавай паасобнасьці й індывідуалізму на карысьць камунавай супольнасьці натхненьня». Гэтыя словы можна з посьпехам дапасаваць да ўсіх груп, якія дзейнічалі ў тыя часы. «Riders» утваралі калектыў, але кожны зь ягоных чальцоў карыстаўся уласнай паэтыкай і ўносіў у супольны абшар уласную ўражлівасьць. Мяккія лісьцевыя інсталяцыі Цяшыньскага, аб'екты зь люстэрак Кляпадлы, экспрэсіўная фігурацыя Грычона, чорныя карціны Мольскага зь іхнай шматзначнай сымболікай — кожны з гэтых індывідуальных чыньнікаў вызначаў моц узьдзеяньня «Riders».

Цяшыньскі: *Што нас аб'ядноўвала? Я хацеў бы неяк гэта акрэсьліць — агульны дух эпохі, але гэта банальнасьць. Шэрая папера, пошук — аж да болю — жывой матэрыі, абдзіраньне скуры, выцягваньне на паверхню ўласнай нэрвовай сыстэмы, зьмененыя станы сьвядомасьці; былі і сьмех, і забава, імкненьне да вызваленьня, самаафірмацыя. Збышак стварыў уласную міталёгію, заснаваную на будыйскіх матывах, Гося — свой сьвет мэтафары, Дарэк, мне здаецца, прадбачыў шумлівую, агрэсіўна-прымітыўную сучаснасьць, мяне цікавіла самапазнаньне, рэалізаванае праз своеасаблівы пластычны дзёньнік чалавечага суб'екта. Гэтую пазыцыю характарызавала адвольнасьць неабмежаванага чэрпаньня з усіх даступных крыніц: Захад, Усход, будучыня, мінуўшчына, мастацтва, сацыялёгія, рэлігія, прырода.*

## Містэрыя гарадзкога фальклёру

У сьнежні 1987 году група выступіла пад дэвізам «Secret Black Volga» ў «Белай галерэі». І невыпадкова, бо галерэя адпачатку была настроеная на прасоўваньне люблінскай творчасьці. Было важна стварыць лякальны асяродак, у якім мастакі звонку ўваходзілі б у дыялёг. Апрача таго, гэта быў час экспансіі «дзікага» мастацтва, якое група падсьвядома адчувала, надаючы яму моцны індывідуальны характар. Ян Грыка напісаў у каталёгу: «Здаецца, зыходная энэргія, якую яны вылучаюць, дастатковая, каб увайсьці на мастацкую сцэну ў добрай форме. Іхная актыўнасьць выяўляе вялікае эмацыйнае напружаньне, якое мае акрэсьлены кірунак і мэту. Не чакаючы інстытуцыйных магчымасьцяў і нагодаў, яны самі арганізуюць жывыя й дынамічныя выставы, паказы, выступы, не марнуючы свайго патэнцыялу. Іх мастацтва й уся дзейнасьць палягаюць у бесьперапыннай вэрыфікацыі. Часам яны супольна малююць адну карціну (Галерэя «Конт», «Белая галерэя») або вядуць мастацкія дыялёгі («Студэнцкая хатка») — ствараюць уласную пазыцыю праз канфрантацыю, повязі й рэляцыі». Мастакі дапаўнялі свае статычныя працы жывой акцыяй, якая нейкім чынам легітымізавала сэнс іхных дзеяньняў. Экспрэсія цела, жывапіс, скульптура ці інсталяцыя стваралі выбітную цэласьць і дэфініявалі адно аднаго. Праз інтэрпрэтацыі ў сфэры мастацтва й бесьперапынныя фармальныя пошукі мастакі спрабавалі дасягнуць ягонай жывой тканкі. Грыка прыгадвае, што іхныя мерапрыемствы былі канвульсіўныя й генэравалі невымерны рух: паўставала вялізная колькасьць зьяваў і сюжэтаў, якія, уласна кажучы, немагчыма было ахапіць. Мастакі ставілі націск на саўдзел публікі, уцягваючы яе ў гульню, давалі сабе права на экспэрымэнт, рухаліся на мяжы памылкі, але гэта было ўпісана ў іхны шчыры й спантанны пасыл, менш нагружаны тэарэтычнай асновай, затое больш падлеглы эмоцыям і адчуваньням.

Пазыцыю «Riders» вызначалі нежаданьне паддацца традыцыі й нязгода з рэчаіснасьцю й ейнымі абмежаваньнямі. Мастакі былі бескампрамісныя й непакорлівыя. Іх адштурхоўвалі як крывадушнасьць улады, так і мартыралягічны патас. Яны адпрэчвалі тое, што зьвязала б іх як з сыстэмай, так і з нацыянальна-хрысьціянскаю плыньню незалежнай культуры. Касьцельная плынь са сьмяротнай павагай прадстаўляла сфэру сакруму мастацтве, затое «Riders» выяўлялі дыянісійскую радасьць прафанум — і гэтыя сьветы не пасавалі адзін аднаму. Адсутнасьць рынку мастацтва й зьвязаных зь ім мастацкіх катэгорыяў, а таксама спэцыфічнае разуменьне культурнай палітыкі ў тыя часы прывялі да таго, што дзейнасьць «Чорнай «Волгі» працякала ў андэргграўндзе. Яны стварылі сабе альтэрнатыўны мікрасьвет, антыдотум на шэрасьць і нудоту ПНР — у «Riders» панаваў няспынны фэстываль усялякага мастацтва. Яны выкарыстоўвалі гратэск, абсурд, іронію й правакацыю, замахваліся на сьвятыні й аддаваліся дадаістычным забавам.

Містэрыя гарадзкога фальклёру, пра якую гаварыў Грычон, выяўлялася ў шматузроўневай гульні з сымбалямі й мітамі. Эпатаж кічам, зьмешваньне сюжэтаў стваралі спэцыфічную атмасфэру заглыбленасьці ў гарадзкі фальклёр. Мастакі спалучалі разнастайныя сродкі. Іхны пасыл меўся быць сынтэзам разнастайных дзеяньняў — выяўленчых, музычных, паратэатральных і да т. п. У структуры іхных выступаў заўжды зьяўляліся элемэнты жывой акцыі, музыкі (сыгнальныя сьвісткі), візуальны складнік (карціны, аб'екты, інсталяцыі, скульптуры, сцэнаграфія, фільмы, слайды, вогненнае шоў, танец), часам пахі ці смуроды, артысты маніпулявалі й з фактураю падлогі, па якой хадзілі людзі (напрыклад, інсталяцыі Цяшыньскага з сухога лісьця). Апрача дзейнасьці, у якой яны спэцыялізаваліся, яны шукалі новыя для сябе формы працы.

Мольскі: *Нашыя выступы былі звычайна больш або менш падрыхтаваным выбухам экспрэсіі, што межавала са звычайнай забавай, у якую мы ўцягвалі й нашую «публіку». Мы спалучалі дысцыпліны (гэта былі музычныя канцэрты, дэклямаваньне ўласнай паэзіі, пэрформансы, спантанны абмен поглядамі з публікай на тле нашых твораў). Нашыя «канцэрты» або выступы былі хутчэй спантанным выбухам энэргіі й пачуцьця еднасьці з атачэньнем (мяркую, мы ніколі не ўяўлялі сабой замкнёнага анкляву), чым пэўным «expose» нашых дасягненьняў матэрыяльнага ці інтэлектуальнага характару, «ex catedra» пададзеных публіцы. Пра гэта сьведчыць вялікая разнастайнасьць пазыцыяў і стыляў удзельнікаў нашых супольных выставаў. Часам у мяне было ўражаньне, што такіх*

[3] «Сьвет нагадвае язду на атракцыёнах: калі ты адважваесься на яе, ты думаеш, што яна сапраўдная, бо такая моц нашага розуму». Гл.: http://pl.youtube.com/watch?v=iMUiwTubYu0

*скрайніх і невымоўна моцных, яскравых асобаў аб'ядноўвае ня што іншае, як схільнасьць да агульнай забавы.*

Грычон: *Намёкі на атрыкцыён і вонкавую забаву можна знайсьці ў назьве фэстывалю «Карусэль»[4], а таксама ў кічаватасьці нашай прадукцыі: танныя паходні, выбухі з карбіду, гратэскавая музыка, прэтэнцыёзныя назвы працаў ці забаўляльны характар нашых выступаў. Нас цікавілі гарадзкі фальклёр і дачыненьне сучаснасьці да архаічных атавізмаў. Калісьці нас нават папракнулі, маўляў, бяздумнае дудзеньне ў фанфары ня можа быць мастацтвам. Да таго ж танная імітацыя сур'ёзнага мастацтва выклікала падазрэньне, што тут штосьці ня так. Людзі трохі губляліся ўва ўсім гэтым, а мы ня вельмі хацелі штосьці ім тлумачыць.*

## Дзікая інтуіцыя

Кшыштаф Станіслаўскі, спрабуючы падсумаваць 20 гадоў новай экспрэсіі («Nowa ekspresja. 20 lat». Olsztyn, 2006), піша, што мастацтва, якое тады нараджалася, было не да канца самасьвядомае, ухілялася ад дакумэнтаваньня, аналізу й глыбейшых дасьледаваньняў. Пры ўсёй разнароднасьці імкненьняў, паасобных чальцоў групы лучыла прага вызваленьня ад эстэтычных тэорыяў, ад законаў разьвіцьця, дамінантных тэндэнцыяў, якія мелі б акрэсьліваць кшталт мастацтва. Мастакі свабодна рухаліся па шматлікіх плынях. У меншай ступені яны хацелі аналізаваць, даводзіць, апісваць, для іх важнейшыя былі сродкі выяўленьня. Ян Грыка, падсумоўваючы зьяву «дзікага» мастацтва, заявіў, што звышэкспрэсія дзеяньня прывяла да таго, што не паўсталі важныя рэчы, якія б мелі сталую вартасьць. Наадварот, яны былі эфэмэрныя й няўлоўныя. «Чорная «Волга» выкарыстала гэты факт для паказу сваіх магчымасьцяў і для зьнікненьня. Рэзкае вызваленьне ад формы вынікала з патрэбы часу. Цяжка вызначыць, ці мела сыстэма вартасьцяў, якую прапанавалі мастакі, пэрспэктыву для наступных пакаленьняў.

Цяшыньскі: *Бясспрэчна, гэта была рэакцыя на постканцэптуалізм, адштурхоўваньне ад пэўнай нудоты, рэакцыя на закасьцянелую іконасфэру, «memet omen» эстэтыку постканцэптуальных дзеяньняў. Мастацтва 1980-х было пераваротам з рэвалюцыйнай энэргіяй. З гэтага вынікалі наступствы. Мастацтва «само для сябе» аказалася для нас бясплоднай глебай. Дыспут зь Дзюшампам быў намі перарваны. Нас не цікавілі аўтарытэты або кулюары канцэптуальнага мастацтва. У сувязі з гэтым зьмянілася інтэлектуальнае рамяство. Грунтуючыся на словах Станіслаўскага, магу сказаць, што мы займаліся сьвядомай несьвядомасьцю, аналіз быў ворагам спантаннасьці, затое мы глыбока дасьледавалі эмоцыі, адчуваньні. Вяла нас збольшага інтуіцыя, і ў значна меншай ступені — розум. Усё было дзікае, цялеснае, жывое.*

Трансавангард, як пісаў Ачыле Баніта Аліва, дазваляе мастацтву рухацца ўва ўсіх кірунках, нават у мінуўшчыну. Мастакі «Riders» свабодна чэрпалі з розных крыніцаў культуры. Надзвычайна важнай была музыка. 1980-я — гэта час г. зв. «новай хвалі», якая выплыла з punk rock'у, а таксама ахоплівала розныя больш ці менш нішавыя плыні. «Riders» былі пад уплывам, апрача іншага, і электроннага авангарду «The Residents». Музычныя, пластычныя й інтэлектуальныя чыньнікі перапляталіся, ствараючы канглямэрат ідэяў, зь якога й чэрпалі мастакі.

Мольскі: *У маладосьці мы паглыналі багата рознай літаратуры, а што да інсьпірацыі, то на нас у аднолькавай ступені ўплывалі карціны Лявона Голуба й мастацтва барока, вулічныя графіці, мастацтва абарыгенаў ці чытаньне «Тыбэцкай Кнігі мёртвых». З запалам нэафітаў мы «праклямавалі» нашыя адкрыцьці / адчуваньні.*

Непасрэднае ўспрыманьне жыцьця як матэрыі ў спалучэньні зь неабмежаваным уяўленьнем і мэтанакіраванасьцю вызначалі спэцыфіку трансавангарду ў люблінскім разуменьні. «Riders of the Lost Black Volga» сталі голасам свайго пакаленьня, зь ягоным досьведам, захапленьнямі, хваробамі. Яны былі актыўныя падчас навучаньня, з заканчэньнем жа яго дарогі мастакоў пачалі разыходзіцца. Да таго ж на іхных лёсах моцна адбіліся палітычная завіруха й зьмена грамадзкага ладу. Пералом 1989 году па-рознаму паўплываў на іхныя біяграфіі. Некаторыя засталіся ў Польшчы, іншыя разьляцеліся па сьвеце. Дарэк Грычон з 1990-га жыве ў ЗША, працуе ў якасьці арт-дырэктара. Зьбігнеў Мольскі, апрача іншага, працуе правадніком па Падляшшы й Нацыянальным Бебжанскім парку, Малгажата Кляпадла вучыць выяўленчаму мастацтву, Анджэй Цяшыньскі працуе ў Цэнтры сучаснага мастацтва ў Пшэмысьлі.

1980-я — гэта час палітычных і мастацкіх выбараў, шалёных праектаў і працы ў складаных умовах, час, калі патрэба ў творчасьці была мацнейшая за абмежаваньні, а мастацтва нараджалася паўсюль, у гарачцы супольных пошукаў. Напэўна, дзякуючы гэтаму з пэрспэктывы часу дасягненьні «Riders» застаюцца нязмушанымі, шчырымі й яскравымі.

## Храналёгія

**1986 — *Riders of the Lost Black Volga*, або Газавая труба з накладкай: выступы Грычона, Ендрушчака, Грамады й Мольскага. У выставе бралі ўдзел Бялуга, Грычон, Кляпадла, Цяшыньскі, Мольскі. Галерэя «Конт», Люблін.**

**1987 — *Riders of the Lost Black Volga*: выступ Мольскага, Грычона, Бялугі й Кляпадлы на VIII музычным фэстывалі «Паза кантролем». Клуб «Рэмонт», Варшава.**

**1987 — *Secret Black Volga*: выстава інсталяцыяў і жывапісу, выступы Цяшыньскага, Мольскага, Грычона й Кляпадлы. «Белая галерэя», Люблін.**

**1988 — *Riders of the Lost Black Volga*: выступ Грычона, Мольскага й Ендрушчака на II Фэстывалі «Карусэль». Клюб «Гжэсь», Люблін.**

**Марта Рычкоўска** (нар. у 1983) — *выпускніца аддзяленьня графікі на UMCS і гісторыі мастацтва ў Люблінскім каталіцкім унівэрсытэце, крытык, куратарка. Працуе ў Цэнтры пэрформансу. Належыць да Люблінскага Таварыства заахвочваньня мастацтва.*

[4] «Карусэль» — першы люблінскі фэстываль «маляванак», прыдуманы Грычонам. Адбываўся цыклічна з 1987 па 1989 год.

**Дарыюш Кароль**, «Бяз назвы», «Белая галерэя», Люблін, 2008. Фота: Ян Грыка
**Dariusz Korol,** Galeria Biała, Lublin 2008, obrazy bez tytułu. Fot. Jan Gryka



# Dariusz Korol



Bezpośrednie traktowanie życia, jako materii w połączeniu z nieokiełznaną wyobraźnią i determinacją, jaka cechowała artystów, stanowiły o specyfice transawangardy w lubelskim wydaniu. Riders of the Lost Black Volga stali się głosem swojego pokolenia

# Riders of the Lost Black Volga – zagubione ogniwo transawangardy

Marta Ryczkowska

W latach 80. Polskę zalewa fala nowej ekspresji. Polscy „nowi dzicy" tworzą anarchistyczny, burzycielski ruch i oczyszczają teren sztuki z duchów postkonceptualizmu. Po dekadzie sztuki bez obiektów młodzi artyści gwałtownie wracają do malarstwa. Nie ma tam wnikliwych analiz i dokumentacji. Sztuka staje się raczej formą kuszenia i prowokacji, epatuje brutalizmem, perwersją, ludycznością i zabawą rozmiłowaną w skrajnościach. Jest polimorficzna, łączy rozmaite środki wypowiedzi, oprócz malarstwa także instalację, performance, improwizację muzyczną. Jednocześnie jest osadzona w specyficznym kontekście bezbarwnej rzeczywistości PRL w czasach kontestacji, intensywnych przeżyć i bohaterów z żelaza.

## Transawangarda stanu wojennego

W krajach Europy Zachodniej i w Stanach Zjednoczonych ruch transawangardy zaistniał niemal jednocześnie na przełomie lat 70. i 80., i wkrótce rozprzestrzeniał się bardzo dynamicznie w całej Europie, a nawet w tak odległych krajach, jak Chile czy Australia. Arte cifra, Figuration libre, Neue wilde, Nouveau fauves, New Wave, New Image Painting – rozmaite narodowe odmiany tego zjawiska miały charakterystyczne punkty wspólne. Jednym z najważniejszych było reaktywowanie malarstwa i swobodne korzystanie z arsenału postmodernistycznych środków, takich jak cytat czy pastisz. Ferment transawangardy przeniknął także do Polski.

Pokolenie debiutujące po stanie wojennym w sposób naturalny zaszczepiło transawangardowy impuls na polskim gruncie. W niesprzyjających warunkach, panujących w oficjalnych instytucjach kultury, samoistnie generowały się spontaniczne struktury zastępcze. Powstały wówczas: Gruppa, Luxus, Koło Klipsa, O'pa, Sternenhoch, Neue Bieriemiennost, Totart, Wspólnota Leeeżeć. Okres nowej ekspresji wiąże się z decentralizacją życia artystycznego w kraju, wtedy też ujawniły się indywidualności i środowiska w regionach, które uchodziły dotąd za peryferyjne i nie znajdowały miejsca w ogólnopolskim mainstreamie. Na tej fali wypłynął Lublin, głównie za sprawą formacji o nazwie Riders of the Lost Black Volga.

## Zbudować własny kontekst

Historia Riders, w odróżnieniu od wyżej wymienionych, nie doczekała się rzetelnych opracowań. Grupa miała znaczący wpływ na środowisko lubelskie w tamtym czasie. Kolektyw działał w Lublinie w latach 1986-88, a jego trzon tworzyli: Dariusz Gryczon, Zbigniew Molski, Małgorzata Klepadło i Andrzej Cieszyński, współpracowali z nimi tacy artyści jak: Mikołaj Bieluga, Mirosław Gromada, Wiesław Jędruszczak.

Darek Gryczon: *Grupa miała nieprawdopodobne parcie, żeby przetrwać. Łatwiej było zawiązać watahę, która by odpierała ciosy ze wszystkich stron niż działać w pojedynkę. Wówczas zawiązywały się niemalże kliki prywatne, które wytwarzały ciśnienie i to ciśnienie zasysało więcej ludzi, w wyniku czego powstawały ruchy kulturowe czy artystyczne, nieformalne i krótkotrwałe. Zbijanie się w bloki, koterie, wydawało się rzeczą na fali. Oprócz grup były też miasta, prawie jak dziś kluby piłkarskie, Poznań, Wrocław, Warszawa, Gdańsk, Lublin, które narzucały lokalny charakter, ale funkcjonowały jak naczynia połączone dzięki wzajemnej korespondencji, swobodnie przepływającej informacji.*

Artyści poznali się na uczelni. Studiowali w Instytucie Wychowania Artystycznego Uniwersytetu Marii Curie Skłodowskiej w Lublinie (IWA). Właśnie zakończył się stan wojenny. Uczelnia była dość specyficznym miejscem, dalekim od prestiżu akademii krakowskiej czy warszawskiej. Pokutowało przekonanie, że dopóki wykładał na IWA Ryszard Winiarski[1], szkoła utrzymywała się na poziomie, a gdy odszedł wszystko się zmieniło. Bardziej aktywni studenci chcieli się odciąć od natrętnej historyczności i pokazać, że skoro nie można tworzyć w kontekście „poważnych uczelni artystycznych" należy uwić własne gniazdo i stworzyć kontekst lokalny. Darek Gryczon, Małgorzata Klepadło, Zbigniew Molski, Wiesław Jędruszczak i Andrzej Cieszyński poznali się na pierwszym roku studiów w Instytucie w pracowni Mieczysława Hermana. Zagarnęli pracownie w Instytucie, a wieczory i noce w akademiku na Zana wypełniały żarliwe

dyskusje o sztuce i „walka na obrazy", podczas której precyzowali swoje postawy i docierali do żywej materii sztuki.

Andrzej Cieszyńki: *Lublin okazał się dla nas świetną glebą. Wolny od akademickiego odium, nasycony konceptualizmem oraz sztuką najnowszą (BWA[2]), otwarty na świeżą krew (Galeria Biała), bliski kontakt z takimi artystami jak Mikołaj Smoczyński, Darek Lipski, ekipa Białej, inspirujące spotkania ze Zbyszkiem Woźniakiem. Świetne grono starszych studentów i absolwentów skupionych wokół pracowni Struktur Wizualnych prowadzonej przez Dobrosława Bagińskiego.*

Punktem zwrotnym okazało się reaktywowanie galerii Kont. Grupa studentów objęła opiekę nad galerią około 1984 roku.

Cieszyński: *Pokój w akademiku stawał się za ciasny na taki artystyczno-mentalny kocioł. Zauważyliśmy obok tzw. „tramwaja", czyli portierni, dość ciekawy lokalik wypełniony akademikowymi gratami. W wyniku sporu z kierowniczką akademika otrzymaliśmy we władanie ów lokal, jak się okazało niegdyś zwany Kontem. Było to dla nas niezwykle ważne wydarzenie. Uzyskaliśmy miejsce do nocnej pracy, a co ważniejsze, okazało się, że mamy własną galerię i to nie byle jaką. Kont był już wtedy legendarny. Tak więc po pewnym okresie niebytu Konta zaczęliśmy ponownie organizować tam wystawy w sposób absolutnie niesformalizowany.*

Gryczon: *Galeria Kont powstała, gdyż gdzieś trzeba było malować obrazy; szkoła nie miała na to warunków, w akademiku, gdzie mieszkało większość studentów, była jedna pracownia na pięćdziesiąt osób, w pokojach mieszkaliśmy po czterech. Patrzyliśmy wilczym okiem na Galerię Kont, która była wówczas zamkniętym składzikiem obrośniętym historią i mitologicznymi naleciałościami. Chcieliśmy przejąć to pomieszczenie na potrzeby stworzenia pracowni, prywatnego domu kultury, pragnęliśmy ożywić to martwe miejsce. Takie zapędy były wtedy obrazoburcze, bo istniała grupa ludzi ze starszych lat, którzy wygłaszali panegiryki na cześć starego Konta. Dzięki naszej natarczywości starsi studenci sprawujący pieczę nad tym pomieszczeniem wykrzesali z siebie energię i zorganizowali wystąpienie Jana Gryki oraz prezentację slajdów z Documenta 7, które Dobek Bagiński zgromadził będąc w Kassel. To był rok 1983 czy 84. Poszliśmy do nich i powiedzieliśmy: „wy organizujcie imprezy a my wam pomożemy, posprzątamy". Idea szybko się przyjęła i z „woźnych" awansowaliśmy na ludzi całkowicie odpowiedzialnych za to miejsce. To był luźny towarzyski układ: Adam Kowalewski, Marek Adamczuk, Andrzej Cieszyński i ja, nasza czwórka tworzyła trzon. Do tego dołączali się na różne okoliczności Mirek Gromada i Wiesiek Jędruszczak. Po roku dołączył Molski.*

## Lubelscy „nowi dzicy"

Ferment Neue Wilde przeniknął na grunt lubelski. Jednym z ważnych wydarzeń, które to zwiastowały była wystawa Gruppy „Tylko dziś wieczorem, kochanie", zorganizowanej przez Galerię Labirynt w 1985 roku. Młodzi adepci sztuki przyjęli to wydarzenie entuzjastycznie.

Cieszyński: *Był to czas mocnego postkonceptualizmu. Brakowało nam materii malarskiej. Ożywcza okazała się wystawa „nowych dzikich" w lubelskim BWA. Zaczęło jawić się w naszych działaniach połączenie działań konceptualnych z materialnymi, malarskimi, rzeźbiarskimi. W wielu wypadkach podziały zaczęły się zacierać. Ważną rolę zaczęła odgrywać psychika, introwersja, ekstrawersja.*

Jednocześnie ekspansywnie rozprzestrzeniający się w Polsce nurt nowej ekspresji traktowali z właściwym sobie dystansem, poddając go własnej interpretacji. W połowie lat 80. nowa ekspresja miała już dość długi rodowód w świecie, była zjawiskiem na tyle okrzepłym, że możliwości jej eksploatacji zaczęły się wyczerpywać. Pierwsi dzicy stali się już klasyczni, ich obrazy wisiały w muzeach, a także w siedzibach banków i w biurach yuppies. Prześmiewczą wariacją na temat kariery „w stylu Neue wilde" była wystawa „Moje wilde" zorganizowana przez Gryczona, Molskiego i Cieszyńskiego w Koncie w 1986 roku. Była to zarazem pierwsza wspólna prezentacja trójki artystów oparta na zasadzie spontanicznego, bezpośredniego działania w galerii.

Wystawy w Koncie były zaczątkiem wspólnych działań kilku osób, które wkrótce miały zawiązać kolektyw o tajemniczej nazwie Riders of the Lost Black Volga. Gryczon i Molski prowadzili niekończący się dialog, który był wynikiem ich artystycznego dojrzewania. Szukali werbalizacji dla formuły, która zawierałaby w sobie kombinację efemerycznego wydarzenia i rozmaitych elementów oddziałujących na zmysły. Z ich dyskusji zrodziła się idea grupy, powoływanej na specjalne okazje. Powstawała ona tylko na okoliczności, kiedy artyści potrzebowali fajerwerku, mocnego uderzenia. Grupa miała kilka prezentacji, zawsze bardziej o charakterze wydarzenia bezpośredniego niż obiektu. Nieraz towarzyszyły im wystawy malarstwa i instalacji. Jan Gryka podkreśla, że Riders nie byli stricte malarzami, ich wystąpienia przybierały formę eksplozji ekspresji we wszystkich mediach jednocześnie.

Gryczon: *Byliśmy przygnębieni i rozczarowani – praktycznie wszystkim; stąd narodziła się nazwa-idea oddająca desperację, ironię, bezradność i całe nasze kontestacyjne podejście do otaczającej nas surrealności. […] Alienacja i introwertyczne tortury, osobista zagłada w sensie przynależności gdziekolwiek (stadny charakter). Dużo egzystencjalizmu w bardzo ekspresyjnej formie.*

## Pokolenie „czarnej Wołgi"

Nazwa „Riders of the Lost Black Volga" była kompilacją dwóch historii, które fascynowały młodych artystów w okresie dorastania: opowieści o czarnej wołdze i Indiana Jones. Każda z nich oddziaływała na wyobraźnię w inny sposób. Ta chwytliwa słowna igraszka ma swoje drugie dno.

Film o przygodach niestrudzonego naukowca „Raiders of the Lost Ark" („Poszukiwacze zaginionej arki") powstał w 1981 roku i w krótkim czasie zyskał miano kultowego. Miejska legenda, rozpowszechniana w Polsce w latach 60. i 70. XX w., mówiła o kursującej po mieście czarnej limuzynie marki Wołga, którą rzekomo porywano dzieci. Wokół tej pogłoski narosło mnóstwo wątków i wersji, łącznie z teoriami spiskowymi. Tego rodzaju urban legends w specyficzny sposób oddziałują na masową świadomość. Można je określić mianem wirusa umysłu, rozprzestrzeniającego się wśród ludzi.

Zbitka słowna „Riders of the Lost Black Volga" była prześmiewcza i kontestująca. Ale artyści, poza aluzją do filmu i legendy miejskiej, próbowali wydobyć głębszy sens, który czaił się w wieloznacznej grze słów. W założeniu nazwa miała być prosta, a jednocześnie nasycona semantycznie. Nazwa oddawała intencje członków grupy, których aktywność była próbą wpuszczenia do otoczenia artystycznego wirusa, zainfekowania martwej tkanki środowiska akademickiego.

Gryczon: *Nasza grupa była emanacją totalności działań artystycznych, misterium folkloru miejskiego, ludycznym momentem indywidualnej ekspresji w kontekście szeroko rozumianej aktywności artystycznej.*

Zbigniew Molski: *Co do nazwy, to pamiętam, że właśnie ten element „miejskiej legendy" stanowił o sile tego symbolu (czarnej wołgi) i wyrażał nasze bardziej lub mniej uświadomione dążenie do zgłębiania tego, „co nienazwane" i, jak byśmy to teraz określili,*

*transcendencji.[...] Czas, w jakim to miało miejsce też jak się zdaje odcisnął na nas piętno. Byliśmy świeżo po stanie wojennym i wszystko w koło ewoluowało, zmieniały się ideologie, postawy, stosunek do monopolistycznej w kraju religii. Szokowała gra pozorów władzy (byliśmy chyba ostatnimi artystami sprawdzanymi przez oficjalną cenzurę) a „kiczowatość" oficjalnego katolicyzmu wydawała się co najmniej podejrzana. Sztuka stała się płaszczyzną, na której można było wymieniać doświadczenia ze swojej duchowej „jazdy" w bezpiecznym środowisku nieformalnej grupy.*

Gryczon: *Chodziło nam o „riders", jako uczestników „of a ride" – chyba nie ma polskiego słowa, ale chodzi o „jazdę" w sensie biernym – jak w wesołym miasteczku na karuzeli, czyli rodzaj pasażera biernie oddającego się procesowi jazdy. Często tłumaczy się to, jako „jeździec", ale to tylko jedno ze znaczeń, gdyż „jeździec" w polskim jest raczej formą aktywną. A nam chodziło o pasywność, czyli „my pokolenie, biernie uczestniczące w procederze Czarnej Wołgi" (angielski w tym wypadku jest bardziej subtelny). Oczywiście kontekst filmu dawał nam dodatkowe znaczenie o szerszym zasięgu kulturowym, mitologicznym, pop kulturowym i religijnym.*

Warto wspomnieć w tym momencie o słynnym przemówieniu Billa Hicks'a „It's just a ride". Artyści oczywiście nie mogli go znać w tamtym czasie, ale to, o czym mówił Hicks jest zbliżone do ich sposobu myślenia i wrażliwości na otaczający nonsens. Rozpoczyna się ono od słów: „The world is like a ride at an amusement park, and when you choose to go on it, you think it's real, because that's how powerful our minds are"[3] .Jazda w wesołym miasteczku jest u Hicks'a metaforą zatracenia, uwikłania w machinę władzy, która skutecznie przesłania inne punkty widzenia. Trwamy w iluzji i „pozwalamy demonom budować atrapę życia", i pozbywamy się ludzi, którzy nam to uświadamiają. Amerykański komik kończył monolog optymistycznym przesłaniem, z którego wynikało, że zawsze można zmienić optykę. Wydaje się, że artyści z kręgu Riders nie karmili się złudzeniami i w swym podejściu byli bardziej cyniczni. Trzeba pamiętać o warunkach, w jakich przyszło im tworzyć i o klimacie późnych lat 80. w Polsce.

Pojęcie „ride" w kontekście działań Riders of the Lost Black Volga jest pojemne znaczeniowo i można je interpretować rozmaicie. Członkowie grupy czuli się reprezentantami „pokolenia biernie uczestniczącego w procederze Czarnej Wołgi", a jednocześnie sam fakt bycia artystą nadawał im wyższy status i bardziej zaawansowany stopień wtajemniczenia.

Molski: *Nazwa i działalność grupy Riders of the Lost Black Volga w moim rozumieniu miała wyrażać nasze wyemancypowanie się z zaklętego kręgu niemożności, zawieszenia, co było niezbędne do przetrwania w „pół-konspiracji". W żadnym wypadku nie czuliśmy się jednak pasywnymi, porwanymi przez „machinę" pasażerami, ale świadomymi „jeźdźcami" z ironią patrzącymi na resztę naiwnych, strojących poważne miny pasażerów, a może i na samych siebie.*

## Razem – osobno

Współistnienie w gromadzie było istotnym elementem aktywności młodych twórców. Ryszard Woźniak – członek Gruppy, podsumował fenomen działań kolektywu słowami: „Nam nie mogło chodzić o sztukę, tylko o spontaniczne przekraczanie, konwulsyjne porzucanie jednostkowej odrębności i indywidualizmu na rzecz komunijnej wspólnoty uniesień". Można je z powodzeniem odnieść do wszystkich grup, jakie działały w tamtym czasie. Riders tworzyli kolektyw, ale każdy z jej członków posługiwał się swoją poetyką i wnosił do obszaru wspólnego element własnej wrażliwości. Miękkie instalacje z liści Cieszyńskiego, obiekty z luster Klepadło, ekspresyjna figuracja Gryczona, czarne obrazy Molskiego o wieloznacznej symbolice – każdy z tych indywidualnych pierwiastków stanowił o sile oddziaływania Riders.

Cieszyński: *Co nas łączyło – chciałbym to jakoś określić, najogólniej duch epoki, ale to banał. Szary papier, szukanie aż do bólu żywej materii, odarcie ze skóry, wydobycie na wierzch własnego systemu nerwowego, również odmienne stany świadomości, obecny był też chichot i zabawa, postawa wyzwoleńcza, samo-afirmacja. Zbyszek stworzył własną mitologię w oparciu o buddyjskie klimaty, Gosia własny świat metafory, Darek, mam wrażenie, przewidział hałaśliwą, wizualnie agresywno-prymitywną współczesność, mnie interesowało samopoznanie, realizowane poprzez swoisty plastyczny dziennik człowieczego podmiotu. Tą postawę charakteryzowała dowolność nieograniczonego czerpania ze wszystkich dostępnych źródeł: wschód, zachód, przyszłość, przeszłość, sztuka, socjologia, religia, przyroda.*

## Misterium miejskiego folkloru

W grudniu 1987 roku grupa wystąpiła pod hasłem „Secret Black Volga" w Galerii Białej. Nie był to przypadek, ponieważ galeria od początku była nastawiona na promowanie twórczości lubelskiej. Zależało im na stworzeniu lokalnego środowiska, z którym artyści z zewnątrz wchodziliby w dialog. Poza tym był to czas ekspansji malarstwa „dzikiego", które grupa podskórnie wyczuwała, nadając mu silnie indywidualny pierwiastek. Jan Gryka napisał w katalogu: „Wydaje się, że wyjściowa energia, jaką dysponują, jest wystarczająca, aby wejść na plan artystyczny w dobrej formie. Ich aktywność ujawnia duże napięcie emocjonalne, które ma określony kierunek i cel. Nie czekając na instytucjonalne możliwości i okazje, organizują oni żywe i dynamiczne wystawy, pokazy czy wystąpienia, nie hamując swojego potencjału. Ich malarstwo i cała aktywność polega na ciągłej weryfikacji. Poszukują więc własnych rozwiązań stylistycznych w swoim gronie i zderzają je z tym, co na zewnątrz. Czasami malują wspólnie jeden obraz (Galeria Kont, Galeria Biała) lub prowadzą malarskie dialogi (Chatka Żaka) – kształtują własne postawy poprzez zderzenia, powiązania i reakcje". Artyści uzupełniali swoje statyczne realizacje żywą akcją, która niejako legitymizowała sens ich działania. Ekspresja ciała oraz malarstwo, rzeźba czy instalacja, tworzyły komplementarną całość i nawzajem się definiowały. Poprzez reinterpretacje w obrębie sztuki i ustawiczne poszukiwania formalne, artyści próbowali dotrzeć do jej żywej tkanki. Gryka wspomina, że ich przedsięwzięcia były konwulsyjne i generowały ruch ponad miarę – powstawała ogromna ilość zjawisk i wątków, które były właściwie niemożliwe do ogarnięcia. Kładli nacisk na współuczestnictwo publiczności, wciągając ją do gry. Dawali sobie prawo do eksperymentu, poruszali się na granicy błędu, ale było to wpisane w ich szczerą i spontaniczną wypowiedź, mniej obarczoną teoretycznym podłożem, a bardziej podległą emocjom i przeczuciom.

Postawę Riders cechowała niechęć poddania się konwencji i niezgoda na rzeczywistość z jej ograniczeniami. Byli bezkompromisowi i niepokorni. Raziła ich zarówno gra pozorów władzy, jak i martyrologiczny patos. Odcinali się zarówno od tego, co wiązało się z systemem, jak i z narodowo-chrześcijańskim nurtem kultury niezależnej. Nurt kościelny reprezentował ze śmiertelną powagą sferę sacrum w sztuce, natomiast oni wyrażali dionizyjską radość profanum – te światy do siebie nie przystawały. Brak rynku sztuki i związanych z nim kategorii artystycznych oraz specyficznie pojmowana w tamtym czasie polityka kulturalna sprawiła, że działania Czarnej Wołgi sytuowały się w undergroundzie. Stworzyli sobie alternatywny mikroświat, antidotum na szarość i nudę PRL – panował w nim nieustający karnawał sztuk wszelakich. Sięgali po groteskę, absurd, ironię i prowokację, szargali świętości i oddawali się dadaistycznym zabawom.

Misterium miejskiego folkloru, o jakim mówił Gryczon, przejawiało się w wielopoziomowej grze z symbolami i mitami. Epatowanie kiczem, mieszanie wątków tworzyło specyficzną atmosferę zanurzenia w folklor miejski. Artyści łączyli rozmaite media. Ich przekaz miał być syntezą rozmaitych działań – malarskich, muzy-



[3] - „Świat przypomina jazdę w wesołym miasteczku, – kiedy się na nią decydujesz, myślisz, że jest prawdziwa, ponieważ taka jest potęga naszych umysłów." Zob.: http://pl.youtube.com/watch?v=iMUiwTubYu0

чаму немагчыма навучыць, можна гэта толькі канцэптуалізаваць. Потым Таркавян зьяўляўся на выставах у «Белай» у якасьці незвычайнага дакумэнталіста. Мы выслалі ягоныя эскізы ў галерэю «Праграма» пасьля сустрэчы з нагоды ArtCube. Пазьней у яго была выстава ў Цэнтры сучаснага мастацтва «Ўяздоўскі замак» у Варшаве. Тады галерэя «Праграма» прыгадала, што ў яе ёсьць малюнкі Таркавяна, і прапанавала яму дамову, ужо камэрцыйную. Гэтая схема ідэнтычная для кожнага выпадку. Усе асяродкі па-за Варшавай ня маюць прабіўной сілы, праход праз варшаўскія інстытуцыі зьяўляецца нібыта ініцыяцыяй у сьвет мастацтва. Так гэта, на жаль, працуе й сёньня.

**Г. Н.:** Нават такія мастакі, як Кусьміроўскі, не адразу дамагліся апляДысмэнтаў мастацкага сьвету. Калі куратары выставы «novart.pl» езьдзілі па Польшчы й зьбіралі мастакоў для агляднай прэзэнтацыі, Кусьміроўскі іх зусім не зацікавіў. На той выставе ён зьявіўся дзякуючы рашэньню генэральнай куратаркі — Ганкі Ўрублеўскай.

**Я. Г.:** Важным было й тое, што Робэрт браў удзел у студэнцкім абмене ў Рэнэ ў Францыі. У Варшаве зьявілася пагалоска, што Кусьміроўскі паехаў на мастацкую стыпэндыю ў Францыю, і амаль адразу ж зрэагавала Фундацыя галерэі «Foksal» (FGF). Кусьміроўскі, ужо пад апекай FGF, зьдзейсьніў роварную паездку на калектыўную выставу «Kulturelle Territorien 04 / Introducing Sites 02», у якой браў удзел, саму роварную вандроўку зрабіўшы мастацкім праектам, і тады зазванілі тэлефоны з усёй Польшчы, ад Беластоку па Зялёну Гуру.

**М. Р.:** Хто вашае апошняе адкрыцьцё?

**Я. Г.:** Нашае апошняе надзвычайнае здарэньне — гэта Конрад Мацяевіч, які робіць каляжы з газэтаў 1970–1980-х гадоў. У межах MFS ён меў выставу. Да гэтага часу ўжо кваліфікаваны на Трыенале маладых уАроньску й на «Бельскую восень». Зьявіліся й прапановы пэрсанальнай выставы, ужо з Варшавы. Робэрт Кусьміроўскі прапанаваў яму ўдзел у «No Budget Show 3». У 2004 годзе Мацяевіч скончыў аддзяленьне графікі на мастацкім факультэце UMCS. У той жа час пераехаў у Варшаву, дзе працаваў у якасьці кампутарнага графіка. Ён стварае змрочныя каляжы, дастаткова траўматычныя па ўспрыманьні, трывожна сюррэалістычныя і — што цікава — у часы, калі ўсе выкарыстоўваюць фоташоп, ён гуляецца з выцінанкамі са старых газэтаў. Ягоны выпадак досыць унікальны. Звычайна бывае так, што хтосьці актывізуецца падчас навучаньня, робіць выставы й паволі пачынае функцыянаваць у мастацкім працэсе. А тут цалкам наадварот.

Яшчэ адна мастачка, Паўліна Садоўска, якая тры гады таму скончыла мастацкі факультэт UMCS, сёлета была абраная на конкурс Гепэрта ва Ўроцлаве й на Трыенале маладых у Ароньску.

**М. Р.:** Ці часта бывала так, што мастакі, якія ў вас зьяўляліся, вельмі хутка выбіваліся ўжо цалкам самастойна?

**Я. Г.:** Ня ўсе. Трэба выстаўляць вельмі шмат, і звычайна пры гэтым больш сьлёз, чым посьпеху. З майго досьведу вынікае, што пераважная бальшыня здольных людзей не займаецца мастацтвам.

**М. Р.:** Ці запрашаеце вы ў галерэю маладых творцаў ня зь Любліну?

**Г. Н.:** У наступным годзе мы хочам зрабіць два такія праекты з удзелам маладых мастакоў. Запрашаем творцаў зь іншых цэнтраў, яны прыяжджаюць, бо ведаюць, што ў Любліне ёсьць цікавы асяродак маладых мастакоў.

**М. Р.:** Як маладое люблінскае мастацтва ўзаемадзейнічае ў больш шырокім абшары, зь іншымі асяродзьдзямі ў Польшчы?

**Г. Н.:** Вельмі вартаснай праграмай, калі весьці гаворку пра мастацтва маладых, была супраца зь Лявонам Тарасэвічам. Мы пастанавілі сканфрантаваць між сабой 5 студэнтаў з Мастацкай гасьцёўні Акадэміі мастацтва ў Варшаве, у якой працаваў Тарасэвіч, і 5 студэнтаў з Маладога Форуму мастацтва пры «Белай галерэі». Плёнам таго спатканьня былі цікавыя, разнастайныя выставы. Назва цыклю «Факультатыўныя перагібы ў бок магчымасьці расплюшчваньня вачэй на навакольле, сьвятло, натуру й мэдытацыю мастацтва» — гэта пацешная гісторыя. Мы хацелі пазьбегнуць банальнай назвы ў стылі «Дэбюты» або «Маладое мастацтва». Назва паўстала зь ліста дэкана мастацкага факультэту, які замаўляў Яну Грыку арганізацыю выставаў на факультэце, і была кампіляцыяй ужытых у лісьце акрэсьленьняў, якія мы палічылі вельмі «плястычнымі» ў перакaзе.

**М. Р.:** Мне здаецца надзвычайна важным і каштоўным асабіста для мастакоў, зь якімі вы працуеце, той факт, што вы нястомна дбаеце пра ўзаемадачыненьні, апякуецеся імі, паказваеце іх на калектыўных выставах па ўсёй Польшчы. Можа, таму кузьня «Белай» такая актыўная, такая стабільная. Ці можаце вы распавесьці пра апошнюю аглядную прэзэнтацыю «Белая над белай»?

**Г. Н.:** У сярэдзіне сьнежня летась мы атрымалі ад Агаты Смальцэж прапанову зрабіць у варшаўскай галерэі BWA выставу, якая мелася распачацца ў лютым. Прастора гэтай галерэі вялізная й падзеленая на два паверхі. Выстава была зробленая, мы запоўнілі ўсю прастору творамі пераважна люблінскіх мастакоў, зь якімі стала супрацоўнічаем. Мы паказалі там скульптуры Кшыштафа Салавея, выдрукі росьпісу Зэнка, насьценны росьпіс Томка Беляка, які праславіўся чорна-белымі налепкамі. Выставілі таксама працы Каміла Станьчака, Цэзарыя Клімашэўскага, Элізы Галей, Ірэны Наўрот. Фэномэнам быў Марыюш Таркавян, які выканаў на 8-мэтровай сьцяне агляд «20 гадоў польскага мастацтва». Мы надрукавалі праводнік па выставе з усімі працамі, якія там экспанаваліся. Таксама аранжавалі пад'езд і кавярню. Праз два тыдні мы паехалі ў Швэцыю на Кірмаш мастацтва, які тэматычна ўтычыўся незалежнага мастацтва й галерэяў, якімі кіруюць мастакі (таму ў ранейшых выданьнях зьяўляюцца галерэі «Ўсходняя», «Кватэра 30», «Інстытут Выспа»). З намі паехала Данута Куцяк з новым фотацыклем «Happy Birthday» і Марыюш Таркавян, які перамаляваў працы з усіх боксаў. Гэты ягоны праект праз тыдзень дэманстраваўся ў Варшаве у межах зборнай выставы малюнка, якую арганізаваў Стах Шаблоўскі ў Акадэміі мастацтва.

**М. Р.:** Як жа вымераць вынікі вашай дзейнасьці, скіраванай на падтрымку маладых люблінскіх мастакоў?

**Г. Н.:** Ужо 15 гадоў, як Люблін перасталі абмінаць у Польшчы, калі гаворка заходзіць пра маладых мастакоў. Люблінскія мастакі бяруць удзел ува ўсіх агульнапольскіх прэзэнтацыях. Ян выступае экспэртам у трох конкурсах: Гепэрта ва Ўроцлаве, Трыенале маладых у Ароньску й «Бельскай восені» ў Бельску-Белай. Мы рэалізоўвалі цыкль «Сустрэчы ў Белай» у 1988 годзе, прэзэнтацыі майстэрні Дабраслава Багіньскага ў 1980–1990-х. Ажыцьцявілі гадавы цыкль выставаў маладых мастакоў «Белы кляс», выставу «Постакадэмія» ў Кіеўскім Цэнтры мастацтва й шэраг іншых выставаў і прэзэнтацыяў у Польшчы. Гэтыя факты ўплываюць на тое, што мастацтва, якое ствараецца ў Любліне, робіцца заўважным. Важна тое, што выставы, дэманстраваныя ў люблінскіх галерэях і музэях, складаюцца ў досыць цікавую цэласьць, нейкім чынам узаемадапаўняюцца, не функцыянуюць па сеткавых прынцыпах, не базуюцца на абмене творамі мастацтва, але ствараюць уласную тоеснасьць.

**М. Р.:** «Галерэя — гэта месца, людзі, атмасфэра й чыясьці рашучасьць ці нават упартасьць», — як напісаў некалі Гжэгаж Дзямскі пра «Белую». Характэрна, што, дзе б ні месьцілася «Белая» — у будынку былога кляштару ці ў доме на Нарутовіча, — яна эмануе асаблівай энэргіяй, стварае спэцыфічную, амаль хатнюю атмасфэру.

**Я. Г.:** Каб асвоіць прастору, у якой знаходзіцца цяпер галерэя, мы ініцыявалі праект «Падворак мастацтва», які паўстаў, каб насыціць гэтае месца мастацтвам. Там зьяўляюцца новыя формы: тэксты Ядвігі Савіцкай на ружовым банэры ўздоўж гаўбцоў, графіці ў браме, якая вядзе на падворак, намаляваныя на сьценах Міхалам Стахырам чалавечкі, што скачуць, сьценны росьпіс групы «Рэчыва», банэр з гісторыяй «Белай», карусэль Яраслава Казяры, аб'екты Каміла Станьчака й інш. Мы й да рэалізацыі «Падворку мастацтва» спрабавалі рознымі спосабамі ствараць разнастайныя праекты ў гарадзкой прасторы. Мы ўвесь час шукаем нагоды, што паслужыць нагодай прыйсьці ў галерэю надоўга.

**Ганна Наўрот** *скончыла Інстытут мастацкага выхаваньня UMCS у Любліне. У 1983 годзе абараніла дыплём мастацтва ў Майстэрні прафэсара М. Стэльмасіка. З 1985 году вядзе «Белую галерэю» ў Любліне.*

**Ян Грыка** *нарадзіўся ў 1959 годзе. Скончыў Інстытут мастацкага выхаваньня UMCS у Любліне. З 1983 году працуе на родным факультэце мастацтва, ведучы заняткі па мастацтве й малюнку. З 1985 году супольна з Ганнай Наўрот фармуе праграму «Белай галерэі» ў Любліне.*

Kiedy ustanawialiśmy założenia Galerii Białej, podkreślaliśmy, że będziemy pokazywać sztukę młodych i do dziś nic się nie zmieniło. Myślę czasem, że nieporozumieniem jest to, że funkcjonujemy już 26 lat i do tej pory nie pojawili się młodzi, którzy wywieźliby nas na taczkach.

# Przeginania w kierunku możliwości



## O młodej lubelskiej sztuce z Anną Nawrot i Janem Gryką, kuratorami Galerii Białej, rozmawia Marta Ryczkowska

Od 1985 roku niezależna, autorska Galeria Biała, prowadzona przez Annę Nawrot i Jana Grykę, stanowi wylęgarnię młodej lubelskiej sztuki. Tu prezentowani są debiutanci, studenci Wydziału Artystycznego UMCS (WA UMCS), którzy często wracają do Białej po pierwszych sukcesach, dzięki czemu można śledzić rozwój ich artystycznej drogi.

Artyści Anna Nawrot i Jan Gryka przez wiele lat sumiennie pracowali, aby stworzyć w Lublinie środowisko artystyczne, roztaczali opiekę nad młodymi twórcami, zapewniając im atmosferę i warunki do tworzenia. Istotne w tym kontekście są kolejne projekty galerii nastawione na promocję młodej sztuki. Młode Forum Sztuki (MFS), powołane w 1996 roku to inicjatywa Galerii Białej, której celem było stworzenie warunków rozwoju młodych artystów. Galeria zorganizowała warsztaty, które umożliwiały studentom zdobywanie wiedzy na poziomie teoretycznym, krytycznym i plastycznym i były rodzajem impulsu

**Ян Грыка,** «Часьцінкі, шкарлупінкі, арнамэнты», Бельская галерэя BWA, Бельска-Бяла, 2011
**Jan Gryka**, „Drobiny, skorupy, ornamenty", Bielska Galeria BWA, Bielsko-Biała, 2011

do dalszych, bardziej samodzielnych działań. Młodzi twórcy zaczęli sukcesywnie pokazywać swoje realizacje, – nie tylko w przestrzeniach Galerii Białej – wychodząc poza tradycyjnie rozumiane pracownie. Eksperymenty z medium i przestrzenią uzupełniały lukę w programie dydaktycznym lubelskiej uczelni i jednocześnie stanowiły dla studentów krok w stronę świata sztuki. W ramach Młodego Forum Sztuki zainicjowano: festiwal „Intermedialne Wypadki Artystyczne", „Pozaginania rysunkowe", „Pozawydziałowe przeginania w kierunku możliwości otwarcia oczu na otoczenie, światło, naturę i medytacje sztuki" (1999) – był to wspólny projekt MFS i Gościnnej Pracowni Malarstwa Leona Tarasewicza. Doświadczenia wyniesione z MFS spowodowały, że wielu artystów biorących w nim udział rozpoczęło samodzielne poszukiwania w obszarze sztuk wizualnych i zaistniało na scenie ogólnopolskiej. Artyści związani z MFS m.in.: Magda Bicz, Eliza Galey, Viola Głowacka, Paulina Kara, Katarzyna Kozyra, Katarzyna Lis, Elena Mazurkiewicz, Robert Kuśmirowski, Michał Stachyra, Kamil Stańczak, Mariusz Tarkawian kontynuowali swoje działania poza lokalnym środowiskiem. Niektórzy z nich do dziś z powodzeniem funkcjonują na polskiej scenie artystycznej. W 2007 roku Galeria Biała zorganizowała wystawę i sesję na temat niekonwencjonalnych metod kształcenia artystycznego „Transgresja wyobraźni". Wzięli w niej udział wykładowcy z różnych ośrodków uniwersyteckich w całej Polsce. Niezwykle zróżnicowana wystawa była podsumowaniem 10. lat Młodego Forum Sztuki. Artyści wywodzący się z MFS i z Galerii Białej brali udział m.in. w „Sympozjach Młodych" w Orońsku (Dariusz Fodczuk, Andrzej Ćwikła, Leszek Hetman, Dariusz Kociński), w „Supermarkecie Sztuki" (Katarzyna Kozyra, Katarzyna Lis, Robert Kuśmirowski, Eliza Galey, Paulina Kara), w „novart.pl" (Robert Kuśmirowski, Eliza Galey, Alicja Łukasiak, Dariusz Kociński), w „Malarstwie Polskim XXI wieku" (Michał Stachyra, Kamil Stańczak).

**Marta Ryczkowska:** Galeria Biała od początków istnienia kładła nacisk na rozwój młodej sztuki, promowała ją na licznych przeglądach i prezentacjach. Jak wyglądały początki waszej działalności i jak ją oceniacie z dzisiejszej perspektywy?

**Anna Nawrot:** Kiedy galeria powstawała w 1985 roku, działała prężnie lubelska Galeria BWA , kierowana przez Andrzeja Mroczka. Sformułowałam w tamtym czasie założenia galerii, zaznaczając, że ma to być miejsce dla młodych artystów, bo my sami byliśmy młodzi. Z czasem my stawaliśmy się coraz starsi, a artyści coraz młodsi. Młoda energia i poszukiwanie tożsamości lubelskich artystów były podstawą istnienia galerii. Do dziś udaje nam się utrzymać łączność z młodymi artystami przez MFS, które oficjalnie zaczęło działać w 1996 roku. Myślę czasem, że nieporozumieniem jest to, że funkcjonujemy już 26 lat i do tej pory nie pojawili się młodzi, którzy wywieźliby nas na taczkach.

**Jan Gryka:** Według nas obecnie w Lublinie mogłoby powstać kilka nowych galerii – niezależnych, wymyślonych przez kogoś zupełnie od podstaw, w tym jedna powinna być młoda, niezależna i komercyjna (takie galerie powstają jedna po drugiej w Warszawie). Mamy teraz taką sytuację, że naszych artystów, takich jak Kuśmirowski, Tarkawian, „obsługują" galerie warszawskie. Mimo, że zasady tworzenia galerii i mechanizmy promocji artystów są czytelnie, nowe galerie nie powstają. Pojawia się pytanie dlaczego? Trzeba szukać sposobu, trzeba być aktywnym, a w Lublinie ten proces jest dość mozolny.

**M.R.:** Galeria Biała w ostatnich dekadach radziła sobie wyśmienicie, bez względu na politykę kulturalną. Artyści, z którymi współpracujecie, są rozpoznawani i kojarzeni z Białą.

**A.N.:** Posiadamy ofertę wystawienniczą, opierającą się na twórcach, stanowiących reprezentację artystyczną galerii. Możemy udostępnić ją w każdej chwili (ostatnie przykłady: wystawa w galerii „Dzyga" we Lwowie w 2010 r., czy w tym roku w Bielskiej Galerii BWA).

Założeniem galerii było budowanie środowiska, również poprzez debiuty artystyczne, które byłyby alternatywą wobec przyjeżdżających do Lublina artystów z Polski i zagranicy. Warto przypomnieć, że w 1988 roku, odbywała się u nas jedna wystawa w tygodniu, czyli ponad 20 wystaw młodych z Lublina w ciągu roku. Dziś ani my, ani oni już nie są młodzi, ale to poszukiwanie młodych-zdolnych towarzyszy nam stale. Ewidentny sukces tych młodych ujawnia się wtedy, kiedy wracają do Białej z własnym dorobkiem zapisanym w sztuce europejskiej.

Z okazji 10-lecia Młodego Forum Sztuki zorganizowaliśmy jubileuszową wystawę i sesję pod tytułem „Transgresja wyobraźni". Niestety, wielu z artystów wzmiankowanych w katalogu, mimo, że mieli niegdyś bardzo ciekawe propozycje, zniknęło z obiegu. Fakt, że pojawili się w Białej nie jest jeszcze gwarancją sukcesu.

**J.G.:** Tu ujawnia się problem Lublina, który nie stworzył żadnego systemu sprzyjającego temu, aby młodzi artyści chcieli się tu rozwijać. Nadzieje wygenerował artystyczny squat Roberta Kuśmirowskiego. „Towot Squat" był swego rodzaju atelier i galerią młodych twórców, która mieściła się w części Warsztatów Kultury, i było to miejsce o dużym potencjale. W pewnym momencie pracowało tam 20 osób. Brakuje w mieście także programów stypendialnych i rezydencyjnych.

**M.R.:** MFS miało duże znaczenie dla artystów, stawiających pierwsze kroki poza uczelnią artystyczną. Jak ten program ewoluował?

**J.G.:** Punktem wyjścia było powołanie czegoś w rodzaju forum sztuki poza schematem akademicko-uniwersyteckim. MFS to eksperyment, który zmierza do tego, żeby w procesie konstruowania i realizowania własnych projektów studenci mogli określić czy sprecyzować własny język wizualny. Powstało wiele niezwykłych realizacji, a także przeglądów w galerii i w przestrzeni miasta. Obecnie, z racji miejsca, w którym mieści się MFS, pojawia się więcej prezentacji indywidualnych.

**A.N.:** Ważne jest, aby próbować różnicować profil galerii. Idea pokazywania młodych artystów wynika z takiej właśnie intencji. Kiedy ustanawialiśmy założenia Galerii Białej, podkreślaliśmy, że będziemy pokazywać sztukę młodych i do dziś nic się nie zmieniło. Galerie, które powstają, muszą mieć wyraźnie wyartykułować inne strategie penetracji obszaru artystycznego, bo tylko wtedy, poprzez uwypuklanie różnic, możliwa będzie konfrontacja oraz starcie się różnych wartości i postaw artystycznych.

**M.R.:** Jak się zaczęła współpraca z jednym z najważniejszych artystów ze stajni Białej – Robertem Kuśmirowskim?

**A.N.:** Robert zrobił w ramach MFS projekt wagonu i poczekalni. Zależało mu, aby wypożyczyć autentyczne obiekty z Muzeum Kolejnictwa Wąskotorowego w Karczmiskach. Wystawa wzbudziła ogromne emocje, widzowie myśleli, że to prawdziwy wagon, zastanawiali się, jak tu wjechał. To było bardzo atrakcyjne i szokujące.

**J.G.:** Pamiętam jak poznałem Roberta przed jego egzaminami na studia. Pokazał mi rysunki, które warsztatowo były dość marne. Zdał na zaoczne studia, nie mając niemal żadnego przygotowania, ale już po roku przeniósł się na studia dzienne. Na drugim roku, zrobił na wydziale wspólny projekt wraz z Elizą Galey w ramach Intermedialnych Wypadków Artystycznych (festiwal dla studentów, organizowany przez Jana Grykę). Kiedy przyniósł swoje rysunki na przegląd, nie wiedziałem co z nim zrobić. Rysunki były na bardzo wysokim poziomie w sensie akademickim. Szukaliśmy alternatywy, w którą stronę można by to skierować. Stanęło na tym, że zrobi legitymację studencką powiększoną 100 razy. Na szczęście tego nie zrobił, a na zaliczenie przyniósł dokumenty – idealne kopie. Rysunki zostały pokazane na wystawie „Pozaginania rysunkowe". Robert bardzo szybko się rozwijał, po serii mikrokopii, już na czwartym roku studiów pojawił się pomysł skopiowania wagonu w skali 1:1.

**M.R.:** Czy zdarzyła się taka sytuacja przy prezentacji artysty, w której od razu czuliście, że tkwi w nim ogromny potencjał?

**A.N.:** Nie jesteśmy całkowicie pewni tego, co się wydarzy. Ale Jan ma ogromną intuicję jeśli chodzi o wybór artystów.

**J.G.:** Wiadomo, że więcej jest chybień niż trafień. Świetnie, że mamy takich artystów jak Kuśmirowski i Tarkawian. Tarkawian pojawił się przy wystawie „Nova Biała" jako wolontariusz, był wówczas studentem pierwszego roku Wydziału Artystycznego UMCS.

**A.N.:** Wszystko psuł. W końcu zaczął rysować i to w taki sposób, że jego rysunki, jako „Rysunki podejrzane" z komentarzami weszły do wystawy i do katalogu.

**J.G.:** Jako rysownik jest swego rodzaju fenomenem. Kiedyś w podobny sposób rysował Leon Tarasewicz. Mariusz Tarkawian to bardzo zdyscyplinowany artysta, który nie jest w stanie wytrzymać chwili bez rysowania. W rysunkach Tarkawiana jest coś pierwotnego,

czego nie można się nauczyć, można to tylko konceptualizować. Potem Tarkawian pojawiał się przy okazji wystaw w Białej, jako niezwykły dokumentalista. Wysłaliśmy nawet jego szkice do Galerii Program po spotkaniu z okazji ArtCube. Później miał wystawę w Centrum Sztuki Współczesnej „Zamek Ujazdowski" w Warszawie. Wtedy Galeria Program przypomniała sobie, że ma rysunki Tarkawiana i zaproponowała mu umowę, już komercyjną. Ten schemat jest identyczny w każdym przypadku. Wszystkie ośrodki poza Warszawą nie mają siły przekonywania, przejście przez instytucje warszawskie jest inicjacją do świata sztuki, tak to niestety działa, do tej pory.

**A.N.:** Nawet tacy artyści jak Kuśmirowski nie od początku spotkali się z aplauzem świata sztuki. Kiedy kuratorzy wystawy „novart.pl" jeździli po Polsce i zbierali artystów do prezentacji przeglądowej, Kuśmirowski wcale ich nie zainteresował. Pojawił się na tej wystawie dzięki decyzji generalnej kuratorki – Hanki Wróblewskiej.

**J.G.:** Ważnym było też to, że Robert uczestniczył w wymianie studenckiej w Rennes we Francji. W Warszawie pojawiła się fama, że Kuśmirowski pojechał na stypendium artystyczne do Francji i niemal natychmiast zareagowała Fundacja Galerii Foksal (FGF). Kuśmirowski, już pod opieką FGF, odbył rowerową podróż na wystawę zbiorową „Kulturelle Territorien 04 / Introducing Sites 02", w której brał udział, samą podróż rowerową czyniąc projektem artystycznym i rozdzwoniły się telefony z całej Polski, od Białegostoku po Zieloną Górę.

**M.R.:** Kto jest waszym ostatnim odkryciem?

**J.G.:** Nasz ostatni niezwykły przypadek to Konrad Maciejewicz, który tworzy kolaże z gazet z lat 70. i 80. W ramach MFS miał wystawę wiosną. Do tej pory zakwalifikował się na Triennale Młodych w Orońsku i na Bielską Jesień. Pojawiły się następne propozycje wystaw indywidualnych, już z Warszawy. Robert Kuśmirowski zaproponował mu udział w „No Budget Show 3". Maciejewicz skończył grafikę w 2004 roku na Wydziale Artystycznym UMCS. W międzyczasie przeniósł się do Warszawy, gdzie pracował jako grafik komputerowy. Tworzy mroczne kolaże dość traumatyczne w wymowie, niepokojąco surrealistyczne i – co ciekawe – w czasach kiedy wszyscy używają Photoshopa on bawi się w wycinaki ze starych gazet. Jego przypadek jest dość unikalny. Zwykle jest tak, że ktoś się uaktywnia na studiach, robi wystawy i powoli zaczyna funkcjonować w obiegu sztuki. A tutaj jest kompletnie odwrotnie.

Kolejna artystka, Paulina Sadowska, absolwentka WA UMCS sprzed trzech lat, w tym roku została zakwalifikowana do konkursu Gepperta we Wrocławiu i do Triennale Młodych w Orońsku.

**M.R.:** Często było tak, że artyści którzy się u was pojawiali bardzo szybko wybijali się już zupełnie niezależnie?

**J.G.:** Nie wszyscy. Trzeba pokazać bardzo wielu i więcej jest przy tym płaczu niż sukcesów. Z moich doświadczeń wynika, że zdecydowana większość zdolnych ludzi nie zajmuje się sztuką.

**M.R.:** Czy zapraszacie do galerii również młodych artystów spoza Lublina?

**A.N.:** W przyszłym roku chcemy zrobić dwa projekty zewnętrzne z udziałem młodych artystów. Zapraszamy artystów z innych ośrodków, którzy przyjeżdżają dlatego, że wiedzą, iż w Białej jest ciekawe środowisko młodych artystów.

**M.R.:** Jak młoda lubelska sztuka wchodzi w interakcje na szerszym polu, z innymi ośrodkami w Polsce?

**A.N.:** Bardzo wartościowym programem, jeśli chodzi o sztukę młodych, była współpraca z Leonem Tarasewiczem. Postanowiliśmy skonfrontować 5 studentów z Gościnnej Pracowni Malarstwa ASP w Warszawie, w której pracował Tarasewicz oraz 5 studentów z Młodego Forum Sztuki przy Galerii Białej. Owocem tego spotkania były ciekawe, różnorodne wystawy. Tytuł cyklu: „Pozawydziałowe przeginania w kierunku możliwości otwarcia oczu na otoczenie, światło, naturę i medytacje sztuki" to zabawna historia. Chcieliśmy uniknąć banalnej nazwy w stylu „Debiuty" czy „Młoda sztuka". Tytuł powstał w oparciu o list dziekana WA UMCS, który zakazywał Janowi Gryce organizowania wystaw w wydziale. Był kompilacją użytych w nim sformułowań, które uznaliśmy za bardzo „plastyczne" w przekazie.

**M.R.:** To, co wydaje mi się bardzo ciekawym i cennym, zwłaszcza dla artystów, którzy z wami współpracują to fakt, że nieustannie pielęgnujecie wzajemne relacje, roztaczacie nad nimi opiekę, pokazujecie ich na wystawach zbiorowych w całej Polsce. Może dlatego kuźnia Białej jest tak aktywna i tak stabilna. Czy możecie opowiedzieć o ostatniej przeglądowej prezentacji „Biała nad Białą"?

**A.N.:** W połowie stycznia tego roku dostaliśmy od Agaty Smalcerz propozycję zrobienia wystawy w bielskiej galerii BWA, która miała rozpocząć się w lutym. Przestrzeń tej galerii jest olbrzymia i podzielona na dwa piętra. Wystawa doszła do skutku, zapełniliśmy całą przestrzeń sztuką artystów głównie z Lublina, z którymi stale współpracujemy. Pokazaliśmy tam rzeźby Krzysztofa Sołowieja, wydruki malowideł Zenka, który jest dla nas absolutnym hitem, mural Tomka Bielaka, który zasłynął z czarno-białych wlepek. Pojawiły się także realizacje Kamila Stańczaka, Cezarego Klimaszewskiego, Elizy Galey, Ireny Nawrot. Fenomenem był Mariusz Tarkawian, który wykonał na 8-metrowej ścianie rysunkowy przegląd 20. lat polskiej sztuki. Wydrukowaliśmy przewodnik po wystawie z wszystkimi pracami, które się tam znalazły. Zaaranżowaliśmy również klatkę schodową i kawiarnię. Dwa tygodnie później pojechaliśmy do Szwecji na Targi Sztuki, które w założeniu miały dotyczyć sztuki niezależnej i galerii prowadzonych przez artystów (dlatego we wcześniejszych edycjach pojawiła się „Wschodnia", „Lokal 30", „Instytut Wyspa"). Pojechała z nami Danuta Kuciak z nowym cyklem fotograficznym „Happy Birthday" oraz Mariusz Tarkawian, który przerysował prace ze wszystkich boksów. Ta jego wystawa tydzień później pokazywana była w Warszawie w ramach rysunkowej wystawy zbiorowej, organizowanej przez Stacha Szabłowskiego w Akademii Sztuk Pięknych.

**M.R.:** Jakie są wymierne skutki waszej działalności promującej młodych lubelskich artystów?

**A.N.:** od 15 lat Lublin przestał być pomijany w Polsce w kontekście młodych artystów. Lubelscy artyści biorą udział we wszystkich prezentacjach ogólnopolskich. Jan w tym roku był ekspertem w trzech konkursach: Gepperta we Wrocławiu, Triennale Młodych w Orońsku i Bielskiej Jesieni w Bielsku Białej. Realizowaliśmy cykle: „Spotkania w Białej" w 1988 roku, prezentacje pracowni Dobrosława Bagińskiego w latach 80. i w 90. Zrealizowaliśmy roczny cykl wystaw młodych – „Biała klasa", wystawę „Postacademia" w Centrum Sztuki w Kijowie i szereg innych wystaw i prezentacji w Polsce. Te fakty wpływają na to, że sztuka tworzona w Lublinie jest widoczna. Ważne jest to, aby wystawy pokazywane w lubelskich galeriach i muzeach tworzyły komplementarną całość, w jakiś sposób się uzupełniały, nie funkcjonowały na zasadzie sieciowej, nie bazowały na wymianie dzieł sztuki, ale kreowały własną tożsamość.

**M.R.:** „Galeria to miejsce, ludzie, atmosfera i czyjaś determinacja, czyjś upór" jak napisał kiedyś Grzegorz Dziamski o Białej. Cechą charakterystyczną jest to, że gdziekolwiek mieści się Biała – czy w budynku byłego klasztoru, czy w budynku na Narutowicza – emanuje szczególną energią, wytwarza specyficzną, niemal domową atmosferę.

**J.G.:** Aby oswoić przestrzeń, w której znajduje się obecnie galeria, zainicjowaliśmy projekt „Podwórko sztuki", które powstało, aby to miejsce nasycić artystycznie. Pojawiają się w nim różne formy: teksty Jadwigi Sawickiej na różowym banerze wzdłuż balkonów, graffiti w bramie prowadzącej na podwórko, skaczące postaci namalowane na murze przez Michała Stachyrę, mural grupy Twożywo, baner z historią Białej, karuzela Jarosława Koziary, obiekty Kamila Stańczaka i inne. Zanim rozpoczęliśmy realizację „Podwórka sztuki", próbowaliśmy już wcześniej w różnorodny sposób kreować zewnętrzne projekty w przestrzeni miasta. Szukamy ciągle czegoś, co może być powodem, aby przyjść do galerii na dłużej.

**Anna Nawrot** – *absolwentka Instytutu Wychowania Artystycznego UMCS w Lublinie. Dyplom z malarstwa w Pracowni prof. M. Stelmasika obroniła w 1983 roku. Od 1985 roku prowadzi Galerię Białą w Lublinie.*

**Jan Gryka** – *urodził się w 1959 roku. Absolwent Instytutu Wychowania Artystycznego UMCS w Lublinie. Od 1983 roku pracuje na macierzystym Wydziale Artystycznym, prowadząc zajęcia z malarstwa i rysunku. Od 1985 roku wspólnie z Anną Nawrot współtworzy program Galerii Białej w Lublinie.*







# Eliza Galey



GG PAGE



1. **Эліза Гейлі,** з цыклю «Пачуцьці», 2008, Бельская галерэя BWA, Бельска-Бяла, 2011
3. **Эліза Гейлі,**«. . .Прабабка, бабка, мама і я», фрагмент выставы, «Белая галерэя», Люблін, 2004
2. і 4. **Эліза Гейлі,** без назвы,«Белая галерэя». Люблін, 2009

1. **Eliza Galey** z cyklu Zmysły 2008, Bielska Galeria BWA, Bielsko-Biała, 2011
2. **Eliza Galey** ...prababcia, babcia, mama i ja... fragment wystawy, Galeria Biała, Lublin, 2004
3-4. **Eliza Galey** bez tytułu ,Galeria Biała. Lublin, 2009











1. **Якуб Ценжкі**, «Батарэя», 2004
2. **Якуб Ценжкі**, «Лініі», 2009
3-5. **Якуб Ценжкі**, «Драбінкі», 2006

1. **Jakub Ciężki**, „Kaloryfer", 2004
2. **Jakub Ciężki**, „Linie", 2009
3-5. **Jakub Ciężki**, „Drabinka", 2006

# Jakub Ciężki





# Мара пра новае мастацтва

## Пра галерэю «Конт», Люблінскае Таварыства заахвочваньня мастацтва й Сэмінары Культуры са Зьбігневам Сабчуком размаўляе Марта Рычкоўска



**Дарыюш Фодчук**, «Прыватная міталёгія», Галерэя «Конт». Фота: З. Собчук
**Dariusz Fodczuk,** „Prywatna Mitologia”, Galeria Kont. Fot. Z. Sobczuk

**Марта Рычкоўска: Твая анімацыйная й куратарская дзейнасьць распачалася з галерэі «Конт».**

**Зьбігнеў Сабчук:** Я пачынаў у «Конце» мастаком і ўсе веды ў сфэры прэзэнтацыі мастацтва здабываў падчас практычнай дзейнасьці. Мы з Агнешкай Корсак у 1992 годзе пастанавілі адрадзіць страчанае для мастацтва месца — «Конт». У 1991 годзе «Конт» завяршыў пэўны пэрыяд сваёй дзейнасьці выставай «Разьвітаньне з галерэяй «Конт», падрыхтаванай Вальдэмарам Татарчуком і Дарыюшам Фадчуком. Яны працягнулі дзейнасьць, якую пасьля ваеннага становішча распачаў і вёў Дарыюш Грычон, і гэтыя гады пэўным чынам адбіліся на іміджы «Конту», я назіраў гэта як глядач з 1989 году. Пасьля перадачы «Конту» мы не працягнулі традыцыі нашых папярэднікаў, г. зн. не былі майстэрняй, а зноў сталі галерэяй, якая была ў пэўным сэнсе адкрытай і ня мела нейкіх праграмных прынцыпаў. Мы захавалі стыхійны падыход да складаньня праграмы, не ствараючы стылістычных межаў. Мы ведалі, што ў тыя дынамічныя, зьменлівыя часы вельмі важна мець надзейны арганізацыйны тыл. Калі ў 1980-я функцыянаваньне «Конту» як месца-майстэрні было магчымым, то ў 1990-х усё грунтоўна зьмянілася, трэба было неяк вызначыцца, мець нейкую базу, адгэтуль і ўзялася ідэя зьмясьціць галерэю «Конт» у адміністрацыйную структуру Акадэмічнага Цэнтру Культуры UMCS. «Конт» стаў адкрытай галерэяй-майстэрняй, пачаў рэалізаваць ня толькі экспазыцыйную, але і фэстывальную праграму, выдаваў невялікія публікацыі. З 1993 году я мусіў сам спраўляцца з кіраваньнем галерэяй, адзіным чалавекам, зь якім я непасрэдна супрацоўнічаў, быў Войцех Бабровіч, напрыклад, пры «Люблінскіх прэзэнтацыях відэамастацтва» й «Відэаконце» — гэта былі адны зь першых падобных імпрэзаў у Польшчы.

«Конт» быў своеасаблівай лябараторыяй для маладых мастакоў, можна было прыдумляць і адразу ж выпрабоўваць прыдуманае, вучыцца, сталець, вырастаць да выкананьня функцыяў і роляў, магчымасьць памыляцца a priori была ўпісаная ў нашую дзейнасьць. Я працаваў і зь людзьмі больш дасьведчанымі за мяне, і з тымі, хто рабіў першыя крокі. Рэалізаваную праграму я ствараў супольна зь люблінскімі калегамі, між іншых, зь Яраславам Казярам, Дарыюшам Каралём, Мацеем Сэнчавам, супрацоўнічаў і зь людзьмі зь іншых гарадоў Польшчы, напрыклад, з Лукашам Гузкам, Гжэгажам Баркоўскім, Славамірам Сабчаком; і зь людзьмі, якія стваралі месцы, спрыяльныя для мастацтва, што зьліліся ў рух «Жывая галерэя»; і з галерэямі — «Усходняй», «Энтрапіяй», «Над Віслай», GI і некаторымі іншымі.

**М. Р.:** Якія ты меў прыярытэты пры стварэньні праграмы галерэі «Конт»? Што тады для цябе было найважнейшым?

**З. С.:** Мяркую, што пэрыяд маёй працы ў «Конце» можна падзяліць на дзьве часткі. Пераломным момантам быў Міжнародны фэстываль пэрформансу й новых мэдыяў «Art Kontakt» (2000). Мне здаецца, што да «Art Kontakt'у» я быў інакш настроены, думаў у маштабе 1:1, заўжды хацеў працаваць непасрэдна з мастаком. Такі спосаб працы магчымы ў майстэрні-лябараторыі, але гэтыя стасункі зьмяняюцца на вялікіх фэстывалях, такіх як «Art Kontakt», або на імпрэзах кшталту «Kontperformance» і «Videokont», якія зь цягам часу выраслі да рангу фэстывалю. У той час я ўжо ня меў магчымасьці так інтэнсіўна працаваць з мастакамі, але заўжды браў удзел у стварэньні праекту ад пачатку да канца. З 2007 году я пачаў рэалізоўваць большыя імпрэзы, аднак ужо трохі інакш глядзеў на падбор мастакоў ці склад праграмы. Пасьля 2000 году мой спосаб працы зьмяніўся настолькі, што я стаў пераважна куратарам, пачаў адыходзіць ад этасу мастацкай творчасьці на карысьць дзейнасьці куратарскай і арганізацыйнай. Важным чыньнікам у гэтым працэсе стала адмова ад уласнага мастацтва, я вырашыў зрабіць выбар, хаця гэта было й нялёгка. Фактычна я адключыў сабе адзін з рухавікоў. Аднак з пэрспэктывы часу мяркую, што добра зрабіў, сутворчасьць мне папросту бліжэйшая.

**М. Р.:** Важным элемэнтам той праграмы былі фэстывалі новых мэдыяў.

**З. С.:** З гэтага пункту гледжаньня нам удалося ўвесьці Люблін у кола гарадоў, якія пачалі дасьледаваньне новых мэдыяў. Тады не хапала інфармацыі пра новыя зьявы ў сьвеце. І ніхто ў Любліне не ўздымаў гэтага важнага пытаньня — ні BWA, ні «Белая галерэя», хаця, натуральна, г. зв. «новыя мэдыі» там спарадычна зьяўляліся. Згаданыя асяродкі прыглядаліся да гэтых зьяваў, але не прыкладалі намаганьняў для распаўсюду й прэзэнтацыі новых мэдыяў, якія тады былі ў асноўным прадстаўленыя мастацтвам відэа.

Мы ўжо тады былі перакананыя, што гэта справы вельмі важныя, таму «Videokont» быў прысьвечаны толькі й выключна новым зьявам. Вядома, якую ролю адыгрываюць цяпер тэхналёгіі й новыя мэдыі ў стварэньні выставаў, і ўжо тады мы думалі пра сучаснасьць, гледзячы ў будучыню. Было ня так важна, хто якія інструмэнты ўжывае. Такім чынам, мы прадчувалі некаторыя зьявы, якія распаўсюдзіліся толькі пасьля 2000 году. Тады я марыў — і нічога не зьмянілася з таго часу — пра стварэньне цэнтру, які займаўся б мастацтвам, зьвязаным з новымі тэхналёгіямі й кібэркультурай. Такі шанец быў прынамсі два разы: першы — на пачатку 1990-х, калі ў Любліне зьявілася нізавая патрэба стварэньня гэткага мастацтва, маніфэставаная галоўным чынам у «Конце» й «Піўніцы» (для параўнаньня, WRO стартавала на 2 гады раней), другі раз — на пачатку XXI ст., з дапамогай «Art Kontakt'у», які таксама даў надзею на гэта. Але ні ў першым, ні ў другім выпадку не ўдалося выкарыстаць гэтыя шанцы з прычыны незацікаўленасьці адпаведных установаў і гораду.

**М. Р.:** Як функцыянаваў фэстываль «Kontperformance»?

**З. С.:** «Kontperformance» паўстаў, як большыня «контавых» ініцыятываў, з патрэбы сустрэчы мастакоў у адным месцы й у вызначаны час. Першы фэст быў прысьвечаны ў значнай ступені люблінскаму асяродку і сустрэты зь вялікім энтузіязмам. Чарговыя фэсты, пашыраныя й разгорнутыя, прывялі да стварэньня «фэстывалю», хаця гэта хутчэй назва, чым рэчаіснасьць. «Kontperformance» да канца быў выключным нішавым спатканьнем пэрформэраў, без прэтэнзіяў і ўзурпацыі. Колькі разоў ён праводзіўся ў рамках студэнцкай імпрэзы «Казеналіі». Зьмяшчэньне «Kontperformance» у рамкі культурна-забаўляльнай падзеі мела сваю мэту й сэнс, аж да пэўнага часу, калі я заўважыў, што сьцежкі студэнцкай культуры й мастацтва, створанага студэнтамі, разыходзяцца. Цяпер і падумаць немагчыма, каб такога кшталту нішавая дзейнасьць знайшла месца ў прасторы, здамінаванай спажывецкай культурай.

**М. Р.:** Адной з самых цікавых імпрэзаў, адначасова найбольш прывязаных да мясцовага канстэксту, была арганізаваная табой і Магдай Лінкоўскай у 2008 годзе сэрыя выставаў і тэарэтычная сэсія «Адпаведна Адкрытай Форме Оскара Хансэна».

**З. С.:** «Адпаведна Адкрытай Форме» (WFO) я рэалізаваў пасьля 17 гадоў працы ў галерэі «Конт», у супрацоўніцтве зь Люблінскім Таварыствам заахвочваньня мастацтва, Цэнтрам Культуры ў Любліне, Музэем на Майданку й некалькімі іншымі інстытуцыямі. Можна запытацца, чаму толькі ў 2008 годзе я падаў ідэю, над якою думаў адпачатку? Відавочна, столькі часу мне спатрэбілася, каб знайсьці адпаведную формулу для аповеду пра тое, чым прасякнуты «Конт» — Хансэнаўскай Ідэяй Адкрытай Формы (FO). Некалькі тонаў столі, што віселі над маёй галавой, зрабілі сваё, ад гэтага не ўцячэш. Арганізоўваючы сэсіі ў межах сымпозіюму, я не ўсьцярогся ад пытаньняў, нават абвінавачаньняў, адносна запрашэньня да ўдзелу ў WFO вучняў Хансэна. Я запрасіў толькі Свэйна Хатлоя й Гжэгажа Кавальскага, бо яны стварылі месцы адукацыі, зьвязанай з Адкрытай Формай, а гэта для мяне было вельмі важным. Я таксама хацеў падкрэсьліць унёсак Любліну ў спадчыну Хансэна й дасьледаваць, якім чынам ідэя FO працавала й далей працуе ў мастацтве, асабліва яе ўспрымаюць маладыя мастакі, тым больш, што мноства працаў, прысьвечаных Хансэну, датычыцца ягонага ўплыву на архітэктуру й урбаністыку. Вялізнае значэньне для мяне мелі размовы з Магдай, якая дапамагла мне канцэптуалізаваць гэтае пытаньне. Мне здаецца, што «Адпаведна Адкрытай Форме» было ўнікальнай падзеяй, уласна кажучы, першай пасьля сьмерці Хансэна спробай акрэсьліць ягоныя ідэі з мастацкай пэрспэктывы, у рамках тэорыі мастацтва й архітэктуры. У 2010 годзе была выдадзеная кніжка «Адпаведна Адкрытай Форме Оскара Хансэна. Ідэя — утопія — рэінтэрпрэтацыя», зборнік постканфэрэнцыйных тэкстаў, дапоўненых матэрыяламі й спасылкамі, пад рэдакцыяй Марціна Лахоўскага, Магды Лінкоўскай і маёй.

**М. Р.:** Як пачалося тваё супрацоўніцтва зь Люблінскім Таварыствам заахвочваньня мастацтва?

**З. С.:** Гэта ўсё ішло дастаткова натуральна — можа, апішу гэта на прыкладзе: рэалізуючы выставу «Пульс фатаграфіі» ў «Сэмінарах Культуры», я працаваў у галерэі «Конт», а ў Люблінскім Таварыстве заахвочваньня мастацтва (Захэнце) быў скарбнікам. Частку імпрэзаў «Сэмінараў Культуры» я рэалізаваў, працуючы ў галерэі «Конт», напрыклад, адукацыйныя цыклі ў 2002 годзе. Я працаваў у некалькіх месцах, зь цікавасьці да сьвету й патрэбы дзеяньня па-над прыватнымі інтарэсамі, хаця б у люблінскай Захэнце, дзе гаворка ідзе не пра выкананьне функцыяў, а пра ўнёсак у рэалізаваныя праекты, які кожны з нас можа зрабіць. Люблінская Захэнта моцна разьвілася з часоў яе стварэньня ў 2005 годзе, цяпер яна працуе як таварыства, заснаванае на супрацоўніцтве, у якім зьмешваюцца аўтаномныя галасы. Чальцы ўправы і рэвізійнай камісіі — гэта людзі, зьвязаныя з мастацтвам, тэарэтыкі й практыкі, тыя, хто падтрымлівае Таварыства, фармальна ня будучы ў ягоных структурах. Зьяўляюцца й маладыя людзі, якія дапамагаюць іншым чынам, але і яны маюць уплыў на дзейнасьць гэтай арганізацыі, падаюць свае ідэі. Такім чынам, паўстаў тыгель ідэй і магчымасьцяў, які я вельмі цаню. Вырашальнае слова мае ўправа Таварыства. Як яе старшыня, я стараюся назіраць за працай, але я не дагматык. Што характэрна для Захэнты, супольна мы робім нашмат больш, чым кожны з нас мог бы зрабіць паасобку, усё адно, тычыцца гэта праграмных ці фінансавых пытаньняў — нібы труізм, але такі цудоўны. Пэўныя рэчы робяцца насуперак здароваму розуму й насуперак абмежаваньням Захэнты як NGO, але яны ўдаюцца. Сам факт таго, што не ўстанова валодае калекцыяй, стварае досыць складаную сытуацыю й генэруе шэраг праблемаў. Нягледзячы на гэта, Захэнта ўдала разьвіваецца ўжо год у галерэі «Ліпавая, 13», працягвае працу, распачатую ў 2008 годзе ў галерэі «Рыбная, 4», якую, на жаль, з прычыны недахопу фінансаў мы былі вымушаныя зачыніць.

**М. Р.:** Зьявілася ідэя выбіраць з калекцыі элемэнты й супастаўляць з тым, што цяпер адбываецца ў мастацтве.

**З. С.:** Плянаў наконт калекцыі было вельмі шмат. Калекцыя цалкам ці ў такіх «супастаўленьнях» ніколі не дэманстравалася ў Любліне. Затое была ва Львове на выставе «Сіла мастацтва» — ува львоўскім Палацы мастацтва ў 2010 годзе. Самая шырокая прэзэнтацыя калекцыі адбылася ў межах арганізаванай мною ў Сэмінарах Культуры выставы «Лімэс мастацтва». Тут, аднак, я зрабіў націск на праблему, а не на шляхі разьвіцьця калекцыі й ейны цяперашні выгляд. Думаю, што цяпер самым важным было б паказаць нашую калекцыю, запрасіўшы староньняга куратара. Часамі для поўнага эфэкту «праветрываньне» збораў трэба спалучаць з «праветрываньнем» месца, тут я маю на ўвазе нашае Таварыства, але тое самае павінна адбывацца ў музеях і іншых падобных месцах.

**М. Р.**: Распавядзі пра супрацоўніцтва з Сэмінарамі Культуры.

**З. С.:** Маім першым унёскам у стварэньне й разьвіцьцё Сэмінараў Культуры была арганізацыя агульнапольскага конкурсу на візуальную ідэнтыфікацыю Сэмінараў, адразу пасьля зьяўленьня гэтай арганізацыі ў 2009 годзе. Чарговым этапам у той самы год была арганізацыя ABCDESIGN, якую я стварыў разам з Монікай Пацэвіч. Гэта былі сэмінары й даклады, прысьвечаныя дызайну ў кантэксьце Сэмінараў Культуры, якія імкнуцца да стварэньня падмуркаў для новай, спрыяльнай культурнай установы, калі зыходзіць з таго, што дызайн можа быць інструмэнтам для вырашэньня праблемаў. Тады я запрасіў, між іншых, Свэйна Хатлоя, Уладыслава Плюту, Міхала Паўліка, Паўла Мікаша й Міхала Краціка, якія вялі чатыры сэмінарскія групы. Іхнаю задачай было дасьледаваць розныя сфэры функцыянаваньня ўстановы й выпрацаваць мэтады, якія дапамаглі б стварыць месца адкрытае, прыязнае да культуры й людзей. Варта падкрэсьліць, што ABCDESIGN — гэта праект Люблінскага Таварыства заахвочваньня мастацтва, прысьвечаны Сэмінарам Культуры. Менавіта так я разумеў тады й разумею цяпер супрацоўніцтва на карысьць ідэі.

Пасьля ABCDESIGN у Сэмінарах Культуры адбылася выстава «Пульс фатаграфіі», куратарам якой быў Пётар Маеўскі, а я сыграў новую ролю — аранжыроўшчыка выставы. Што цікава, плянуючы прастораваую сыстэму гэтай выставы, я ўпершыню меў зносіны з зусім іншым маштабам, чым у месцах, дзе працаваў раней, напрыклад, у «Конце» ці ў Люблінскай захэнце. Гэта быў вялікі выклік для мяне. Паўліна Зарэмбска тады арганізавала вельмі цікавую адукацыйную праграму для дзяцей і моладзі. Хіба ўпершыню я выразна зразумеў, наколькі важная адукацыя наймалодшых і як цікава яе можна арганізаваць. Досьвед і ідэі з гэтай сфэры я выкарыстаў пазьней, напрыклад, пры адаптацыі ў Сэмінарах культуры інтэрактыўнай дзіцячай пляцоўкі з WRO ва Ўроцлаве, якую за 5 тыдняў наведалі каля 8 тыс. дзяцей з усёй Любліншчыны.

Праца ў Сэмінарах Культуры — гэта для мяне вялізны досьледны палігон, дзе, каб зрабіць штосьці, трэба ўкласьці ў дзесяць разоў больш энэргіі, часу й грошай, чым, скажам, у «нармальнай» галерэі. Гэта спараджае розныя ідэі й праекты, такія як выстава «Лімэс мастацтва», «Humanbomber» Робэрта Кусьміроўскага ці апошняя выстава «Мікалай Смачыньскі. Рэтраспэктыўна — у бок прасторы», якую я раблю разам з праверанай камандай: куратарам зьяўляецца Марцін Лахоўскі, другім аранжыроўшчыкам Міхал Фронк, адукацыйную праграму падрыхтавала Паўліна Зарэмбска, а ў арганізацыі нас падтрымліваюць неацэнныя Аня Гладыш і Марта Супранюк.

**М. Р.:** Давай вернемся да Львову й да супрацоўніцтва з Усходам, якое зьяўляецца адным з падмуркаў праграмы Сэмінараў Культуры.

**З.С.:** Мая нядоўгая, усяго двухгадовая, дзейнасьць «на ўсходзе» засяроджаная на супрацоўніцтве зь Львовам і цяпер яшчэ з Луцкам. Так, асобы, зь якімі я супрацоўнічаю пры рэалізацыі ўсходніх праектаў, маюць кантакты таксама на Каўказе, у Беларусі й у Малдове, але пакуль гэта ня вылілася ў мастацкія падзеі. Я доўга высьпяваў да абраньня гэтага кірунку, пакуль не зьявілася неадвязная патрэба падзяліцца сваімі думкамі. Я паехаў у Львоў у славутым караване «L квадрат». Я там быў упершыню й адразу адчуў сябе як дома. А як прыяжджаеш дадому — то хочаш чымсьці падзяліцца, аддаць штосьці сваё. Так у размовах з Улодкам Каўфманам, Рафалам Казіньскім і Марысяй Артэмюк паўстаў праект паказу люблінскай калекцыі сучаснага мастацтва ў Львоўскім Палацы мастацтва. Дасюль не магу зразумець, чаму ўсе так горача нас ад гэтага адгаворвалі. Праект удалося рэалізаваць. Пасьля мноства цяжкасьцяў улетку 2010 году мы адкрылі выставу пад назвай «Сіла мастацтва». Аказалася, што 3,5 тыс. квадратных мэтраў палацу былі акурат адпаведнай паверхняй для паказу люблінскай калекцыі. Істотным элемэнтам выставы, апрача прэзэнтацыйнага, былі пераходы, створаныя паміж паасобнымі часткамі выставы, тэматычнымі блёкамі ці чарговымі паверхамі будынку. У цэлым дасьледавалася праблема мяжы, але зразуметай шматзначна — тут вялікі ўнёсак зрабіў Марцін Лахоўскі, які займаўся формай выставы. Выстава «Сіла мастацтва» мела служыць абмену думкамі, правакаваць да рэфлексіі. Ейным працягам была навуковая сэсія, прысьвечаная стварэньню калекцыі сучаснага мастацтва ў Польшчы і ва Ўкраіне. У сэсіі бралі ўдзел стваральнікі іншых рэгіянальных калекцыяў сучаснага мастацтва, сфармаваных у межах праграмы «Знакі часу», а таксама ўкраінскія тэарэтыкі, якія займаюцца праблематыкай калекцыяналаньня сучаснага мастацтва. Канфэрэнцыя была арганізаваная празь некалькі дзён у рамках львоўскага Тыдню актуальнага мастацтва, яе суправаджала прэзэнтацыя польскіх рэгіянальных калекцыяў і выстава-зрэз сучаснага ўкраінскага мастацтва. Паралельна з імпрэзамі ва Львове паўстала выстава ў Сэмінарах Культуры пад назваю «Ўкраінскі зрэз», куратарам якой быў Улодка Каўфман, а арганізатарамі Рафал Казіньскі й Марыся Артэмюк. Гэтая экспазыцыя дапоўніла й падкрэсьліла ўвесь праект. Выстава «Сіла мастацтва» была першай агляднай і панарамнай прэзэнтацыяй польскага сучаснага мастацтва ва Ўкраіне, а «Ўкраінскі зрэз» — першай праблемнай выставай украінскага сучаснага мастацтва ў Польшчы, у якой Улодка Каўфман зрабіў спробу апісаньня тоеснасьці ўкраінскага мастацтва, узбагачанага гістарычнымі й актуальнымі ўплывамі.

**Зьбігнеў Сабчук** — *куратар мастацтва, каардынатар, дызайнэр, мастак і пэдагог.*

# Люблінская мапа галерэяў сучаснага мастацтва

Марцін Лахоўскі

*Гісторыя люблінскіх галерэяў сучаснага мастацтва пачалася ў сярэдзіне 1950-х. Найстарэйшая зь іх — Бюро мастацкіх выставаў (BWA) — была створаная ў 1956 годзе й у наступныя дзесяцігодзьдзі зьдзейсьніла шматлікія мастацкія праекты. Апрача BWA, асабліва важнае месца займаюць «Белая галерэя», галерэя «Конт», а таксама самая маладая зь іх, зьвязаная зь Люблінскім Таварыствам заахвочваньня мастацтва галерэя «Ліпова, 13».*

*BWA пасьлядоўна прэзэнтавала мастацтва, якое ўзыходзіла да спадчыны вядомых мастакоў з кола ньюавангарду. «Белая галерэя» й «Конт» сваю дзейнасьць грунтавалі — асабліва ў першыя гады — на прэзэнтацыі наймаладзейшага, дэбютанцкага пакаленьня люблінскіх мастакоў. У сваю чаргу, галерэя «Ліпова, 13» старалася спалучаць спадчыну авангардных пошукаў з актуальнымі праблемамі мастацтва новых мэдыяў і крытычным аналізам публічнай прасторы. Гэтыя галерэі надзвычай адэкватна рэагавалі на выклікі й стваралі мастацкую прастору для новых плыняў і кірункаў сучаснага мастацтва. Іхная адрознасьць дазволіла замацаваць — у маштабе Любліну — найважнейшыя мастацкія тэндэнцыі апошніх дзесяцігодзьдзяў. Дзякуючы разьвітым міжнародным кантактам галерэі ўпісаліся і ў кантэкст мастацкай сытуацыі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы.*

## Бюро мастацкіх выставаў (цяпер галерэя «Лябірынт»)

Гэта найстарэйшая ўстанова, зьвязаная з сучасным мастацтвам. Створаная ў 1956 годзе першапачаткова як аддзел Цэнтральнага Бюро мастацкіх выставаў Варшавы, ад пачатку сваёй дзейнасьці імкнулася спалучаць выставы, зьвязаныя з мастацкай традыцыяй, з адважнымі пошукамі, якія прасоўвалі як польскае авангарднае мастацтва (Grupa Zamek), гэтак і эўрапейскае. Бюро адыграла важную ролю, інтэгруючы агульнапольскія авангардныя мастацкія асяродзьдзі (напрыклад, праз арганізацыю I Сымпозіюму мастакоў і навукоўцаў у Пулавах у 1966 годзе). Аднак асаблівай дынамікі люблінскае Бюро мастацкіх выставаў дасягнула на пачатку 1980-х, калі ягоным дырэктарам стаў Анджэй Мрочак.

Дзейнасьць Бюро мастацкіх выставаў у Любліне ў 1980-х набыла новы характар, акрэсьлены спэцыфічнай грамадзка-палітычнай сытуацыяй пачатку дзесяцігодзьдзя. Легалізацыя прафсаюзу «Салідарнасьць» і стварэньне ў межах BWA аднаго зь першых прафсаюзных колаў у Любліне спрыялі аўтанамізацыі галерэі ад цэнтральных структураў. У траўні 1981 году на пасаду дырэктара BWA прызначылі гісторыка мастацтва Анджэя Мрочка — пры падтрымцы незалежных творчых колаў, у тым ліку суполкі прафсаюзу «Салідарнасьць» у BWA і Саюзу мастакоў. Мрочак быў актыўнай фігурай у люблінскім мастацкім жыцьці 1970-х. Да таго ён вёў галерэю «Лябірынт» і выконваў функцыі куратара ў BWA. Прымаючы пасаду дырэктара BWA, ён абраў два прыярытэты: з аднаго боку, рэалізацыя дзейнасьці, зьвязанай са статутам BWA (распаўсюд сучаснага мастацтва), зь іншага — ажыцьцяўленьне пасьлядоўнай аўтарскай праграмы, сфармуляванай яшчэ ў галерэі «Лябірынт», якая закрылася пасьля сыходу Мрочка.

Першай аўтарскай выставай Мрочка ў BWA была прэзэнтацыя творчасьці Ежы Бэрэса (1981), на якой мастак выканаў пэрформанс «Дыялёг з Марсэлем Дзюшампам». Да мастакоў, асабліва зьвязаных з галерэяй BWA ў 1980-х, належалі Дабраслаў Багіньскі, Януш Балдыга, Ян Бэрдышак, Ежы Бэрэсь, Зьдзіслаў Квяткоўскі, дуэт «Квекулік», Анджэй Лаховіч, Наталя LL, Анджэй Партум, Юзэф Рабакоўскі, Мікалай Смачыньскі, Ян Сьвідзінскі, Зьбігнеў Варпэхоўскі.

Аднак спэцыфіку дзейнасьці BWA вызначылі групавыя выставы, якія ўпісваліся ў канцэптуальную традыцыю 1970-х. Першая такая выстава прэзэнтавала дакумэнтацыю пленэру ў Асеках (1982). Двухдзённае мерапрыемства, апрача візуальнага шэрагу, уключала цыкль выступаў і рэфэратаў, якія раскрывалі характар кашалінскай імпрэзы і — шырэй — зьмены ў сучасным мастацтве. Наступныя супольныя прэзэнтацыі, у тым ліку «Запісы I» (1983), «Інтэлектуальная плынь у польскім мастацтве пасьля Другой сусьветнай вайны» (1984–1985), «Запісы II» (1986), «Зь мінуўшчыны да бясконцасьці» (1987), «Пэрформансы сёньня» (1990), належалі да сучасных авангардных практык.

BWA было адным зь нешматлікіх месцаў, на якія падчас ваеннага становішча не распаўсюджваўся мастацкі байкот, у адрозьненьне ад шматлікіх афіцыйных установаў. Гэта спрыяла разьвіцьцю галерэі, якая сталася магнітам для авангарднай творчасьці ў тагачаснай Польшчы. Шматлікія выставы й сустрэчы фармавалі цэласную й пасьлядоўную праграму BWA, адбіткам якой былі, з аднаго боку, далейшае разьвіцьцё, а зь іншага — перафармуляваньне канцэптуальнага мастацтва з дапамогай самастойнай, вызначанай, аналітычнай мовы. Мультымэдыйныя акцыі й пэрформанс з гэтай сфэры ў 1980-х ставілі акцэнт на духоўны й індывідуальны пачатак у мастацтве.

Больш выразным зрабіўся чыньнік індывідуальнай экспрэсіі, а галерэя, як і назвы чарговых паказаў, рабілася сфэрай «засяроджанасьці» (Ян Бэрдышак — «Сканцэнтраваныя сфэры», 1981, Наталя LL — «Станы засяроджанасьці»). Выставы галерэі аб'ядноўваў пошук — у мове сучаснага мастацтва, у новых мэдыях — айчынных элемэнтаў, сфармаваных пазыцыяй, заснаванай на рамантычнай традыцыі. Новыя мастацкія тэхнікі дапамагалі пазначыць уласную пазыцыю, акрэсьленую экзыстэнцыяльнымі сэнсамі. Гэтая рамантычная пазыцыя, да якой дадаваліся пошукі ў сфэры новых мэдыяў, таксама фармавала тоеснасьць галерэі BWA, гуртуючы вакол яе творцаў рознага паходжаньня, якія дэбютавалі ў 1970-х.

У 1990-х, пасьля зьмены грамадзкага ладу, галерэя стала асяродкам супраціву шырокай плыні масавай культуры, якая нарадзілася ў новай рэчаіснасьці свабоднага рынку.

Галерэя, якую вёў Андрэй Мрочак, па-майстэрску карыстаючыся шырокай палітрай мастацкіх пазыцыяў, прэзэнтавала мастацтва новых пакаленьняў, прадказваючы радыкальныя мастацкія зьмены, патэнцыял якіх выявілі наступныя дзесяцігодзьдзі.

Своеасаблівым падсумаваньнем дзейнасьці BWA і адначасова далейшым разьвіцьцём ідэі вялікіх, сынтэтычных прэзэнтацыяў была выстава «Аўтаномны канцэптуальны рух у Польшчы» (2002, куратар — Зьбігнеў Варпэхоўскі), якая пацьвердзіла, што менавіта гэты кірунак быў крыніцай інспірацыі ды інтэрпрэтацыі ў праграме BWA. Анджэй Мрочак ва ўступе да каталёгу пісаў пра выбар, які ён зрабіў шмат гадоў таму, у першай палове 1970-х, калі зьявіліся «першыя выставы польскага, і ня толькі польскага, канцэптуальнага мастацтва». Гэтая выстава — ужо ў новай рэчаіснасьці — была своеасаблівым вяртаньнем да крыніцаў. На ёй былі экспанаваныя піянэрскія для канцэптуальнага руху Польшчы праекты Зьбігнева Длубака, Марка Канечнага, Анджэя Лаховіча, Наталі LL, Анджэя Партума, Юзэфа Рабакоўскага, Яна Сьвідзіньскага, Зьбігнева Варпэхоўскага, Кшыштафа Зарэмбскага. «Гэта, між іншым, дзякуючы ім, — пісаў Мрочак, — была рэалізаваная й працягнутая праграма [BWA]».

Зь 2010 году BWA вядзе Вальдэмар Татарчук, які, разьвіваючы спадчыну Анджэя Мрочка, рэалізуе праграму, якая абапіраецца галоўным чынам на прэзэнтацыі эўрапейскага й далёкаўсходняга мастацтва. У сваю праграму Татарчук увёў новыя, адрозныя акцэнты, зьмясьціўшы галерэю ня столькі ў сфэры аўтаномных мастацкіх каштоўнасьцяў, колькі ў кантэксьце пераўтварэньняў сучаснай культуры, аспрэчваньня розных зьяваў і пазыцыяў. У 2010 годзе была зьмененая й назва ўстановы, адбылося сымбалічнае вяртаньне да галерэі, якую Мрочак вёў у 1970-х, — «Лябірынт».

## Галерэя «Конт»

Галерэя «Конт» была створаная ў 1978 годзе ў будынку на ўскрайку мікрараёну імя Юліюша Славацкага ў Любліне, запраектаванага Оскарам і Зофʼяй Хансэнамі. Пра выключнасьць гэтага месца сьведчыць унікальная, вельмі своеасаблівая архітэктура. Унівэрсытэцкі кантэкст, а таксама стыхійнае, нон-профітнае функцыянаваньне — рысы, якія вызначылі праграму галерэі.

Гэтае месца сталася «выстаўным фонам» імпрэзаў мастацкіх і адукацыйных, грамадзкіх, групавых і індывідуальных, пэрформэрскіх і жывапісных, мультымэдыйных і лічбавых. «Конт» быў праграмна адкрыты, ня меў ніякіх стылістычных межаў. Тут прэзэнтавалі перадусім працы маладых мастакоў і студэнтаў, творчасьць якіх выходзіла за рамкі акадэміі. У кола зацікаўленьняў «контаўцаў» уваходзіла непасрэднае мастацтва, пазбаўленае ідэалізацыі й эстэтызацыі, часта непрывабнае візуальна. Галерэя імкнулася дасьледаваць новае прызначэньне мастацтва, асабліва гэта тычылася мастацкіх акцыяў, заснаваных на новых тэхналёгіях, і грамадзкіх праектаў.

«Конт» паўстаў з ініцыятывы студэнтаў Інстытуту мастацкага выхаваньня Ўнівэрсытэту імя Марыі Складоўскай-Кюры (цяпер мастацкі факультэт UMCS) у Любліне. Ініцыятарамі былі Пшэмыслаў Карвоўскі, Станіслаў Коба, Януш Скаўрон і Малгажата Шчур. У 1978–1980 гадах галерэю ўтрымлівала група актыўных студэнтаў, сярод якіх, апрача згаданых, былі Марэк Андала, Славамір Гаюсь, Эўгеніюш Юзэфоўскі, Зьдзіслаў Квяткоўскі, Уладыслаў Жукоўскі. У 1980 годзе ўзьнікла група «Анэкс», якая складалася з жывапісцаў і графікаў, яна й вяла «Конт» да самага ягонага закрыцьця ў 1981 годзе, падчас увядзеньня ў Польшчы ваеннага становішча.

У 1983 або 1984 годзе памяшканьне пераняла новая група студэнтаў — дзеля майстэрні. Групу складалі Марэк Адамчук, Анджэй Цешыньскі, Дарыюш Грычон і Адам Кавалеўскі, час ад часу далучаліся Міраслаў Грамада й Веслаў Ендрушчак. «Конт» у тую пару выразна зьмяніў свой статус з галерэі на адкрытую майстэрню, у якой падпрацоўвалі, між іншых, Малгажата Кляпадла, Дарыюш Ліпскі, Зьбігнеў Мольскі й Кшыштаф Салавей. У 1986 годзе паўсталі адзін з самых важных праектаў «Конту» — «Маё Wilde», а таксама легендарная група «Riders of the lost black Volga». У той час у групе мастакоў «Конту» зьявіліся Дарыюш Фадчук і Вальдэмар Татарчук, якія разам з Марыяй Фідар, Дарыюшам Грычонам і Кшыштафам Салаўём стварылі групу «Pierś od Słonięta» («АдСЛОНкі грудзей»), пазьней «PoS». Фадчук і Татарчук «упырснулі новую энэргію й працягнулі ранейшыя тэндэнцыі ці, хутчэй, іхную адсутнасьць», — згадваў Дарыюш Грычон. У чэрвені 1991 году Фадчук і Татарчук арганізавалі выставу пад назвою «Разьвітаньне з галерэяй «Конт», якая фармальна завершыла чарговы пэрыяд у гісторыі галерэі.

У студзені 1992 году «Конт» аднавіў дзейнасьць пад кіраўніцтвам Агнешкі Корсак і Зьбігнева Собчука, якія зьмянілі стыль працы галерэі, спалучаючы адкрытасьць і стыхійны праграмны падыход з забесьпячэньнем арганізацыйнага тылу, неабходнага для функцыянаваньня галерэі ў дынамічнай, зьменлівай

**Галерэя «Лябірынт» / «Labirynt»**
20-112 Lublin, ul. Grodzka 5A
***www.labirynt.com***
*e-mail:* galeria(at)labirynt.com
*Дырэктар:* Вальдэмар Татарчук / Waldemar Tatarczuk

**«Белая галерэя» / «Galeria Biała»**
**Centrum Kultury w Lublinie,**
20-016 Lublin, ul. Narutowicza 32
***www.free.art.pl/biala/biala.htm***
*e-mail:* bial(at)ck.lublin.pl
*Кіраўнікі:* Ганна Наўрот, Ян Грыка / Anna Nawrot, Jan Gryka

рэчаіснасьці 1990-х. Новае кіраўніцтва, зь якім спарадычна супрацоўнічалі, між іншымі, Войцех Бабровіч, Дарыюш Кароль, Яраслаў Казяра, Мацей Сэнчава, узбагаціла праграму новымі кірункамі й мастацкімі тэндэнцыямі, дадаліся ў тым ліку відэамастацтва, крытычнае мастацтва, аўдыёарт. Галерэя распачала прапаганду мастацтва новых мэдыяў, арганізуючы першае спатканьне «Videokont». У красавіку 1993 году ў супрацоўніцтве з клюбам «Піўніца» быў арганізаваны першы фэстываль відэамастацтва ў Любліне «Люблінскія прэзэнтацыі відэамастацтва». Абедзьве падзеі былі аднымі зь першых падобных у Польшчы.

На пераломе 1992–1993 гадоў галерэя «Конт» фармальна стала часткай арганізацыйнай структуры Акадэмічнага Цэнтру культуры Ўнівэрсытэту імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне, аднак фізычна засталася ў будынку інтэрнату UMCS на вуліцы Зана, 11.

З 1993 году галерэю «Конт» вядзе Зьбігнеў Собчук. Выставы дэманстравалі экспэрымэнты з новымі тэхналёгіямі, важнай рэччу заставаўся й пэрформанс. У 1990-х адбыліся шматлікія фэстывалі, якія дэманстравалі творчасьць і маладых, і прызнаных ужо мастакоў («Кантакты», 1993, «Люблінскія прэзэнтацыі відэамастацтва», 1994–95, фэстываль пэрформансу «Kont-performance», 1996–99). У 2000 годзе галерэя «Конт» у супрацы з Асяродкам пэрформансу Цэнтру культуры ў Любліне арганізавала Эўрапейскі фэстываль пэрформансу й новых мэдыяў «Artkontakt». У той самы год галерэя завязала супрацоўніцтва й зь Міжнародным таварыствам мастакоў «fabs», пачаўшы выстаўляць і творцаў, зьвязаных з гэтай суполкай. З 2001 году галерэя распачала адукацыйную дзейнасьць, зьвязаную з прэзэнтацыяй і камэнтаваньнем найноўшых зьяваў у мастацтве. Першым цыклем у межах гэтай праграмы быў «MEDIA ART KONTAKT прэзэнтуе», рэалізаваны ў 2002–2003 гадах. У «Конт» для выставаў і дакладаў запрашалі аўтарытэтных куратараў, крытыкаў, дырэктараў фэстываляў і мастакоў. Апрача таго, галерэя дакумэнтавала найважнейшыя польскія й эўрапейскія мастацкія мерапрыемствы.

У наступныя гады галерэя падтрымлівала арганізацыю мастацкіх фэстываляў, завязваючы стасункі з творчымі коламі Познані, Торуні, Кракаву, Гданьску, Лодзі, Уроцлаву. Спалучаючы камэрную прастору з паказамі эфэмэрнага мастацтва, галерэя пераступала межы мастацкіх сродкаў, зьвяртаючы ўвагу на зьменлівыя грамадзкія праблемы, такім чынам зьвяртаючыся да Хансэнаўскай ідэі «Адкрытай формы». У 2010 годзе Зьбігнеў Собчук спыніў супрацу з галерэяй, завяршаючы гэты творчы й гераічны этап ейнай дзейнасьці.

## «Белая галерэя»

«Белая галерэя» існуе з 1985 году ў межах Цэнтру культуры ў Любліне. Яе нязьменна вядуць Ганна Наўрот і Ян Грыка. Адпачатку ейная праграма стваралася ў апазыцыі да канцэптуальнай, аналітычнай традыцыі, сфармаванай у Бюро мастацкіх выставаў. Сутнасьць дзейнасьці «Белай галерэі» вызначыла зацікаўленасьць прастораю, мастацтвам інсталяцыі, постмінімалістычнай адкрытасьцю на прадмет і экспрэсію. Прынцыповай задачай галерэі была спроба вылучэньня, а потым інтэграцыі люблінскага творчага асяродку, студэнтаў і выпускнікоў тадышняга Інстытуту мастацкага выхаваньня Ўнівэрсытэту імя Марыі Кюры-Складоўскай. Гэтая праграма прадугледжвала стварэньне альтэрнатыўнай, постунівэрсытэцкай прасторы для кантактаў і сумесных пошукаў. У «Белай» дэбютавалі, між іншых, Міраслаў Машлянка, Войцех Гілевіч, Робэрт Кусьміроўскі, Эліза Гейлі, Марыюш Таркавян, Міхал Стахыра, Богна Бурска. Апрача таго, наступныя выставы дэманстравалі творчасьць мастакоў, прызнаных у Польшчы й сьвеце. Да мастакоў, якія супрацоўнічалі з галерэяй, належалі Мікалай Смачыньскі, Гжэгаж Кляман, Ян Грыка, Марэк Кіеўскі, Міраслаў Філонік, Лявон Тарасэвіч, Кшыштаф Салавей, Дарота Падляска, Робэрт Мацеюк, а таксама Хорст Сагунскі, Франк Фітцэк, Сігрун Якубашке, Хэнк Віш. З 1996 году галерэя ладзіць «Малады форум мастацтва» — цыклічную прэзэнтацыю творчасьці студэнтаў і выпускнікоў Мастацкага факультэту UMCS.

Аднак істотную ролю выконвалі вялікія калектыўныя выставы, якія ладзіліся й па-за галоўнай сядзібай галерэі, займаючы стaрадаўні павізытоўскі кляштар, у якім месьціцца люблінскі Цэнтар культуры («Вежа баб», 1985, «Белае танга», 1988, «Белая гвардыя», 1992, «Біланс-балянс», 1993, «Увага! жывапіс», 2003, «Нова Бела», «Трансгрэсія ўяўленьня», «Генэральны рамонт» і «Альтэрнатыўная калекцыя», 2005–2009). Чарговыя прэзэнтацыі, якія тактоўна ўмешваліся ў характар наяўнай прасторы, стваралі татальны мастацкі прадмет, увязваючы складаную сыстэму памяшканьняў, калідораў, заляў, але таксама й гледачоў, якія адкрывалі новыя дачыненьні паміж прадметам і прасторай. Адной з галоўных тэмаў для рэфлексіі было мастацтва інсталяцыі, падсумаванае ў 1996–1998 гадах праектам «Новыя прасторы мастацтва», які суправаджаўся двухтомным апісаньнем падзеяў у культуры за 20 гадоў. Гэты від творчасьці азначае дзеяньне ў актуальнай прасторы праз рэальнае ўмяшаньне ў ейны парадак. Гэта была супрацьлегласьць мадэрністычнай галерэі тыпу white cube.

Наступныя выставы, што адбываліся ў «Белай», прапанавалі новыя падыходы да мастацкага прадмету, скончанага, замкнёнага, аднaзначна акрэсьленага. У новым падыходзе ён няспынна сустракаецца з прасторай, ствараючы дыялёг, пастаянны працэс пераўтварэньня. Спэцыфіка галерэі — гэта адметнае, прысутнае ў многіх працах сутыкненьне мінуўшчыны, застылай у выстаўленым прадмеце, мінуўшчыны, выяўленай у паднішчанасьці, крохкасьці, са своеасаблівай актуалізацыяй у кантэксьце іншых элемэнтаў і атачэньня. Гэтая праграма спалучала надзвычай манумэнтальныя, прасторавыя, жывапісныя працы Лявона Тарасэвіча з эфэмэрнымі, сатканымі з натуральных элемэнтаў кампазыцыямі Міраслава Машлянкі, здыманыя слаі тынку ў «Трансфэры» Мікалая Смачыньскага й надзвычай крохкія, далікатныя творы Яна Грыкі, выкананыя з мукі.

Мэтафорыку белі ў «Белай галерэі» можна інтэрпрэтаваць паводле ўзору постмадэрнізму, як своеасаблівую гульню з традыцыяй мадэрністычнага музэю-галерэі — ізаляванай ад рэчаіснасьці прасторы, у якой белыя сьцены служаць нэўтральным фонам да карціннай нарацыі, што ілюструе фармальны экспэрымэнт. Прэзэнтацыі ў «Белай» рознымі спосабамі актывізавалі суровую, простую прастору галерэі, уводзячы гледача ў сфэру, пазначаную часам, — да павольнага, паступовага прачытаньня сканструяванага наноў месца, у якім зьяўляўся будзённы прадмет.

Цяперашняя дзейнасьць галерэі скіраваная да «асвойваньня» месца — новай сядзібы на вул. Нарутовіча. Іхны дворык («Падворак мастацтва») паступова запаўняецца працамі мастакоў розных пакаленьняў (сярод іх творы Ядвігі Савіцкай, групы «Рэчыва», Яна Грыкі, Міхала Стахыры, Томаша Беляка, Каміла Станьчака, Ілоны Ошуст і іншых), рэалізаваных in situ. Яны ператвараюць колішнюю прастору ў новы «зачараваны сад» мастацтва. Такім чынам, «Белая галерэя» працягвае праграму, якая ўзыходзіць да авангарду — зьмяненьне рэчаіснасьці праз мастацкую інтэрвэнцыю.

## Галерэя «Ліпова, 13»

Галерэя «Ліпова, 13» была створаная як выстаўная прастора Люблінскага таварыства заахвочваньня мастацтва (Zachęty, LTZSP) у 2010 годзе. Цяперашняй дзейнасьці галерэі папярэднічала стварэньне калекцыі LTZSP, якая мела папулярызаваць сучаснае мастацтва. Дзейнасьць люблінскай Захэнты распачалася ў 2005 годзе ў межах праграмы Міністэрства культуры «Знакі часу» й набыла шматвымерны характар, які рэалізаваўся ў часовых выставах, навуковых сэсіях, канфэрэнцыях, дакладах, урэшце, у падрыхтоўцы публікацыяў пра сучаснае мастацтва. Праграмны стрыжань, аднак, вызначыўся праз характар калекцыі, якая прэзэнтавала, з аднаго боку, авангардную традыцыю люблінскіх мастацкіх колаў (першымі былі купленыя працы Уладзімежа Бароўскага й Мікалая Смачыньскага), а зь іншага — актуальнае мастацтва, узоры якога знаходзіліся й у сфэры зацікаўленасьці іншых люблінскіх галерэяў.

Аўтары праграмы збору калекцыі пісалі: «Першыя закупкі вызначылі дзьве ключавыя пэрспэктывы, паводле якіх зьбіраліся творы: адна — МАТЭРЫЯ (Ў) ПРАСТОРЫ — ахоплівае мадэрністычную рэфлексію над аўтаноміяй мастацкага вобразу, яго статусам, матэрыяй, прысутнасьцю ў прасторы; другая — МАСТАЦТВА ІДЭІ — ІДЭЯ МАСТАЦТВА — згадвае мастацтва авангарду й зьвязаную зь ім ідэю мастацтва «ангажаванага» перадусім у паэтыку канцэптуалізму. Гэта дазваляе разьвіваць КАЛЕКЦЫЮ ў розных кірунках. У межах рэалізацыі праекту мы прагнем і надалей практыкаваць двухкірункавае прачытаньне: сучаснага мастацкага экспэрымэнту праз прызму мінуўшчыны й разам з тым праз прызму сучаснага экспэрымэнту, што дазволіць прасачыць дынамічную прыроду мастацтва. Аднaчасна мы бачым КАЛЕКЦЫЮ як адкрыты код, прапанову, не абцяжараную догмамі. Аднак мы хочам, каб яна мела ўласную тоеснасьць, якая паважае згаданыя прынцыпы й канкрэтызуецца праз угрунтаванасьць у люблінскім кантэксьце».

LTZSP было задуманае як таварыства, што аб'ядноае розныя люблінскія творчыя колы, ня столькі рэалізуючы іхныя паасобныя праграмы, колькі актуалізуючы іх веды пра культурную палітыку мясцовага самакіраваньня й Міністэрства культуры. Роля таварыства — інтэграцыя люблінскага мастацкага асяродздзя й інтэрпрэтацыя ранейшых мастацкіх праектаў у кантэксьце новых зьяваў і выклікаў у мастацтве.

У першую Ўправу таварыства ўвайшлі й працуюць Вальдэмар Татарчук, які прадстаўляе Асяродак пэрформансу, Яланта Мендэровіч, зьвязаная з галерэяй BWA, Зьбігнеў Собчук, які кіруе галерэяй «Конт», мастак Яраслаў Казяра й Марцін Лахоўскі з Інстытуту гісторыі мастацтва Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту (KUL).

Сярод твораў, сабраных у люблінскай Захэнце, між іншага, ёсьць працы Міраслава Балкі, Зоф'і Кулік, Дамініка Леймана, Юзэфа Рабакоўскага, Лявона Тарасэвіча, а таксама Элізы Гейлі, Зьдзіслава Квяткоўскага, Славаміра Марца — мастакоў, зьвязаных зь люблінскім асяродзьдзем. На аснове сваёй калекцыі люблінская Захэнта арганізавала вялікія прагляды сучаснага мастацтва: «Пульс фатаграфіі» ў Сэмінарах культуры (2009) і «Сіла Мастацтва» ў Львоўскім палацы мастацтва (2010).

Галерэя «Ліпова, 13» мае характар своеасаблівай лябараторыі. Паводле ідэі калекцыі, яна паказвае актуальныя тэндэнцыі ў мастацтве, зьвязаныя з новымі сродкамі й мэдыямі. Гэты характар адлюстроўвалі, напрыклад, выстава «Пасьлядоўнасьці» (2010), якая прэзэнтавала дасягненьні майстэрні Гжэгажа Кавальскага (Акадэмія мастацтва ў Варшаве), мультымэдыяльны праект пад назваю «atomy+bity», а таксама наватарскія пошукі ў рамках жывапісу, малюнку ці інсталяцыі (Славамір Томан, Томаш Малец), выставы, што адгукаюцца на зьявы поп-культуры («Punk's not dead»). Галерэя ўдзельнічае ў сумесных фэстывальных праектах, такіх як «ТрансЭўропа» (2011), стаўшы адкрытым асяродкам мастацкага жыцьця ў Любліне. Супрацоўнічаючы з Інстытутам гісторыі мастацтва KUL і Мастацкім факультэтам UMCS, яна рэгулярна праводзіць адкрытыя чытаньні, разглядаючы зьявы мінуўшчыны мастацтва праз прызму сучасных праблемаў і дасьледчых мэтадаў.

Разьмяшчэньне галерэі ў гандлёвым цэнтры Любліну «Plaza» дазваляе няспынна сутыкаць мастацкія праблемы з сучасным рынкам у ягоных прапагандысцкім і камэрцыйным вымярэньнях.

**Марцін Лахоўскі (нар. 1975)** — *ад'юнкт у Інстытуце гісторыі мастацтва Каталіцкага Люблінскага ўнівэрсытэту. Займаецца сучасным мастацтвам і гісторыяй мастацкай крытыкі. Апублікаваў кнігу «Авангард паводле інстытуцыі. Пра спосабы прэзэнтацыі мастацтва ў ПНР». Цяпер займаецца пытаньнямі сучаснага мастацтва й ягонага дачыненьня да ваеннага досьведу.*

**Галерэя «Конт» / Galeria «Kont»**
**Акадэмічны цэнтар культуры «Студэнцкая хатка» / «Chatka Żaka» UMCS**
ul. Zana 11, 20-601 Lublin,
***www.kont.umcs.lublin.pl***
*e-mail:* kont@kont.art.pl

**Галерэя «Ліпова, 13» / Galeria «Lipowa 13»**
**Lubelskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych**
ul. Lipowa 13, 20-024 Lublin
***www.zacheta.lublin.pl***
*e-mail:* info(at)zacheta.lublin.pl
*Старшыня:* Zbigniew Sobczuk

# Jarosław Koziara



**Ярaслаў Казяра**, «Свабоднае плаваньне» трансмежны land art на польска-ўкраінскай мяжы ў ваколіцах мястэчка Гарадзішча (PL) - Угрынаў (UA). Фота: Войцех Пацэвіч

**Jarosław Koziara**, „Swobodny przepływ”, transgraniczny land art na granicy polsko-ukraińskiej w okolicach miejscowości Horodyszcze (PL) - Uhrynów (UA). Fot. Wojciech Pacewicz

# Некаторыя культурніцкія падзеі ў Любліне

Апрацавалі Моніка Колба, Павел Лаўфэр



**Яраслаў Люстых**, «Ідэнтыфікацыі», Фестываль Open City /Адкрыты горад, Люблін, 2010. Фота: Гжэгаж Корнэт

**Jarosław Lustych**, „Identyfikacje", Festiwal Open City /Otwarte Miasto, Lublin, 2010. Fot. Grzegorz Kornet

**Фэстываль лэнд-арту / Landart Festival**

Галоўнай ідэяй фэстывалю зьяўляецца злучэньне мастацтва з прыродай, стварэньне мастацтва пры дапамозе прыродных рэсурсаў, сучаснага краявіду й прасторы. Фэстываль мае наблізіць сустрэчу гледачоў з мастацтвам непасрэдна ў натуральным краявідзе, шырэй распаўсюдзіць экалягічныя каштоўнасьці.

*Арганізатар:*
Маршалкоўскі пасад Люблінскага ваяводзтва
***www.landart.lubelskie.pl***

**Карнавал штукароў / Carnaval Sztuk-Mistrzów**

Фэстываль-відовішча з памежжа новага цырку й тэатру ў гарадзкой прасторы. Улучае таксама сэмінары для пачаткоўцаў і прафэсійных адэптаў цыркавога мастацтва. Карнавал узьнік як працяг і развіцьцё Фэстывалю штукароў.

*Арганізатар:*
Канцылярыя прэзыдэнта гораду Любліну — Бюро маркетынгу гораду Любліну
Сэмінары культуры
kontakt@sztukmistrze.eu
***www.sztukmistrze.eu***

**Міжнародны фэстываль пэрформансу / Międzynarodowy Festiwal Sztuki Performance**

Адным з прынцыпаў Плятформы пэрформансу ў Любліне зьяўляецца прэзэнтацыя розных шляхоў, стратэгіяў і кірункаў разьвіцьця гэтага мастацтва. У фэстывалі бяруць удзел мастакі з усяго сьвету, якія належаць да розных пакаленьняў. У праграме фэстывалю мастацкая практыка настолькі ж важная, як тэорыя мастацтва й адукацыя. Апрача паказаў пэрформансу адбываюцца сэмінары, даклады, дыскусіі, выставы, мультымэдыйныя прэзэнтацыі ды кінапаказы.

*Арганізатар:*
Галерэя «Лябірынт» / Galeria Labirynt
galeria@labirynt.com
***www.labirynt.com***

**Міжнародная біенале «Ўсходні салён мастацтва» / Międzynarodowe Biennale «Wschodni Salon Sztuki»**

Міжнароднае мерапрыемства конкурснага характару, скіраванае да мастакоў з Польшчы, Украіны, Беларусі й Літвы, прадугледжвае міждысцыплінарную форму прагляду выяўленчага мастацтва.

*Арганізатар:*
Люблінская акруга Саюзу польскіх мастакоў
zpapartlublin@neostrada.pl
***www.zpaplublin.pl***

**Міжнародны фэстываль «Найстарэйшыя песьні Эўропы» / Międzynarodowy Festiwal «Najstarsze Pieśni Europy»**

Падчас фэстывалю дэманструюцца самыя старажытныя сьведчаньні традыцыйнай культуры розных рэгіёнаў Эўропы. Кожнаму фэстывалю папярэднічаюць этнамузычныя дасьледаваньні, якія праводзяцца навуковымі асяродкамі з розных краінаў. Фэстываль суправаджаецца сэмінарамі традыцыйнага танцу з розных рэгіёнаў Эўропы, а таксама дыскусіямі, выставамі й дакладамі.

*Арганізатар:*
Цэнтар міжкультурных ініцыятываў «Ростані» / Ośrodek Międzykulturowych Inicjatyw Twórczych «Rozdroża»
Фонд «Музыка памежжа» / Fundacja Muzyka Kresów
rozdroza.lublin@gmail.com
***www.npe-festiwal.pl***

**Міжнародны фэстываль «Тэатральныя канфрантацыі» / Międzynarodowy Festiwal «Konfrontacje Teatralne»**

Адзін з самых вядомых і значных тэатральных фэстываляў Польшчы. Мае на мэце паказаць гледачам розныя тэатральныя традыцыі й формы. Кожны фэст канцэнтруецца вакол канкрэтнай культурнай або грамадзкай праблемы.

*Арганізатар:*
Цэнтар культуры ў Любліне
konfrontacje@ck.lublin.pl
***www.konfrontacje.pl***

**«L² — падвойная моц культуры Любліну й Львову»**

Гэта праект доўгатэрміновага мастацкага й культурнага абмену паміж творчымі асяродзьдзямі Любліну й Львову. Ён прадугледжвае абмен ідэямі, ведамі, досьведам, know-how у сфэры культуры й мастацтва. «L²» дае магчымасьць сустрэцца найперш прадстаўнікам «маладога», «экспэрымэнтальнага», незалежнага, альтэрнатыўнага, актуальнага, сучаснага мастацтва Польшчы й Украіны.

*Арганізатар:*
Фонд Транс Культура
Сэмінары культуры
m.artemiuk@warsztatykultury.pl
***www.warsztatykultury.pl***

**Форум сучаснага танцу / Forum Tańca Współczesnego**

Адбываецца чатыры разы на год, разам са зьменамі пораў году: увесну, улетку, увосень і ўзімку. Гэта цыкль спэктакляў, кінапаказаў, сэмінараў танцу й дакладаў, які мае на мэце паказаць самыя цікавыя дасягненьні тэатраў танцу з усяго сьвету.

*Арганізатар:*
Люблінскі тэатfр танцу — Цэнтар культуры ў Любліне
taniec@ck.lublin.pl
***www.ltt.art.pl***

**Міжнародны Фэстываль маладога кіно «Поўны мэтраж» / Międzynarodowy Festiwal Młodego Kina «Pełny Metraż»**

Ідэяй фэстывалю зьяўляецца прэзэнтацыя выключна поўнамэтражных фільмаў, якія паўсталі ў плыні незалежнага кіно. Фэстываль мае характар прагляду самых цікавых аўтарскіх фільмаў апошняга часу. Адбываецца ў форме конкурсу.

*Арганізатар:*
Кінатэатар «Праект» — Цэнтар культуры ў Любліне
kinoteatrprojekt@o2.pl
***www.kinoteatrprojekt.pl***

**Фэстываль невялікіх тэатраў / Festiwal Teatrów Niewielkich**

Формула фэстывалю прадугледжвае сумесную творчую прысутнасьць аматараў і прафэсійных актораў. Фэстываль стварае магчымасьць рабіць самастойны тэатар без пастаноўшчыкаў, рэжысэраў, сцэнографаў, адміністратараў, драматургаў. Да ўдзелу запрашаюцца перадусім тыя, хто жыве ў мястэчках і вёсках.

*Арганізатар:*
Ваяводзкі цэнтар культуры ў Любліне
ftn.lublin@gmail.com
***www.ftnlublin.wordpress.com***

**Міжнародныя сустрэчы тэатраў танцу / Międzynarodowe Spotkania Teatrów Tańca**

Мэтамі спатканьняў зьяўляюцца паказ найцікавейшых мастацкіх прапановаў прафэсійных тэатраў танцу з усяго сьвету, прасоўваньне польскіх артыстаў, якія шукаюць магчымасьці прэзэнтацыі й дыскусіі, а таксама падтрымка аматарскіх калектываў.

*Арганізатар:*
Люблінскі тэатар танцу — Цэнтар культуры
taniec@ck.lublin.pl
***www.dancefestival.lublin.pl***

**Агульнапольскі студэнцкі тэатральны фэстываль «Кантэстацыі» («Выразы пратэсту») / Studencki Ogólnopolski Festiwal Teatralny «Kontestacje»**

«Кантэстацыі» — гэта агляд студэнцкіх тэатраў, арганізаваны студэнтамі з кола Акадэмічнага цэнтру культуры «Студэнцкая хатка». Галоўнай ідэяй фэстывалю зьяўляецца шырока зразуметы пратэст супраць рэчаіснасьці, а таксама прапаганда тэатру сярод студэнтаў.

*Арганізатар:*
Акадэмічны цэнтар культуры «Студэнцкая хатка» / «Chatka Żaka»
kontestacje@ack.lublin.pl
***www.kontestacje.ack.lublin.pl***

**Міжнародны фэстываль народнай музыкі «Фальклёрныя Мікалайкі» / Międzynarodowy Festiwal Muzyki Ludowej «Mikołajki Folkowe»**
Самы стары й адзін з самых вялікіх у Польшчы фэстываляў традыцыйнай музыкі, а таксама яе папулярызатараў сярод сучасных слухачоў.

*Арганізатар:*
Аркестар Сьвятога Мікалая
mikolaje@poczta.umcs.lublin.pl
***www.mikolajki.folk.pl***

**Лютлінскі джазавы фэстываль / Lublin Jazz Festiwal**
Прадстаўляе выбітных джазавых музыкаў з усяго сьвету. Сваёй ідэяй фэстываль узыходзіць да дасягненьняў «Люблінскіх джазавых спатканьняў», дзе многія гады таму дэбютавалі выбітныя польскія творцы, такія як Станіслаў Сойка ці Эва Бэм.

*Арганізатар:*
Цэнтар культуры ў Любліне
impresariat@ck.lublin.pl
***www.lublinjazz.pl***

**Фэстываль музычнай традыцыі й авангарду «Коды» / Festiwal Tradycji i Awangardy Muzycznej «Kody»**
«Коды» сутыкаюць музычную традыцыю з сучаснасьцю. Гэта сутыкненьне й альянс архаічнай музыкі з джазам, электронікай, сучаснай клясычнай музыкай, саюз канону з гукавым экспэрымэнтам. Бальшыня прадстаўленых падчас фэстывалю праектаў — прэм’еры.

*Арганізатары:*
Цэнтар міжкультурных творчых ініцыятываў «Ростані»
Фонд «Музыка памежжа»
Кантакт:
info@kody-festiwal.pl
***www.kody-festiwal.pl***

**Літаратурны фэстываль «Горад паэзіі» / Festiwal Literacki «Miasto Poezji»**
Імпрэза з арыгінальнай і татальнай формулай ствараецца найперш жыхарамі гораду. Паэтычныя сустрэчы адбываюцца ў школах, паркавых алеях, у аўтобусах, прыватных кватэрах, шпіталях і нават турмах. У межах фэстывалю арганізуюцца таксама хэпэнінгі, пэрформансы, ствараюцца графіці, фрэскі, адбываюцца канцэрты, спэктаклі, кінапаказы.

*Арганізатар:*
Цэнтар «Гродзкая брама» — Тэатар NN / Osrodek «Brama Grodzka» — Teatr NN
Інстытут польскай філялёгіі KUL
teatrnn@tnn.lublin.pl
***www.miastopoezji.pl***

**Шматкультурны Люблін / Wielokulturowy Lublin**
Цыкль імпрэзаў, што прэзэнтуюць разнароднасьць культураў нацыянальных і рэлігійных меншасьцяў Любліну, іх суіснаваньне й узаемазалежнасьць. Праект не датычыцца іх традыцыі й мінуўшчыны, а дасьледуе сучасную шматкультурнасьць гораду. Галоўная ідэя фэстывалю — прасоўваньне талерантнасьці й міжкультурнага дыялёгу.

*Арганізатар:*
Цэнтар культуры ў Любліне
pracowniaslowa@ck.lublin.pl
***www.ck.lublin.pl***

**Ноч культуры / Noc Kultury**
Яе называюць культурнай маніфэстацыяй Любліну. Гэта адзіная ноч у годзе, калі культура прысутнічае ў масавым маштабе амаль паўсюдна, асабліва ў цэнтры й у Старым горадзе. Вуліцы, завулкі й плошчы зь вечару да раніцы запоўненыя культурнымі падзеямі. Мастакі паказваюць свае праекты, падрыхтаваныя адмыслова для гэтай нагоды, гледачоў чакаюць адкрытыя тэатры, музэі, канцэртныя залі.

*Арганізатар:*
Сэмінары культуры
Філіял Цэнтру культуры ў Любліне
info@nockultury.pl
***www.nockultury.pl***

**Фэстываль тэатраў Сярэдняй Эўропы «Суседзі» / Festiwal Teatrów Europy Środkowej «Sąsiedzi»**
Прэзэнтуе дасягненьні тэатраў з Усходняй і Сярэдняй Эўропы, ня толькі прафэсійных, але і незалежных і альтэрнатыўных творцаў.

*Арганізатар:*
Цэнтар культуры ў Любліне
ksenia@ck.lublin.pl
***www.festiwal-sasiedzi.pl***

**Фэстываль мастацтва ў публічнай прасторы «Open Sity» («Адкрыты горад») / Festiwal sztuki w przestrzeni publicznej «Open City» («Otwarte Miasto»)**
Заснаваны на ідэі перамяшчэньня твору мастацтва з прасторы музэю ў зьменлівае гарадзкое асяродзьдзе. Цягам месяцу мастакі ствараюць і паказваюць свае творы ў публічнай прасторы. Ідэя прадугледжвае, што мастацтва, упісанае ў адпаведнае месца, будзе жыва кантактаваць з гэтым месцам, з актуальнымі праблемамі канкрэтнай гарадзкой прасторы, пракамэнтуе або зьменіць тоеснасьць гэтай прасторы.

*Арганізатары:*
Цэнтар міжкультурных творчых ініцыятываў «Ростані»
info@opencity.pl
***www.opencity.pl***

**Фэстываль апавядальнікаў «Даю слова…» / Festiwal Opowiadaczy «Słowo daję...»**
Фэстываль, які культывуе цуд слова, заключаны ў гісторыях, расказаных апавядальнікамі з усёй краіны й удзельнікамі руху аднаўленьня традыцыяў апавяданьня storytelling revival. Фэстываль мае на мэце культываваньне жывога, размоўнага слова ў непасрэдным кантакце са слухачамі, перадачу забытых аповедаў народаў і культур.

*Арганізатар:*
Сэмінары культуры
animacjack@gmail.com
***www.warsztatykultury.pl***

**ТэктураФэст. Дні контркультуры / TekturaFest. Dni Kontrkultury**
Гэта нагода сустрэцца зь цікавымі контркультурнымі зьявамі, такімі як streetart, slam, squatting, канцэрты DIY, выставы, незалежнае кіно, тэатар, форум свабоды, а таксама ўзяць удзел у такіх ініцыятывах, як садовая партызанка, «Крытычная маса», fair trade. Усё гэта без датацыяў, спонсарынгу, незалежна, самастойна.

*Арганізатар:*
Прастора творчых дзеяньняў «Тэктура»
tektura.art.pl@gmail.com
***www.tektura.wordpress.com***

# Niektóre wydarzenia kulturalne w Lublinie

## Opracowanie Monika Kołba, Paweł Laufer



**Landart Festiwal**

Główną ideą festiwalu jest łączenie sztuki z naturą, tworzenie sztuki przy wykorzystaniu naturalnych zasobów, zastanego krajobrazu i przestrzeni. Festiwal ma na celu umożliwienie widzom bezpośrednie spotkanie ze sztuką w naturalnym krajobrazie, a także szerzenie wartości ekologicznych.

*Organizator:*
Urząd Marszałkowski Województwa Lubelskiego
***www.landart.lubelskie.pl***

**Carnaval Sztuk-Mistrzów**

Festiwal łączący widowiska z pogranicza nowego cyrku oraz teatru, które odbywają się w przestrzeni miasta. To także warsztaty dla początkujących i profesjonalnych adeptów sztuki cyrkowej. Carnaval wywodzi się i stanowi rozwinięcie Festiwalu Sztukmistrzów.

*Organizator:*
Kancelaria Prezydenta Miasta Lublin – Biuro Marketingu Miasta Lublin
Warsztaty Kultury
kontakt@sztukmistrze.eu
***www.sztukmistrze.eu***

**Międzynarodowy Festiwal Sztuki Performance**

Jednym z założeń Performance Platform Lublin jest prezentacja różnorodnych dróg, strategii i kierunków performansu.
W festiwalu biorą udział artyści z całego świata, należący do różnych generacji. W programie festiwalu praktyka artystyczna jest równie ważna jak teoria sztuki i edukacja. Oprócz pokazów sztuki performans odbywają się warsztaty, wykłady, dyskusje, wystawy, prezentacje multimedialne i projekcje filmów.

*Organizator:*
Galeria Labirynt
galeria@labirynt.com
***www.labirynt.com***

**Międzynarodowe Biennale „Wschodni Salon Sztuki"**

Międzynarodowa impreza o charakterze konkursowym, skierowana do artystów z Polski, Ukrainy, Białorusi i Litwy, zakładająca interdyscyplinarną formułę przeglądu twórczości plastycznej.

*Organizator:*
Okręg Lubelski Związku Polskich Artystów Plastyków
zpapartlublin@neostrada.pl
***www.zpaplublin.pl***

**Międzynarodowy Festiwal „Najstarsze Pieśni Europy"**

Podczas festiwalu prezentowane są najstarsze muzyczne świadectwa kultury tradycyjnej z różnych regionów Europy. Każdą edycję poprzedzają badania etnomuzykologiczne, prowadzone wspólnie z ośrodkami naukowymi z różnych krajów. Festiwalowi towarzyszy nauka tradycyjnych tańców z różnych regionów Europy, a także wystawy, dyskusje i wykłady.

*Organizator:*
Ośrodek Międzykulturowych Inicjatyw Twórczych „Rozdroża"
Fundacja Muzyka Kresów
rozdroza.lublin@gmail.com
***www.npe-festiwal.pl***

**Międzynarodowy Festiwal „Konfrontacje Teatralne"**

Jeden z najbardziej znanych i cenionych festiwali teatralnych w Polsce. Ma na celu ukazywanie odbiorcom różnych tradycji i form teatralnych. Kolejne edycje festiwalu koncentrują się wokół konkretnego problemu kulturowego lub społecznego.

*Organizator:*
Centrum Kultury w Lublinie
konfrontacje@ck.lublin.pl
***www.konfrontacje.pl***

**$L^2$ – potęgowanie kultury Lublina i Lwowa**

To projekt długotrwałej wymiany artystyczno-kulturalnej pomiędzy środowiskiem twórców z Lublina i Lwowa. Zakłada on wymianę idei, wiedzy, doświadczeń, know-how w obszarze sztuki i kultury.
$L^2$ daje możliwość spotkania przede wszystkim przedstawicieli „młodej", poszukującej, niezależnej, alternatywnej, aktualnej, nowoczesnej sztuki i kultury Polski i Ukrainy.

*Organizator:*
Fundacja Trans Kultura
Warsztaty Kultury
m.artemiuk@warsztatykultury.pl
***www.warsztatykultury.pl***

**Forum Tańca Współczesnego**

Odbywa się cztery razy do roku, wraz ze zmieniającymi się porami roku: wiosną, latem, jesienią i zimą. Jest to cykl spektakli, projekcji filmów, warsztatów tańca i wykładów, mających na celu zaprezentowanie najciekawszych dokonań teatrów tańca z całego świata.

*Organizator:*
Lubelski Teatr Tańca – Centrum Kultury w Lublinie
taniec@ck.lublin.pl
***www.ltt.art.pl***

**Międzynarodowy Festiwal Młodego Kina „Pełny Metraż"**

Ideą festiwalu jest prezentowanie wyłącznie filmów pełnometrażowych powstałych w nurcie kina niezależnego. Festiwal ma charakter przeglądu najciekawszych autorskich filmów niezależnych ostatniego okresu. Odbywa się on w formule konkursu.

*Organizator:*
Kinoteatr Projekt – Centrum Kultury w Lublinie
kinoteatrprojekt@o2.pl
www.kinoteatrprojekt.pl

**Festiwal Teatrów Niewielkich**

Formuła festiwalu przewiduje współobecność twórczą amatorów i aktorów zawodowych. Festiwal stwarza możliwość budowania teatru na własną rękę, teatru bez inscenizatorów, reżyserów, scenografów, administratorów, dramaturgów. Do uczestnictwa zapraszane są szczególnie osoby mieszkające w mniejszych ośrodkach miejsko-wiejskich.

*Organizator:*
Wojewódzki Ośrodek Kultury w Lublinie
ftn.lublin@gmail.com
***www.ftnlublin.wordpress.com***

**Międzynarodowe Spotkania Teatrów Tańca**

Celem Spotkań jest zarówno prezentacja najciekawszych propozycji artystycznych, prezentowanych przez profesjonalne teatry tańca z całego świata, jak też promowanie polskich artystów poszukujących możliwości prezentacji i dyskusji oraz wspieranie zespołów amatorskich.

*Organizator:*
Lubelski Teatr Tańca – Centrum Kultury
taniec@ck.lublin.pl
***www.dancefestival.lublin.pl***

**Studencki Ogólnopolski Festiwal Teatralny „Kontestacje"**

„Kontestacje" są przeglądem teatrów studenckich, organizowanym przez studentów zrzeszonych przy Akademickim Centrum Kultury „Chatka Żaka". Myślą przewodnią festiwalu jest szeroko pojęta kontestacja zastanej rzeczywistości oraz propagowanie teatru wśród studentów.

*Organizator:*
Akademickie Centrum Kultury UMCS „Chatka Żaka"
kontestacje@ack.lublin.pl
***www.kontestacje.ack.lublin.pl***

Яраслӑў Казяра, «Вока Цадыка», Фестываль Open City /Адкрыты горад, Люблін, 2010. Фота: Гжэгаж Корнэт
**Jarosław Koziara**, „Oko Cadyka", Festiwal Open City /Otwarte Miasto, Lublin, 2010. Fot. Grzegorz Kornet

**Międzynarodowy Festiwal Muzyki Ludowej „Mikołajki Folkowe"**

Najstarszy i jeden z największych w Polsce festiwali prezentujących muzykę, która czerpie z kultury tradycyjnej, a także popularyzujących ją wśród współczesnych odbiorców.

*Organizator:*
Orkiestra Świętego Mikołaja
mikolaje@poczta.umcs.lublin.pl
***www.mikolajki.folk.pl***

**Lublin Jazz Festiwal**

Prezentuje wybitnych muzyków jazzowych z całego świata. W swej idei festiwal nawiązuje do dokonań Lubelskich Spotkań Jazzowych, gdzie przed laty debiutowali wybitni polscy artyści, jak choćby Stanisław Soyka, czy też Ewa Bem.

*Organizator:*
Centrum Kultury w Lublinie
impresariat@ck.lublin.pl
***www.lublinjazz.pl***

**Festiwal Tradycji i Awangardy Muzycznej „Kody"**

Kody zderzają muzyczną tradycję ze współczesnością. To konfrontacja i alians muzyki archaicznej z elektroniką, jazzem, współczesną muzyką klasyczną, sojusz kanonu z dźwiękowym eksperymentem. Większość prezentowanych podczas festiwalu projektów to premiery.

*Organizatorzy:*
Ośrodek Międzykulturowych Inicjatyw Twórczych „Rozdroża"
Fundacja Muzyka Kresów
Kontakt:
info@kody-festiwal.pl
***www.kody-festiwal.pl***

**Festiwal Literacki „Miasto Poezji"**

Wydarzenie o oryginalnej, totalnej formule – tworzone przede wszystkim przez mieszkańców miasta. Spotkania poetyckie odbywają w szkołach, alejkach parkowych, w autobusach, mieszkaniach prywatnych, szpitalach, a nawetwięzieniach. W ramach festiwalu organizowane są także happeningi, performanse, powstają murale, graffiti, grane są koncerty, spektakle, odbywają się projekcje filmowe.

*Organizator:*
Ośrodek „Brama Grodzka – Teatr NN"
Instytut Filologii Polskiej KUL
teatrnn@tnn.lublin.pl
***www.miastopoezji.pl***

**Wielokulturowy Lublin**

Cykl wydarzeń, prezentujących różnorodność kultur, mniejszości narodowych i wyznaniowych w Lublinie, ich współistnienie i zależności. Projekt nie odwołuje się tylko do tradycji i przeszłości, ale przybliża współczesną wielokulturowość miasta. Główną ideą festiwalu jest promowanie tolerancji i dialogu międzykulturowego.

*Organizator:*
Centrum Kultury w Lublinie
pracowniaslowa@ck.lublin.pl
***www.ck.lublin.pl***

**Noc Kultury**

Nazywana manifestacją kulturalną Lublina, to jedyna noc w roku, kiedy kultura obecna jest na masową skalę niemal w każdej części miasta, zwłaszcza zaś w jego centrum i na Starym Mieście. Ulice, zaułki i place od wieczora do rana wypełnione są wydarzeniami kulturalnymi. Artyści prezentują swoje dokonania przygotowane specjalnie na tę okazję, na widzów czekają otwarte teatry, muzea, galerie, sale koncertowe.

*Organizator:*
Warsztaty Kultury
Filia Centrum Kultury w Lublinie
info@nockultury.pl
***www.nockultury.pl***

**Festiwal Teatrów Europy Środkowej „Sąsiedzi"**

Prezentuje dokonania teatrów z regionu Europy Środkowo-Wschodniej, nie tylko profesjonalnych, ale także twórców niezależnych i alternatywnych.

Organizator:
Centrum Kultury w Lublinie
ksenia@ck.lublin.pl
***www.festiwal-sasiedzi.pl***

**Festiwal sztuki w przestrzeni publicznej „Open City / Otwarte Miasto"**

Opiera się na idei uwolnienia działa sztuki od przestrzeni muzeum, na rzecz zmiennego otoczenia miasta. Przez miesiąc artyści tworzą i prezentują swoje dzieła w przestrzeni publicznej. Idea zakłada, by sztuka wpisana i czerpiąca z dziejowego kontekstu danego miejsca oraz współczesnych problemów konkretnej przestrzeni miejskiej, stała się tej przestrzeni komentarzem lub redefinicją.

*Organizatorzy:*
Ośrodek Międzykulturowych Inicjatyw Twórczych „Rozdroża"
info@opencity.pl
***www.opencity.pl***

**Festiwal Opowiadaczy „Słowo daję..."**

Festiwal kultywujący piękno słowa zawarte w niezwykłych historiach przedstawianych przez opowiadaczy z całego kraju oraz artystów działających w ramach ruchu odnowy tradycji opowiadania historii storytelling revival. Festiwal ma na celu kultywowanie żywego, mówionego słowa w bezpośrednim kontakcie ze słuchaczami, prezentowanie zapomnianych opowieści narodów i kultur.

*Organizator:*
Warsztaty Kultury
animacjack@gmail.com
***www.warsztatykultury.pl***

**TekturaFest. Dni Kontrkultury**

Jest to okazja, by spotkać się z ciekawymi działaniami kontrkulturowymi, takimi jak: streetart, slam, squatting, koncerty DIY, wystawy, kino niezależne, teatr, forum wolnościowe, a także wziąć udział w inicjatywach takich jak: partyzantka ogrodnicza, Masa Krytyczna, czy fair trade. Wszystko to bez dotacji, sponsoringu, niezależnie, na własną rękę.

*Organizator:*
Przestrzeń Działań Twórczych „Tektura"
tektura.art.pl@gmail.com
***www.tektura.wordpress.com***




Падпісана ў друк 03.10.2011. Фармат 70х100 1/8. Папера мелаваная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 12,5. Ул.-выд. арк. 12,55. Наклад 250 ас. Замова № 1974.

Выдавец І.П.Логвінаў. ЛИ 02330/0494468 ад 8.04.2009.
Пр-т Незалежнасці 19-5, г. Мінск, 220050

Друк ТДА «НоваПрынт». ЛП 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная 59-4-10, г. Мінск, 220047

# pARTisan 2011

# 16 Выпуск

## & Kultura Enter






**Паважаныя чытачы!**

Калі вы жадаеце рэгулярна й своечасова атрымліваць кожны наступны нумар альманаху pARTisan па мінімальным рэдакцыйным прайсе, пакіньце свае кантакты (імя, прозьвішча, тэлефон ці адрас электроннай пошты) у рэдакцыі pARTisana.

Зьвязацца з намі можна па тэлефонах:
+029 6534838 (Артур Клінаў), +029 6198053 (Аля Сідаровіч)
ці праз e-mail:
arturklinov@yahoo.de / alja.sidarovicz@gmail.com